ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

31 кастрычніка 1997 г. № 44/3920 Кошт 3 000 руб.

## НАМЕНКЛАТУРНАЯ МІФАЛОГІЯ І РЭАЛЬНАСЦЬ

**Анісім РОЛІК: "На першым месцы павінна стаяць асоба чалавека і яго правы на ўласнасць, на свабоду слова, на свабоду выбару, а не абстрактныя "грамадскія інтарэсы", якія на самай справе з'яўляюцца інтарэсамі наменклатурнага кіруючага клана".**

**5, 12**

## "НАД ІСЦІНАЙ ТАКАЯ ТАЎКАТНЯ..."

**Вершы Рамана ТАРМОЛЫ-МІРСКАГА**

**8**

## ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

**Леаніда ГАЛУБОВІЧА**

**9, 14—15**

## "МАСАВАЯ ЛІТАРАТУРА НЕ РОБІЦЬ ЧАЛАВЕКА ЛЕПШЫМ"

**Чынгіз АЙТМАТАЎ: "Цяпер адбылася змена эпох, змена сістэм, і мы, пісьменнікі, апынуліся ў новай грамадскай і творчай сітуацыі. Савецкая Атлантыда з усёй сваёй культурай і духоўнай маёмасцю, з усімі сваімі супярэчнасцямі і заганамі апусцілася на дно акіяна".**

**13**



## Дзяды

*Мільёны свечак асвяцілі Край,*
*Каб душы продкаў бачылі ізноў,*
*Што помнім іх і нашая любоў —*
*Адзіны існуючы ў свеце рай.*

*Мы молімся, мы плачам, мы маўчым.*
*Праз гэтае жыццё свае крыжы*
*Нясём, нібы ратунак для душы,*
*І ў вечнасць адлятаем, нібы дым.*

*Мільёнам свечак цэлы дзень гарэць*
*І нам глядзець у свет, куды ляцім,*
*Дзе меса ёсць, было і будзе ўсім,*
*Дзе нам усіх любіць і разумець.*

**Віктар ШНІП**

*Фота Кастуся ДРОБАВА*

## ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА

Шаноўныя чытачы, пачалася падпіска на наш тыднёвік на першую палову 1998 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт тыднёвіка на месяц — 15 тысяч, на квартал — 45 тысяч, на паўгоддзе — 90 тысяч.

**Наш індэкс — 63856.**

## Праз "я" наваколле адчуць



**Залатою сталася для Віктара Войціка сёлетняя восень. Адбылася яго юбілейная вечарына, і ў досыць шматлюдным асяроддзі Вялікай залы сталічнай філармоніі Віктар Войцік, наш знаны кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, адзначыў адным разам дзве падзеі: 50-годдзе з дня нараджэння ды 30-годдзе творчай дзейнасці.**

**Было, здаецца, усё, каб юбіляр пачуваўся ў атмасферы свята. Увага шаноўных калег; захопленасць на тварах дзяцей; віншаванні перад мікрафонам — ад пісьменніка Уладзіміра Ліпскага, кіраўніка Саюза кампазітараў Ігара Лучанка, першага намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі... Узнёслыя словы вядучых вечарыны Іны Зубрыч ды Уладзіміра Шаліхіна; пільныя позіркі тэлекамер; кветкі... І разнастайная канцэртная праграма, падрыхтаваная музыкантамі сталымі, маладымі, пачаткоўцамі: Сімфанічным аркестрам Дзяржтэлерадыё пад кіраўніцтвам Анатоля Лапунова, Акадэмічным хорам на чале з Віктарам Роўдам, ансамблем дамрыстаў з Галінай Асмалоўскай, гадаванцамі дзіцячай студыі пры Тэатры музычнай камедыі, піяністкай Людмілай Малышавай, спеваком Віктарам Скорабагатавым, цымбалістамі Ларысай Рыдлеўскай, Яўгенам Гладковым, Аксанай Хахол, Кацяй Іванчанкай, Ленай Зміtровіч ды інш., ды інш.**

**Было, здаецца, усё сказана пра ягоную творчую, педагагічную ды грамадскую (на саюзаўскіх пасадах, у Музфондзе) дзейнасць. Зала шчодра вітала яго — аўтара сімфоній, інструментальных канцэртаў, араторый, кантат, музычна-тэатральных твораў для дзяцей — оперы "Вясновая казка" ды мюзікла "Прыгоды ў замку Алфавіт", размаітых п'ес ды рамансаў. Новымі залацінкамі расквечваліся ўжо, лічы, хрэстаматыйныя "Забавы" для сімфанічнага аркестра, "Сюіта ў старадаўнім стылі" ды цымбальны канцэрт, жартоўная кантата "Як камар хадзіў у сваты"...**

**Ды ў думках маіх гэткім кантрапунктам віліся стракатыя ўражанні, якіх багата было за гады знаёмства з творчасцю Віктара Войціка.**

**Успамінаўся "Патрыятычны кант", які кампазітар напісаў на ўласны тэкст яшчэ тады, калі й гаворкі не было пра конкурс на стварэнне новага Дзяржаўнага гімна. Напісаў пад уплывам колішняй магутнай адраджэнскай хвалі: грамадзянскае пачуццё было настолькі шчырае, што слова нараджалася разам з мелодыяй, "пад якую" проста няможна было знайсці нечыя ўжо гатовыя вершы.**

**Успаміналіся цудоўныя цымбальныя мініяцюры: "Акварэль", "Гуканне вясны"... Яны, як, зрэшты, ці не ўсе п'есы Войціка, ствараліся дзеля канцэртнай практыкі канкрэтных выканаўцаў, дзякуючы якім кампазітар адчувае сваю працу запатрабаванай, перспектыўнай — жывой.**

**Успамінаўся тонкі гукапіс "Эолавай арфы" — гітарнай п'есы "Самотны вецер". І — "Апошняя восень паэта", камерная сімфонія для інструментальнага ансамбля і дваіх салістаў-спевакоў, шчымлівы эстэтычны лад якой высноўваўся з паэзіі Верлена, перакладзенай (перастворанай на ўласны сэрцапіс!) Максімам Багдановічам...**

**Успамінаўся даўнейшы аўтарскі канцэрт Віктара Войціка ў Зале камернай музыкі, калі ён — упершыню на маёй памяці — стаў за дырыжорскі пульт...**

**А яшчэ прыгадалася мне колішняя размова з Віктарам, калі прызнаўся раптам, што, каб не была наканавана доля кампазітара, дык, пэўна, стаў бы ён... доктарам.**

**І вось — дайце веры! — ад Уладзіміра Шаліхіна пачула "закулісную" рэпліку: "А ён вельмі падобны да чэхаўскага доктара Дымава..."**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Здымак зроблены ў 1994 г.*
*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

УГОДКІ

# ...Зазірнуць за небакрай

## ДА 115-АЙ ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА ПЕСНЯРА БЕЛАРУСІ ЯКУБА КОЛАСА

Восеньскія пейзажы, кранутыя задуменнай пазалотай урачыстасці і святочнасці, міжволі наводзяць на роздум аб вечным і непераходным. Менавіта ў такія восеньскія дні нарадзіўся пясняр, імем якога па праву ганарыцца кожны з нас.

Творчасць Якуба Коласа адносіцца да унікальных з'яў беларускага прыгожага пісьменства. Унікальнасць абумоўлена не толькі выяўленчай раскошай і хараством вобразаў і малюнкаў, дасканаласцю, і вытанчанасцю стыляў, але і глыбокай філасофскай змястоўнасцю, гуманізмам і жыццёвай праўдай ягоных твораў. Яны яднаюць у сабе духоўны вопыт нацыі, бясконцы інтэлектуальны патэнцыял таленавітага мастака, геніяльнага мысліцеля. У іх спрадвечна важныя пытанні жыцця і смерці, сэнсу і мэты чалавечага існавання, самакаштоўнасці творчай таленавітай асобы арганічна спалучаюцца з фундаментальнымі праблемамі грамадскага, сацыяльна-палітычнага, нацыянальна-патрыятычнага гучання.

Геніяльнасць надае універсальны характар пазнавальнай дзейнасці мастака ў свеце, надзяляе яго фантастычнымі магчымасцямі зазірнуць за небакрай будучыні, прыўзняць заслону нязведанага, спрагназаваць і прадбачыць тое, што сучаснікам здаецца далёкай і невыразнай перспектывай. У няспынным духоўна-эстэтычным пошуку ісціны, гармоніі, дасканаласці музы Якуба Коласа абганяе няспынную калясніцу гістарычнага часу, відушчая сіла творчага генія песняра праяўляецца амаль у кожным ягоным творы. Паэма "Новая зямля" — яскравы прыклад мастацка-эстэтычнага мадэлявання будучай рэальнасці: у паэтавай новай зямлі ўвасобяцца спрадвечныя ідэалы чалавецтва аб шчасці, свабодзе, гармоніі.

Праблеме пошукаў галоўным героем паэмы ўласнай зямлі крытыка заўсёды надавала шмат увагі. Выказвалася нямала розных і супярэчлівых меркаванняў, пакуль, нарэшце, гэтыя пошукі атрымалі станоўчую ацэнку. Было апраўдана імкненне Міхала да вольнага гаспадарання на зямлі, замацаванай правамі ўласнасці. Але асэнсаваць і цалкам спасцігнуць ісціну немагчыма, можна хіба толькі наблізіцца да яе. Адвечны працэс пазнання стымулюе яе пошук і ўяўляе сукупнасць альтэрнатыўных намаганняў, версій, тэорый, міфаў, аб'яднаных агульным трансцэндэнтным скіраваннасцю адкрыць універсальныя формулы быцця і вымярэння шчасця.

Якуб Колас не сцвярджае прыярытэты выключна індывідуальнага гаспадарання. У творчым пошуку ён імкнецца зазірнуць удалеч гістарычнай плыні жыцця. У савецкую эпоху ім быў дапісаны раздзел "Летнім часам". Раздзел уяўляе вялікае лірыка-філасофскае адступленне аўтара, працяг ягонага засяроджанага роздуму над лёсам роднай зямлі. Меркавалася, што Якуб Колас перадасць з ім дыханне і атмасферу новага часу, новай, шчаслівай будучыні, савецкай рэчаіснасці, якую нібыта ўжо пабачыў паэт і якая натхніла яго на стварэнне цудоўных запамінальных малюнкаў. Але ў 1922 годзе перспектывы новага жыцця былі яшчэ даволі няясныя і невыразныя, можна было хіба толькі здагадвацца аб станоўчых цінегатыўных выніках перамен, што пачаліся. Разважлівы і тонкі аналітык, Якуб Колас не спяшаўся ні да скептычнага адмаўлення, ні да пафаснага ўслаўлення новых ідэалаў. "Фантазія" паэта ўсяго толькі адпавядае аўтарскаму імкненню найбольш поўна і змястоўна



*Мал. Я. Ціхановіча, 1982 г.*

*...завяршыць малюнак лета.*
*Каб песня ўся была дапета*
*На мой манер і на мой лад*
*І апісаць усё падрад...*

Каларытныя, яскравыя малюнкі-мары Міхала аб уласнай зямельцы спалучаюцца з аўтарскімі варыянтамі, уяўленнямі, прагнозамі ў адзіны наймацнейшы матыў апафеозу жыццю:

***Эх, што за хваля і як дужа,***
***Разгонна, смела і агромна***
***Плыве па струнах тых з-пад Нёмна!***
***Ідуць касцы, звіняць іх косы,***
***Вітаюць іх буйныя росы,***
***А краскі ніжай гнуць галовы,***
***Пачуўшы косак звон сталёвы.***
***Касцы ідуць то грамадою,***
***То шнурам цягнуць, чарадою,***
***То паасобку, то па пары,***
***Ідуць касцы, ідуць, як хмары,***
***І льецца смех іх раздолы,***
***Як веснавыя перавалы.***

Паэт наўмысна ўзбуйняе станоўчыя рысы і мастацкая інтэрпрэтацыя яго найлепшых спадзяванняў нагадвае

***чары мілай казкі,***
***Якую ў часе вандравання***
***Ці адзінокага блукання***
***Табе складаюць думкі самі***
***І залатымі паясамі***
***Твае прыгоды спавіваюць***
***І лёсы жыцця аздабляюць.***

Якуб Колас шчыра вітае сапраўдных гаспадароў Бацькаўшчыны, якія здольныя ажыццявіць на ёй запаветныя ідэалы. І, відавочна, не будзе мець прынцыповага значэння, індывідуальнымі ці калектыўнымі намаганнямі здзейсніцца запавет.

Беражлівы і ўважлівы аналітычна-творчы падыход да спадчыны песняра дазваляе знайсці ў ёй адказ на многія супярэчлівыя сацыяльна-этычныя, маральна-духоўныя праблемы і пошукі сучаснасці, але найбольш поўны змест невычарпальных вобразаў і малюнкаў коласаўскіх твораў здольны расшыфраваць і выявіць час з улікам гістарычнага вопыту і інтэлектуальных набыткаў кожнага наступнага пакалення. Спадчына песняра, свет і жыццё

***...мнагалучны***
***І многавобразны, выключны,***
***Таемна схованы, цікавы***
***І разнастайны іх праявы,***
***Дзе кожны момант хвалі новай***
***Нам штосьць гутарыць сваёй мовай***
***Для сэрца і для разумення:***
***Дзе поўна ўсё свайго значэння,***
***Прыгоства, чар і глыбіні,***
***Дзе граюць вечныя агні,***
***Дзе патаемныя крыніцы***
***Звіняць, як струны зараніцы...***

**Жана ШАЛАДОНАВА,**
**малодшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы**

# "Бацькаўшчына" была з... Бацькаўшчынай

50 гадоў назад, 31 кастрычніка 1947 года, у Мюнхене выйшаў першы нумар газеты "Бацькаўшчына", якая выдавалася да снежня 1966-га, ператварыўшыся з 1955 года ў штотыднёвік палітыкі, культуры і грамадскага жыцця. З'яўленне "Бацькаўшчыны" — знамянальная для свайго часу падзея ў жыцці беларускага замежжа. З вышынь нясённяшніх аглядзін відочна, што выхад гэтага выдання спрыяў кансалідацыі беларусаў свету, садзейнічаў іх згуртаванню найперш на нацыянальнай ідэі. "Бацькаўшчына" мела свае прадстаўніцтвы (і, зразумела, распаўсюджвалася там) у такіх краінах, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Вялікабрытанія, Францыя, Бельгія, Новая Зеландыя, Венесуэла, Канада. Трапляла яна і ў Аўстралію, дзе, як вядома, пасля мінулай вайны таксама апынулася шмат беларусаў.

З першых жа нумароў "Бацькаўшчына" імкнулася настойліва спрыяць галоўнай задачы, якую яна лічыла для сябе першаступенай: "развіваць і паглыбляць беларускі патрыятызм, узбройваць... эміграцыйнае грамадства высокімі ідэйнымі якасцямі, выпрацоўваць жалезны гарт і ахвярнасць у вялікім змаганні за вызваленне нашай дарагой Бацькаўшчыны". Газета называла сябе органам "беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі".

А што намаганні па з'яднанні беларускага замежжа выступалі на першы план, яскрава сведчыць ужо тое, што ў "Бацькаўшчыне" рэгулярна публікаваліся пад рубрыкай "Па кутках эміграцыі" інфармацыйныя матэрыялы. Змяшчаліся і паведамленні аб найбольш значных падзеях міжнароднага жыцця. Газета з вялікай увагай ставілася да мінуўшчыны Беларусі, аб чым, у прыватнасці, гавораць шматлікія публікацыі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, разгортванні нацыянальна-вызваленчага руху ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Яны, як правіла, мелі вострыя, нярэдка палемічны характар. "Бацькаўшчына" не пагаджалася з ацэнкамі савецкай гістарыяграфіі. Не ва ўсім прымала яна і погляды па згаданых праблемах гісторыкаў ПНР.

Як, бадай, ніводнае беларускае эміграцыйнае выданне, газета часта звярталася да жыцця Беларусі ў дваццатыя гады, якія, як вядома, былі звязаны з актыўным разгортваннем беларусізацыі. Ухвалялася ўсё добрае, вартае пераймання і ўвагі, але, разам з тым, аўтары не адмаўлялі і негатыўнага, звязанага з партыйным і ідэалагічным дыктатам, з жаданнем гэтым працэсам надаць кантралюемы характар.

"Бацькаўшчына" друкавала і літаратурныя творы. На яе старонках выступалі Наталля Арсеннева, Юрка Віцьбіч, Уладзімір Дудзіцкі, Міхась Кавыль, Рыгор Крушына, Алесь Салавей, Масей Сяднёў і іншыя пісьменнікі, хто па волі лёсу аказаўся за межамі Бацькаўшчыны і хто, дзякуючы газеце, знайшоў магчымасць гаварыць з суайчыннікамі аб набалелым. У сувязі з гэтым не лішнім будзе нагадаць, што перадрукоўваліся і творы савецкіх беларускіх пісьменнікаў, пісалася пра літаратуру, мастацтва, культуру Савецкай Беларусі. Зноў жа, тут ацэнкі звычайна розніліся ад афіцыйных, хоць, трэба быць справядлівым, былі не заўсёды аб'ектыўнымі, асабліва асобных, што датычылі папрокаў канкрэтным творцам.

Акрамя літаратурнага, у "Бацькаўшчыны" быў і жаночы дадатак, а яшчэ дзіцячы, што атрымаў назву "Каласкі". Разгарнула газета і актыўную, шырокую выдавецкую дзейнасць, у выніку якой выйшлі кнігі Янкі Купалы (вялікі аднатомнік, у якім прадстаўлены і тыя Купалавы творы, якія ў нас не адно дзесяцігоддзе былі "забыты"), Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага (яго творчая спадчына, як вядома, у нас выдадзена літаральна на днях, калі дзякуючы Язэпу Янушкевічу выйшла кніга В. Ластоўскага "Творы" ў серыі "Беларускі кнігазбор"), Лукаша Калюгі, Андрэя Мрыя, Юркі Віцьбіча, Рыгора Крушыны... Выпусціла "Бацькаўшчына" і калектыўны зборнік "Ля чужых берагоў" — свайго роду анталогію беларускай літаратуры замежжа, у якім прадстаўлены многія аўтары, найперш паэты, хоць можна пазнаёміцца і з творчасцю асобных празаікаў.

Выдавецкая дзейнасць "Бацькаўшчыны" ажыццяўлялася на высокім узроўні. Усе згаданыя кнігі хутчэй за ўсё трэба ахарактарызаваць як навукова-масавыя. Творам, як правіла, папярэднічалі грунтоўныя ўступныя артыкулы, па меры магчымасці называліся публікацыі, што былі ў згаданых аўтараў раней, прыводзіліся біяграфічныя звесткі.

"Бацькаўшчына" заўсёды была з Бацькаўшчынай, і яе роля ў адстойванні нацыянальнай ідэі вельмі значная.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ШЛЯХІ

# Наменклатурная міфалогія і рэальнасць

## МІФ ПЕРШЫ

Як вядома, найбольшым міфам камуністычнай наменклатуры быў міф пра тое, што "рабочие и крестьяне — хозяева общенародной собственности, фабрик, заводов, земли".

Безумоўна, агульнанародная ўласнасць — гэта сума асабістай уласнасці кожнага з нас, і само сабою, што найбольшы ўклад у стварэнне гэтай уласнасці ўнеслі рабочыя, сяляне, навукова-тэхнічная і творчая інтэлігенцыя. Менавіта іх розумам і рукамі створаны ўсе наяўныя матэрыяльныя і духоўныя набыткі.

Але ж уласнікам, паводле класікаў марксізму, з'яўляецца толькі той, хто гэтай уласнасцю кіруе, распараджаецца і карыстаецца, хто мае права яе куплі-продажу і хто гэту ўласнасць можа пакінуць нашчадкам.

Што з гэтага мелі ды і цяпер маюць тыя, хто стварыў гэту ўласнасць, а менавіта — рабочыя і сяляне? Ды анічога. Фактычным і неабмежаваным гаспадаром амаль усіх сродкаў вытворчасці і амаль 90 працэнтаў зямлі пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года стала камуністычная партыйная наменклатура. Яна складалася ў асноўным з тых, хто ў сваёй большасці не сеяў, не выпускаў прадукцыю, не будаваў, не ажыццяўляў навукова-тэхнічных ідэй канструктарскіх і тэхналагічных распрацовак, не лячыў хворых, не ствараў твораў мастацтва. Але якраз гэты злачынны клан доўгія дзесяцігоддзі непадзельна заставаўся калектыўным уласнікам нашай агульнанароднай уласнасці.

## МІФ ДРУГІ

Другім пашыраным міфам быў тэзіс пра адсутнасць "класса эксплуататоров в социалистическом обществе".

Ступень эксплуатацыі чалавека чалавекам (альбо адной групы людзей другой) вызначаецца перш за ўсё колькасцю прысвойваемай працы і тым, як гэтая прысвоеная праца выкарыстоўваецца. Паколькі калектыўным уласнікам агульнанароднай уласнасці з'яўлялася камуністычная наменклатура, то яна была і асноўным працадаўцам для тых, хто ўласнасці альбо наогул не мае, альбо мае яе недастаткова. Тыя, каму неабходна як-небудзь пракарміць і апрануць сябе і сям'ю, вымушаны наймацца да яе практычна на любых умовах, якія яна дыктавала, паколькі іншых працадаўцаў не было.

Пры гэтым замоўчвалася, што ў дэмакратычных краінах з рынкавай эканомікай з кошту выпрабленага прадукта на заробак ідзе ад 30 да 60 працэнтаў. А на тэрыторыі былога СССР нават у самыя лепшыя часы — толькі ад 6 да 15 працэнтаў і яшчэ каля 5 працэнтаў вярталася ў выглядзе "бясплатного" медыцынскага абслугоўвання і адукацыі.

Тая, большая частка нацыянальнага прадукта, якая заставалася ў руках наменклатуры, часткова ішла на ўзнаўленне вытворчасці і на будаўніцтва, утрыманне наменклатуры (зараз "вертыкалі") і, у сувязі з іх невысокім прафесійным узроўнем як кіраўнікоў, на пакрыццё безгаспадарчасці і марнатраўства, на ахову кіраўніцтва, праўрадавую прэсу.

Наменклатура з'яўлялася калектыўным эксплуататарам тых самых рабочых, сялян, навукова-тэхнічнай і творчай інтэлігенцыі, а таксама састарэлых, інвалідаў і моладзі, якія яна бессаромна рабавала і аб абароне якіх крычала на ўвесь свет.

Прыгадаем сёе-тое з гісторыі.

Асноўнымі прычынамі, якія спрыялі кастрычніцкаму перавароту 1917 года, акрамя незадавальнення народа вайной, было тое, што ў Расіі, у адрозненне ад іншых еўрапейскіх краін таго часу, не былі створаны моцны сярэдні клас уласнікаў. Менавіта моцны сярэдні клас уласнікаў з'яўляецца гарантам стабільнасці грамадства і яго эканамічнага развіцця. Спецыфічнае становішча сярэдняга класа ўласнікаў такое, што ён, каб забяспечыць сабе існаванне ва ўмовах пастаяннай канкурэнцыі, вымушаны інтэнсіўна працаваць. Стымуламі для працы з'яўляюцца, з аднаго боку, жаданне падняцца вышэй па лесвіцы сацыяльнага дабрабыту і перайсці ў вышэйшы клас (адносна невялікі), з другога — боязь страціць уласнасць, застацца без сродкаў існавання і ўрэшце папоўніць клас люмпенаў (таксама адносна невялікі).



*Фота А. Клешчука*

Менавіта таму моцны сярэдні клас уласнікаў з'яўляецца найбольш працаздольным, менавіта ў ім сканцэнтравана большая частка інтэлекту. Агульным становішчам гэтага найбольш шматлікага класа вызначаецца эканамічнае і палітычнае становішча ў грамадстве.

Расійская спецыфіка заключалася ў тым, што адмена прыгоннага права ў 1861 годзе не прывяло да стварэння моцнага сярэдняга класа ўласнікаў. Зямля ў асноўным так і засталася ў руках буйных землеўладальнікаў і памешчыкаў, а фабрыкі і заводы — у руках невялікай колькасці буйных уладальнікаў. Такая сістэма не магла забяспечыць эканамічнае развіццё і дабрабыт грамадства. Стварыць у Расіі моцны клас сярэдніх уласнікаў пачаў Сталыпін, але ён быў забіты і працэс, пачаты ім, быў спынены. Менавіта нежаданне буйных уласнікаў падзяліцца ўласнасцю з народам і прывяло да кастрычніцкага перавароту з яго трагічнымі вынікамі, калі былі знішчаны амаль поўнасцю тыя, хто стварыў уласнасць ці падзяліўся з народам, а пасля і тыя, што паспелі нібыта сёетое займець.

Галоўнае пытанне, якое так і не вырашана да гэтага часу на большай частцы былога СССР, гэта пытанне аб уласнасці на асноўныя сродкі вытворчасці і зямлю. Фактычна адбылася толькі замена ўласнікаў. Фізічна знішчыўшы былых гаспадароў, ці вымусіўшы іх збегчы за межы краіны, улада замяніла іх сваімі, з той толькі розніцай, што ранейшаму памешчыку зямля і гаспадарка даставалася ў спадчыну альбо ў выніку куплі, а цяперашні ўласнік зямлі (старшыня калгаса ці дырэктар саўгаса) прызначаны наменклатурай і фактычна толькі ёй падсправаздачны. Тое ж адбылося ў прамысловасці і гандлі.

Ва ўмовах таталітарнай сістэмы, разнавіднасцю якой з'яўляецца і камуністычная, дзе пераважная большасць насельніцтва валодала толькі міззрам "агульнанароднай" уласнасці, барацьба за ўладу была і ёсць перш за ўсё, барацьбой за права распараджацца і карыстацца гэтай большай часткай "агульнанароднай" уласнасці дзеля задавальнення асабістых і вузкакланавых патрэб партыйнай прамыслова-аграрнай наменклатуры і дзе народу ў гэтай барацьбе адводзіцца ў асноўным роль статыста. Не кіруючыся ніякімі рамкамі агульначалавечай маралі, папіраючы нават свае законы, якія яны самі прынялі, не спыняючыся ні перад чым дзеля захавання свайго панавання, гэтыя сілы былі гатовыя задушыць, нават патапіць у крыві кволыя парасткі дэмакратыі, як гэта здарылася ў Кітаі, Карэі, Грузіі, Азербайджане і іншых краінах.

## МІФ ТРЭЦІ

Яшчэ адзін міф, які ўсяляк укараняюць у нашу свядомасць неакамуністы, — гэта міф аб правільнасці марксісцка-ленінскай тэорыі.

Правільнасць любой тэорыі вызначаецца практыкай.

Больш як семдзесят гадоў развіцця СССР, Кітая і іншых так званых сацыялістычных краін толькі падкрэсліваюць памылковасць гэтай тэорыі. Спробы ажыццяўлення на практыцы марксісцкай тэорыі прывялі да знішчэння дзесяткаў мільёнаў людзей "во имя социалистической мировой революции", а народы гэтых краін — да агульнага заняпаду, эканамічнай адсталасці, да вынішчэння навакольнага асяроддзя.

Дастаткова параўнаць тыя краіны, дзе "перамог сацыялізм" і дзе гэтага не адбылося. Напрыклад, Кітай і Тайвань, Паўночную і Паўднёвую Карэю, Расію і былы асколак Расійскай імперыі Фінляндыю, і г. д.

## МІФ ЧАЦВЁРТЫ

Гэта міф аб тым, што эканамічны крызіс на тэрыторыі рэспублік былога СССР усё нібыта вынік распаду адзінай эканамічнай прасторы і былых эканамічных сувязей. Чаго тут больш — крывадушша ці хлусні?

Паспрабуйце пагартаць нашу прэсу 60—70-х гадоў. Там можна знайсці шмат прыкладаў, калі прадпрыемствы зрывалі пастаўкі адзін аднаму, хоць паміж рэспублікамі не было наогул ніякіх рэальных межаў, мытных тарыфаў і была адзіная рублёвая зона. А вось, напрыклад, невялікая нейтральная Швецыя вырабляе сучасныя самалёты, аўтамабілі, іншую высакакласную тэхніку. Дзеля выпуску, напрыклад, звычайных бензапіл шведы закупляюць рухавікі ў Германіі, частку камплектуючых — у Нарвегіі, хоць у гэтых краінах і свае грошы, і свае межы. І нічога, жывуць шведы лепш за нас. Ці, скажам, Японія. У ёй — больш за сто дваццаць мільёнаў чалавек, яна амаль не мае ні свайго лесу, ні нафты, але чамусьці не просіцца ў СНГ, дзе багатая сыравінная база.

Дык, можа, знаходжанне ў складзе такой вялікай імперыі гарантавала абарону і бяспеку яе грамадзян?

У гады другой сусветнай вайны невялікая нейтральная і заможная Швейцарыя, знаходзячыся пад бокам гітлераўскай Германіі, не панесла амаль ніякіх ахвяр і засталася незалежнай. У той жа час Беларусь, знаходзячыся ў складзе вялікага СССР, страціла амаль 2,5 мільёна сваіх грамадзян. Камуністы гавораць, што ў тых ахвярах павінен германскі фашызм. Безумоўна, павінен. Але ж і фашызм, і камунізм — дзеці "аднаго бацькі і маці", у аснове аднаго і другога ляжаў усё той жа сацыялізм, розны па сваёй форме, але аднолькава бесчалавечны па сваім крывавым змесце.

А пасля заканчэння другой сусветнай вайны хіба не гінулі дзесяткі тысяч нашых грамадзян у лакальных войнах? Дастаткова ўспомніць Карэю і Афганістан. А хіба зараз не гінуць людзі ў Закаўказзі і Таджыкістане, дзе ва ўладзе знаходзіцца ўсё тая ж камуністычная наменклатура?

Так што, як бачым, знаходжанне ў складзе вялікай дзяржавы яшчэ не гарантуе ні дабрабыту, ні бяспекі яе грамадзянам.

На першым месцы павінна стаяць асоба чалавека і яго правы на ўласнасць, на свабоду слова, на свабоду выбару, а не абстрактныя "грамадскія інтарэсы", якія на самай справе з'яўляюцца інтарэсамі наменклатурнага кіруючага клана. Сёння, перасеўшы ў большасці з былых цэкоўскіх, абкамаўскіх і райкамаўскіх крэслаў у крэслы кіраўнікоў выканаўчых структур, перш за ўсё прэзідэнцкай "вертыкалі", клан гэты зараз фактычна выконвае тыя ж самыя функцыі, якія выконвалі раней ЦК, КПБ, абкамы і райкамы. А менавіта — усім кіраваў (кіруе) і ні за што не адказваў (не адказвае) перад народам. Адказнасць у іх толькі ўнутрыкланавая. Ну, а так званыя "грамадскія інтарэсы" толькі тады грамадскія, калі яны складаюцца з інтарэсаў кожнай канкрэтнай асобы.

## МІФ ПЯТЫ

Зараз зноў укараняецца ў свядомасць людзей ілжывы тэзіс, паводле якога пры камуністах у СССР быў устойлівы дабрабыт, а тагачасны савецкі рубель характарызаваўся стабільнасцю.

Сапраўды, пасля грашовай рэформы і хрушчоўскай "адлігі" да пачатку 80-х гадоў назіралася павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. Адначасам, што тры дзесяцігоддзі назад былі асвоены цалінныя землі, і таму зменшылася патрэба ў імпарце замежнага хлеба; быў уведзены гарантаваны мінімум зарплаты, які складаў 60 рублёў у месяц; з'явілася крыху больш тавараў у крамах, а жыхары вёсак у рэшце рэшт атрымалі пашпарты і магчымасць змены месца жыхарства ў межах краіны. У той жа час быў дасягнуты ваенны парытэт з ЗША.

Але не трэба забываць, што пасляваеннае аднаўленне гаспадаркі адбывалася за кошт татальнага рабавання вёскі і амаль бясплатнай працы дзесяткаў мільёнаў нашых грамадзян. У 50-я гады калгаснік мог зарабіць на працадзень 5 капеек і 200 грамаў гірсы (сумесь жыта з аўсюком), а за дзень працы ён мог зарабіць максімум чатыры працадні. У той час 5 капеек каштаваў рыбалоўны кручок, альбо паўкарабка запалак.

У 60-я гады сярэднемесячная зарплата ў вёсцы на палявых работах складала 30 рублёў у месяц, крыху больш мелі даглядчыкі жывёлы і механізатары. А пара кірзавых ботаў каштавала 11 рублёў. У калгаснікаў не было не толькі водпускаў, але і выхадных.

Той "дабрабыт" ствараўся і за кошт масавага безагляднага разграблення айчынных прыродных багаццяў. У сярэдзіне 60-х гадоў у Паволжы пачалася інтэнсіўная распрацоўка буйных радовішчаў нафты. Былі заключаны доўгачасовыя дамовы на пастаўку нафты і газу ў краіны Заходняй Еўропы з сустрэчнай пастаўкай труб для будаўніцтва нафта- і газаправодаў. У выніку ў СССР пайшлі так званыя нафтадолары. Менавіта за гэтыя сродкі на Захадзе куплялася імпартнае абсталяванне, узводзіліся такія гіганты, як КАМаз і ВАЗ, заводы нафтахіміі. Пачалася будоўля веку Байкала-Амурская магістраль, хуткімі тэмпамі развіваўся ваенна-прамысловы комплекс, паглынаючы дзесяткі мільярдаў валюты штогод. За кошт нафтадолараў ажыццяўлялася шчодрае фінансаванне "нацыянальна-вызваленчых рухаў" і грашовая падтрымка замежных кампартый. Рэшткі ішлі на закупку прадуктаў харчавання, вырабаў лёгкай прамысловасці, медыкаментаў.

Але ў выніку інтэнсіўнай эксплуатацыі ўжо ў пачатку 80-х гадоў лёгкадаступныя радовішчы прыродных багаццяў былі вычарпаны. Асваенне ж новых буйных радовішчаў у Сібіры і на Поўначы краіны патрабавала велізарных капіталаўкладанняў. Таму ўжо з 1972 г. з'яўляюцца прыкметы эканамічнага крызісу. Паток нафтадолараў пастулова слабеў, а тыя сродкі, якія паступілі раней, былі выкарыстаны далёка не лепшым чынам. Пачаўся спачатку не вельмі значны рост цэн на мясапрадукты. Узніклі і пашырыліся

*(Працяг на стар. 12)*

## Адно з самых адметных

Трэці год выходзіць незалежная газета "Белавежская Пушча". Выдавец і рэдактар Валерый Дранчук назваў сваё выданне прыродалюбным. Гэта вельмі канкрэтна, дакладна і, трэба сказаць, арыгінальна вызначае тэматыку і канцэпцыю газеты. Сапраўды, лозунг аб рацыянальным выкарыстанні прыродных багаццяў сёння стаў здзеклівым, ганебным, кашчунным таўром. Прыроду засталося толькі любіць, толькі захоўваць.

Адметнай асаблівасцю "Белавежскай Пушчы" з'яўляецца тое, што вострыя праблемы экалогіі яна вырашае не толькі грунтоўна, але і па-мастацку ярка, вобразна. Гэта, зноў жа, арганічна стасуецца з канцэпцыяй газеты, якая нацэлена не толькі адлюстроўваць, фіксаваць, аналізаваць, але і апяваць, паэтызаваць, зачароўваць. Магія роднага слова, якой выдатна валодае В. Дранчук, дазваляе яму дасягнуць гэтага.

Прыгажосць не можа абыходзіцца без рамантыкі, таму на старонках "Белавежскай Пушчы" несумненна прысутнічае элемент рамантызму. Апошнія нумары сведчаць, што сам рэдактар канчаткова прыйшоў да несуцяшальнай для сябе высновы: Белавежская пушча, якую ён выбраў прадметам свайго адлюстравання і паэтызацыі, зараз з'яўляецца калі не ілюзіяй, дык, прынамсі, марай, якой патрэбны неадкладнае ратаванне і паўнакроўнае рэальнае ўвасабленне.

В. Дранчук гатовы бараніць святыню краю. Краязнаўчая па тэматыцы і сутнасці яго газета чым далей тым болей набывае выразны грамадзянска-патрыятычны пафас. Падкрэсліваецца, што пры цяперашнім дзяржаўным кіраўніцтве над пушчай вісіць Дамоклаў меч далейшага яе спусташэння і вырраджэння. Пушчу могуць спляжыць, зруйнаваць піламі, меліярацыйнымі механізмамі, забавамі, паляваннем.

Газета "Белавежская Пушча" робіцца намаганнямі практычна аднаго чалавека — яе рэдактара В. Дранчука. Высакароднасць тэматыкі, актуальнасць і глыбіня праблем, яркая мова, мастацкае афармленне робяць яе адным з самых адметных перыядычных выданняў нашай краіны.

**Іван ІВАШКА**

## Сярод самых прыгожых



Пераможцай у адной з намінацый прэстыжнага міжнароднага конкурсу "Inter miss-97", які праходзіў ва ўкраінскім горадзе Цярнопаль, стала студэнтка Віцебскага гуманітарнага інстытута Таццяна Мясаедава. Сярод самых прыгожых дзяўчат Украіны, Польшчы, Чэхіі, Латвіі і Грузіі яна была адзінай прадстаўніцай нашай краіны.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

***Якая музыка гучыць у лабірынтах душы чалавечай? Якое Боскае майстэрства трэба мець, каб пачуць яе і пазначыць тайнапісам слоў, каб выявіць узнікшую ідэю, паднясць з глыбіняў свядомасці нейкую прасветленую ісціну?***

***І як імгненням быцця надаць значэнне мастацкага факта, а каштоўнасці ўсвядомленага сузірання — сутнасць арэчаўлёнага і вытлумачанага ў фразах, гуках, зрокавым выяўленні?***

***А тым больш — як адчуць чужую духоўную транспазіцыю? Як тоесную і адрозную ад сваёй уласнай? Як унутраны маналог душы і інтэлекту? Ці — хутчэй — як фрагменты, накіды, мастацкія шыфроўкі тых маналогаў?***

***І ўсё гэта — на фоне рэчаіснасці, складанай і прымітыўнай, прадвызначанай і непрадказальнай, існуючай паводле законаў натуры і гісторыі і паводле штуршкоў стыхій: прыродных катаклізмаў, грамадскіх выбухаў, свядомасных узрушэнняў.***

***На перакрыжаваннях — літаратурных рэалій, калі пра аўтара можна меркаваць паводле існуючых эстэтычных крытэрыяў і паводле ўласных законаў творчасці, бо — нельга не згадзіцца з адным з вялікіх творцаў: "...кожны паэт будзе ўрэшце ацэньвацца па тым, чаго ён варты быў як крытык (свой уласны)".***

# Цянёты вечнасці і ідэя быцця

### ТВОРЧЫ АБРЫС — НА ФОНЕ І НА СКРЫЖАВАННЯХ

...Корань і пачатак асобы Яна Чыквіна — у паэзіі і ў адносінах да сябе ён, падобна, суддзя жорсткі. Але парабалу яго творчасці нельга ўявіць без даследчыцкіх і культуралагічных вопытаў паэта, без разнастайных сведчанняў яго пранікнення ў духоўныя перыпетыі канца другога тысячагоддзя. Духоўныя перыпетыі, што ўвасабляюць у сабе і расклад быцця са спрадвечнымі чалавечымі ўяўленнямі пра дабро і шчасце, засяроджанасцю сэнсаў сусвету, маральнымі каштоўнасцямі, уяўленнямі пра Боскага Тварца, пра "класічны" гуманізм з яго нетрагічным складам — і трагічную, крызісную, катастрафічную свядомасць канца XX стагоддзя, трагічнае жыццеадчуванне, чуццё карэннай бяссэнсіцы існавання, апакаліптычныя знакі канца тысячагоддзя. Да таго ж — усведамленне існавання ў сучаснай цывілізацыі, у арэале культуры свету і Захаду найперш, і складанасць існавання ў памежжы нацыянальных культур, літаратур, моў. У існаванні — калі права на сваю крэўную, беларускую мову трэба абвясціць і адстаяць. І — працаваць — у тым няпэўным культуровым арэале, які асэнсавана чуе кожны беларускі літаратар: не толькі ў Польшчы, як Ян Чыквін, не толькі ў ЗША, Канадзе ці Ангельшчыне, але і ў сваёй, так бы мовіць, метраполіі. Бо гістарычная і свядомасная сутнасць нашай нацыі часам пачынае выяўляцца не мацерыковым грунтам, а плынямі, выспамі, ледзь не Атлантыдамі.

Але ж ёсць у нас і нешта вельмі трывалае, карнявое і разам з тым вяршыннае, духоўнае, што ў самых неспрыяльных умовах усё ж не дае знікнуць таму, паводле Арыстоцеля, духоўнаму, неарэчаўлёнаму, тым эйдасам, ідэям, якія зусім знішчыць, мне здаецца, немагчыма. Але ж доўгія гістарычныя перыяды гвалтоўнага і напорыстага нацыянальнага ўціску прымушаюць кожным разам, з кожнай новай хваляй Адраджэння, даказваць, пераконваць — даводзіць філасофскім: публіцыстычным, мастацкім спосабам — што мы былі, ёсць, будзем.

Безумоўна, яскравае сведчанне трывучасці беларускага слова — не ў сэнсе ўпарадкаванага слоўнага россыпу, а ў сэнсе існавання літаратараў у пэўнай адзінасутнаснай няўхільнасці, у сваім асабістым творчым быцці, звязаным, аднак, з нацыянальнай ментальнасцю — існаванне беларускіх пісьменнікаў за межамі краіны.

Існаванне Яна Чыквіна... У прыватнасці...

Як постаці самаадметнай, звязанай, згадаю зноў, з культурай Захаду і культурай Беларусі — і як асобы самотнай, самотнай па сутнасці сваёй, са спалучэннем у свядомасці сусветна-значнага і запаветна-асабістага, калі адчуваюцца конадні самаўсведамлення, якое забяспечвае чалавеку каштоўнае апірышча, нягледзячы на чараду дасягненняў-страт, збытых сэнсаў, беспрытульнасці ў сусвеце і душэўнай неўладкаванасці ў акаляючай рэчаіснасці. Мушу падкрэсліць — менавіта **апірышча**, таму што Ян Чыквін з яго пранікліваю увагай да зменлівасці сутнасная, з яго насцярожанасцю да ўпартай відавочнасці з'яў, з яго даверам-недаверам да пабытавага ў шэрагу быційнага, з наплывамі скрушнай трывогі, мае патрэбу — сцверджаную — у сувязі з жыццём сусвету, магчыма, не сусветнай гармоніяй, не ў сваце жыцця на зямлі, не ў светабудове, якую можна прыстасаваць для хатняга ўжытку, — але ў нейкім ураўнаважанні трагічнага і гуманістычнага ў светаразуменні, у пэўнай згодзе з існым.

Ян Чыквін умее шчасліва згадаць — адначасова з наівам звычаёвага чалавека і мудрасцю філосафа:

*Мы жывём. Якая радасць гэта!*
*Мы жывём, як антытэза*
*да прадметаў.*
*Адчуваючы, мы бачым, ходзім*
*Па зялёнай сферы быту.*

Разам з ім далучаемся мы да гэтай гадзіны быцця, якая не можа і не хоча змясціцца ў межах біяграфіі, у межах непасрэднага вопыту. Менавіта — быцця, таму што "светлы міг" абавязкова памятае і пра трагічны грунт светапарадку.

*Брыдзе па свеце кульгавым*
*карэннем,*
*Як факт аўтэнтычны,*
*канкрэтнае здарэнне.*

Ян Чыквін відавочна аддае перавагу некананічнай прасодыі, а да таго ж выкарыстоўвае філасофскія палы, так бы мовіць, дзеля трываласці вершабудовы: у яго свядомаснае, быційнае і лагічна слоўна аформленае стварае самы стрыжань верша. А ён мае то мройную лірычную падсветку (ці водсвет), то ўспыхвае яснатою метафар, што не пераўтвараюцца ні ў арнаменталістыку, ні ў скамянелыя і самамэтныя версіфікацыйныя паэтызмы.

*У звонкім небе дзень растаяў.*
*Вячэрнім сумам свет накрыты.*
*Ноч кнігу вечнасці чытае.*
*Хоць мы ёй пішам*
*манускрыпты.*

Паэт Ян Чыквін не мітусіцца, каб як мага пашырыць кола чытачоў — падкруціць жвава актуаліі, вызначыць высокі публіцыстычны "градус", абавязкова трапіць пад святло крытычных і чытацкіх сафітаў. Ён вядзе размову — не раздумваючы пра мэтазгоднасць, пра непасрэдны водгук, пра вокамгненную рэакцыю. Яго светаканцэпцыя вымагае не прасталінейнай логікі, не супастаўлення апавядальна-рацыянальных рэалій, не зверкі паролю паэтычнага бачання. Тут — хутчэй — вера ў магутнасць Думкі, Пачуцця, Слова, упэўненасць у той магіі ўздзеяння, калі форма і сутнасць уплываюць на свядомасць і падсвядомасць:

*Паспрабаваць бяздоння часу*
*У міг адзін, ў шчыліне-дні,*
*Калі жыццё стаіць у вачах*
*Глытком адвечнай цішыні...*

Ян Чыквін не тое каб прабіваецца да светагляднага сонца Ісціны, але ў яго творчасці адчуваецца пошук таго, што пазначаюць як вечны сэнс. Таму — і "адвечныя пытанні". Жыццё і смерць. Смерць — і ў тым, характэрным для Яна Чыквіна, абстрагаваным аспекце:

*Усё было справядліва ў прыродзе,*
*Далёка дзесьці была недарэчнасць*
*Адвечнай смерці,*
*што прыйдзе і пойдзе,*
*А ўсё-такі нешта пакіне*
*на вечнасць.*

І ў канкрэтызаваным, нават угрунтаваным у побыт поглядзе. Смерць — як даніна неабходнасці. Смерць — як водгалас паганскага культу. Смерць — як звычайны рытуал будзёншчыны дзён.

У беларускім фальклоры і літаратуры, увогуле ў паэзіі народаў свету нараджэнне, каханне, смерць былі і застаюцца з'явамі касмічнымі, іх нельга пераўтварыць у звычайныя паўсядзённыя з'явы. Народны светапогляд і творы літаратуры, што маюць сваёй перспектывай вечнасць, не ведаюць раздробненага, мізэрнага пачуцця.

У славян, у беларусаў у прыватнасці, у нашым прасторава-вызначаным свеце, са сваёй пабытавай канкрэтыкай, адна з выяў смерці — смерць вепрука. Жыццёвая неабходнасць. Звычайная з'ява. Побыт. І — подых засвятовага, пазабаковага. Калі задумацца — з'ява, што цалкам пярэчыць натуры. Ян Чыквін задумваецца — не на ўзроўні ўчынкаў вегетарыянца, а як чалавек, што дапытваецца вышэйшай мудрасці і вышэйшай яснасці.

Смерць — што сталася будзённым дзействам. Недарэчнасць і неаспрэчнасць. Паэт не спрабуе выдаваць пратэсты гэтай завядзёнцы, гэтай няўхільнай неабходнасці, толькі цяжка і змрочна мысліць. Абрад (!) смерці — "сцякае кроў з галоў кароў", "дварняга пёс з чужых касцей злосна чытае свой лёс".

Тут можна прыгадваць, выстройваць доўгі шэраг асацыяцый — і з беларускімі, і з небеларускімі пісьменнікамі. Згадаць найперш класічнае "Смаленне вепрука" Міхася Стральцова з яго метафарай лёсу.

Аднак я гартаю старонкі кніг Яна Чыквіна. І цягну нітку яго роздуму: пра "траву забыцця", траву атруты памяці духоўнай, пра "сонечную дарогу змяркання", пра "паўднёвае сонца на плячах", пра тое, як "з неба знімем пазалоту" і "шэптам песціць будзем потым свае прывіды, мары, узлёты..."

Імкненне да чароўнай і трагічнай гармоніі сапраўднага жыцця, яго "цёплыя фарбы"...

А вось — тая ж і зусім іншая танальнасць, тое ж і іншае літаратурнае быццё:

*...хтосьці магутнаю сілай*
*Ляскаў чужымі варотамі.*

*Быццам душу адчынялі,*
*Каб вытрасці голае цела.*
*Быццам сумленне ірвалі*
*Рукою здранцвелай.*

Калі ўжыць спосаб эстэтычнага мадэлявання, які выкарыстоўвае сам Ян Чыквін, ідучы за Умберта Эка і маючы на ўвазе, як даследчык, што "адкрытае еўрапейскае мастацтва" — гэта "неакрэсленая шматразовасць значэнняў", "шматзначнасць паэтыкі", скарыстанне "ідэі аморфнасці, хаосу, выпадковасці, неакрэсленасці творчых намераў", дык ён, мабыць, як і згаданыя ім Алесь Разанаў, Надзея Артымовіч, Янка Юхнавец, ідзе ў гэтым "авангардзе беларускай паэзіі, сугучнай з магістральным

шляхам развіцця “адкрытага еўрапейскага мастацтва”. На маю суб'ектыўную думку, блізкія да гэтай плыні і сённяшні Уладзімір Някляеў, і філасофска-лірычная рытмізаваная проза Уладзіміра Арлова, і многае з паэтычных вопытаў Людмілы Рублеўскай і Людкі Сільновай.

...Ян Чыквін адстраняецца ад прагматычна вызнанага, прыземленага, забытоўленага вопыту, эмпірычная тканіна свету для яго выдае чужым арыенцірам, каардынаты яго творчасці — у пошуку-вынаходніцтве, у разуменні перастварэння свядомасці, у “звышпрыроднасці” уяўленняў. І рэаліі рэчаіснасці ўзнікаюць у яго паэзіі, але гэта не традыцыйныя пейзажны слоўны жывапіс. І хаця там прысутнічаюць лугі, кветкі, дрэвы — яны хутчэй знакі трывогі, горычы, разрыўковасці жыццёвых сіл: “Вечар вандроўны на дрэвах павіс, Морак сабачыцца ў чэраве вуліц. На вешалцы дзён у мой жыццяпіс Сумненне ўпрадзе мо мысль-велямудрасць?”

Трывога, горыч — так, але гэта не тая імпульсіўная, узбуджаная нервовасць, уласцівая аўтахарактарыстычным паэтам, не тое, што можна было б прыняць за скандэнтраванасць на стане сваёй душы — гэта нешта куды больш шматслойнае, шматзначнае, тут перакрыжоўваюцца і цяжкая структура свету, і законы светабудовы, і пункціры асобных лёсаў. І абыякава-адчужаная маўклівасць сутнага:

***Старэе дзень! Як чарнавік,***
***гарыць***
***І спапяляецца ў труху***
***феномен дня.***

І — “хвароба духу ўсяго XX стагоддзя” (А. Камю):

***Ідэі пастарэлі і пастарэла радасць,***
***боль душы.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Старэе дзень! Старэе сон,***
***старэе дух...***

Ян Чыквін відавочна перагукаецца думкай і адчуваннем са светапоглядамі М. Хайдэгера, А. Бергсона, Ж.-П. Сартра, А. Камю, Э. Фрома. Але, падобна, яму не чужы і гегелеўскі пастулат, паводле якога “схаваная сутнасць сусвету не валодае сілай, якая магла б вызначыць супрацьборства дзёрзкасці пазнання” Духу касмічнага станаўлення асобы, прыналежнай да роду людскога. Відавочна, таму ў паэта Яна Чыквіна “вада амывае душэўную непагоду”, каб “развязаць вузельчыкі жыцця” ў эзатэрычнай прасторы паміж палюсамі: імкненне да яснасці — цемра сусвету. Расчараванне і адчуванне няпэўнасці перад прасторай сусветнай бездані, што адвечна хавала і будзе хаваць свае недамоўкі і таямніцы, у паэта і даследчыка Яна Чыквіна маюць і іншы полюс: жаданне вызваліць ядро ісціны са шкарлупіння бачнасцяў.

***Нашто, нашто ўзірацца***
***нам у вечныя агні,***
***Калі пайшоў ад нас Стваральнік***
***чыстай дабрыні?***
***Перад той вечнасцю — рухомай,***
***непасціжнай -***
***Збірае розум моц сваю і сілу...***

А часам думка паэта прарываецца простым, звычаёвым сюжэтам, за якім, праўда, адчуваецца і ўнутраны, лірычны: “Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху, Спраў не маючы і ніякіх клункаў, Паддаючыся салодка-дымнай плыні вуліц...”

Далягляды паэта Яна Чыквіна — няпэўныя, мройныя, гістарычны грунт культур пачынае раптам размывацца і расслойвацца, а свядомасць то задыхаецца ў разрэджаным паветры чыстай логікі, то патанае ў перанасычанай прасторы духоўна-ідэалагічных павеваў, то грузне ў магме сучасных і несучасных філасофскіх плыняў. Але — паэта ніколі не прываблівае класавая, сацыяльная семантыка. Затое вольны Логас умее раптам выбухнуць нечаканым парадоксам:

***Хацеў зрабіць крэсла —***
***Элегантны прадмет***
***Для вольнага чалавека.***

***Але выйшла шыбеніца.***

Вечныя каштоўнасці не аспрэчваюцца, а гэтыя зрывы ўстойлівага жыццеадчування, безумоўна, маюць свядомасны грунт не толькі на агульным гістарычным і свядомасным фоне. І гэта не разгублены розум, які знянацку заспелі “праклятыя пытанні” побач з вечнымі ісцінамі і неадкладным клопатам дня. І калі паэт Ян Чыквін рэзка мяняе рэгістры — гэта натуральная, унутраная кантрастнасць адчуванняў, псіхалагічныя фрагменты светабачання, мысленне рознымі мастацкімі рэаліямі.

А вось як даследчык Ян Чыквін, здаецца, свядома ідзе на эксперымент. Даследчыка Яна Чыквіна чытач на Беларусі ведае па часопісных публікацыях, у прыватнасці, па адным з самых самахарактарыстычных дыялогаў, якія мне даводзілася чытаць, размове з польскай даследчыцай Тэрэзай Занеўскай — у часопісе “Крыніца”. Па кнізе “Далёкія і блізкія”. Шчыра кажучы, узялася за пяро з нагоды прачытання гэтай працы, аднак здарылася так, што амаль адначасова леглі на стол кнігі паэзіі Яна Чыквіна — “Кругавая чара” і “Odpoczynek przy wyschnietym zrodle”. (Адпачынак каля высахлай крыніцы”), і ўладная мастацкая рэальнасць павяла за сабой, прымусіўшы зноў паглядзець і даўнія выданні паэта: “Светлы міг”, да ўзору. І — распачаць вольны аповед. З нагоды. І з духоўнай патрэбы. Што з'явілася яшчэ да таго, як літаратурная постаць Яна Чыквіна апынулася ледзь не ў цэнтры ўвагі ўсіх друкаваных выданняў Беларусі.

Выбар праблематыкі кнігі “Далёкія і блізкія” — невыпадковы: беларускае замежжа. Яну Чыквіну цікавы гэты арэал нашага прыгожага пісьменства — як непасрэднаму прадстаўніку адной з беларускіх дыяспар, як чалавеку, што выхоўваўся — на беларускім слове і ў памежжы моў, на беларускай культуры — і ў сумежжы культур.

Невыпадковы і выбар персаналій — гэта перш-наперш тыя самыя, блізкія яму светапоглядна, ладам мыслення і вершасkладу Янка Юхнавец і Надзея Артымовіч. Наталля Арсеннева — адна з самых прывабных і вядома-невядомых асоб беларускага замежжа. Масей Сяднёў — літаратар, да якога проста цягнуцца журналісты і даследчыкі. Кастусь Акула — постаць каларытная, увесь — у таямніцах біяграфіі. Сакрат Яновіч — калега, саўдзельнік па дзейнасці ў літаратурным аб'яднанні “Белавежа” ў Беластоку. Ларыса Геніюш — драма жыцця і творчасці якой не можа нікога пакінуць абыякавым.

Творчы партрэт — жанр, што ў нечым абмяжоўвае, а ў нечым дае шырокія магчымасці. Магчымасці — выявіць свае схільнасці і даць характарыстыку чужой творчасці, аднachасова нібыта аналізуючы і ўласныя паэтычныя вопыты. Грунтоўна разглядаючы творчасць, кінуўшы позірк, даўшы пуантылісцкі абрыс... Нарыс, замалёўка, эстэтычны экспромт...

Ян Чыквін — з прагай даследчыка і аднаго з першаадкрывальнікаў, з імпэтам чалавека, што чуе родную душу і радуецца перагуку настрояў, з натхненнем паэта, што спрабуе падысці да чужога з такімі ж высокімі крытэрыямі, як да сваіх уласных твораў, вядзе гаворку пра Янку Юхнаўца і Надзею Артымовіч. Гаворку, дзе відаць эрудыцыя, тэарэтычна-філасофская заглыбленасць Яна Чыквіна, які адмаўляе спосаб лінейных, спрошчаных уяўленняў пра літаратуру і творчую асобу і ідзе ад стэрэаскапічнага, аб'ёмнага асэнсавання. Ян Чыквін бачыць паэзію Янкі Юхнаўца — як выяўленне свядомай філасофіі паэта, як спраўджванне яго мастацкай натуры, як пошук “жывой еднасці ўсяго з усім”. І — як драму творцы, для якога заходнееўрапейская філасофія (прынамсі — экзістэнцыялізм, шапэнгаўэраўская вітальнасць, ідэі Тэйяра дэ Шардэна) і літаратура (Ш. Бадлер, В. Шэкспір, Г. Гейнэ, Э. Паўнд, Р.- М. Рыльке) былі вызначальнымі, але творчыя ідэі выяўляліся ў родным слове і ў сваім вызнаным напрамку, званым паэтам асацыізмам, — гэтыя творчыя спробы адразу зазналі неразуменне суайчыннікаў за мяжой. Паэт застаўся па-за ўвагай складальнікаў анталогіі беларускай эміграцкай паэзіі “Ля чужых берагоў”: “...не ўпісалі”, бо, мабыць, “замадэрны”.

Я нездарма прыпынілася менавіта на гэтым творчым партрэце. Памятаю, як цяжка прабіваўся ў нас Алесь Разанаў, калі насмеліўся “перакрэсліць і нанава пачаць”. Прыгадваю свае “штудыі” эміграцкай прэсы — мяне здзівіў, калі мецъ на ўвазе эстэтычныя варункі, нават не традыцыяналізм, а нейкі закаснелы кансерватызм. Таму гэтыя масты паміж Алесем Разанавым — у нас, Янам Чыквіным — у Польшчы, Янкам Юхнаўцом — у Амерыцы — надзвычай важныя, свядомасна. Як і паралельнае “адкрыццё” Янкі Юхнаўца часопісам “Крыніца”, а да таго — выдавецтвам “Мастацкая літаратура”, дзе пад рэдакцыяй Уладзіміра Арлова выйшла кніга паэта “Сны на чужыне”.

Гэта важна — як і ўваход у літаратурны ўжытак паэзіі Надзеі Артымовіч, “адной з арыгінальнейшых беларускіх паэтэс нашага часу”, як пазначае Ян Чыквін, грунтоўчы доказамі гэтую немаргінальную літаратурную з'яву.

А на фоне чыста эмацыянальных допісаў — з пафасам піэтызму ці адмаўлення — выразна вылучаецца нарыс Яна Чыквіна пра Наталлю Арсенневу — акадэмічна грунтоўны, глыбока аналітычны, з пачуццём такту і дакладнасцю думкі. Гэта духоўны партрэт паэткі, дзе даследчыка перш-наперш цікавіць мастацкая прырода асобы.

У выпадку ж з Кастусём Акулам, допісы пра якога багатыя на рызыкоўныя здагадкі і нараканні, Ян Чыквін выкарыстоўвае досыць спрэчны, але фактаграфічна пераканаўчы метад: ён дае слова самому пісьменніку і адыходзіць ад падсумоўвання ці аналізу звестак творчай біяграфіі і жыццяпісных варункаў.

Ян Чыквін эксперыментуе — і яго цікавяць перыпетыі творчага лёсу суайчыннікаў-літаратараў за межамі Беларусі. Ён дапытліва ўзіраецца — як удаецца спраўдзіць сябе і як проста застацца незаангажаваным: сам-насам з сабою, сваім творчым вопытам. І паэт і даследчык Ян Чыквін распавядзе пра няспраўджанасць творчых магчымасцяў сына Ларысы Геніюш — Юркі Геніюша, пра яго загадкавы лёс. Згадвае і аб няпростых творчых пуцявінах паэтаў Яшы Бурша, Міхася Шаховіча, пра “самотніка ў свеце рэчаў” Уладзіміра Гайдука... Нешматслоўна, накідам — нібыта запрашаючы звярнуцца да старонак вершаў гэтых паэтаў. І проста — нагадваючы, як цяжка быць беларускім паэтам... У пэўных абставінах, на пэўным гістарычным і геаграфічным фоне... Фон, праўда, Ян Чыквін падае больш штрыхамі, аднак ён адчуваецца — часам як прастора для выяўлення духоўных магчымасцяў, часам — як цяжар і няўладзіца абставін і жыццёвых варункаў...

Можа, ад таго, ад радаснай здзіўленасці жыццястойкасцю Масея Сяднёва, ад самаахвярнай вернасці пісьменніка беларускаму слову — і такая высокая ацэнка Яна Чыквіна: “непераўзыдзены”? Хаця — тое ж сцвярджаюць многія... Магчыма, тут нейкая мая асабістая эстэтычная глухата — чытала тое, што было надрукавана ў нас: хоць памры, не магу знайсці тэкстуальнага пацвярджэння таму месцу на беларускім Парнасе, куды настойліва ўзносяць яго калегі-літаратары. Верагодна, тут яшчэ і ўплыў асабістай абаяльнасці чалавека? Але я не ведаю асабіста Масея Сяднёва.

Больш па друку я ведаю і Сакрата Яновіча — хаця яго вострыя выступленні даводзілася чуць, меліся і сякія-такія дзелавыя кантакты, больш пражэкты. І тут, мабыць, партрэт, створаны Янам Чыквіным, неяк размываецца ў калектыўнай выяве “польскіх” беларусаў. Хаця, на маю суб'ектыўную думку, Сакрат Яновіч — чалавек надзвычай выразнай, яркай, саркастычнай вобразнай думкі — прадстаўнік той плыні, дзе ў беларускай літаратуры асабліва таленавіта выявіў сябе Андрэй Мрый і так удала пачынаў Рыгор Семашкевіч.

Аднак гэта мае прыватныя ўражанні, эстэтычныя несупадзенні.

А парабала творчасці Яна Чыквіна вымалёўваецца вельмі цікавая, і ён застаецца для нас (як ён згадвае, і для сябе) “фенаменалагічнай загадкай”, асобай, што, змяняючыся, “захоўвае ўсё-такі нейкую канстанту, нейкі стрыжань тоеснасці, што распаўсюджваецца... таксама на ўяўленне і ўражлівасць”.

Увага ж да яго творчай асобы вельмі розных літаратараў, узровень гаворкі (зірніце хаця б N 30 часопіса “Крыніца”) сведчаць пра тое, што ён пачынае (нарэшце!) займаць сваё месца ў нашай духоўнай прасторы. Яго літаратурнае быццё, светапоглядная споведзь — у вершах і даследчыцкіх вопытах, вольны, ненаўмысны лад яго творчасці, без вузка зразуметай традыцыйнасці і без прынукі адваротнай логікі, якую абвяшчаюць мастацкім прынцыпам, — яны відавочна запаўняюць прагалы нашай культуры. Дзе — пад знакам пярэчання, дзе — толькі нагадваючы пра вопыт душы, але — заўсёды адчуваючы цэнь і святло цянётаў вечнасці і спрабуючы выснаваць сваю ідэю быцця.

**Ала СЯМЁНАВА**

ЧЫТАННІ

# І вы пачуеце Беларусь...

У сярэдзіне мінулага стагоддзя была напісана выдатная паэма “Тарас на Парнасе”. Геніяльны аўтар класічнага твора захацеў застацца ў цені, прымусіўшы тым самым наступныя пакаленні разважаць наконт гісторыі ўзнікнення паэмы, захапляцца яе сапраўднымі мастацкімі вартасцямі і весці няспынны пошук яе аўтара. Аўтар жа быў найвялікшым жартаўніком — ён пацвердзіў неўміручасць слоў: слава — гэта нішто, яна ўзнікае і знікае як мыльная бурбалка. А застаецца слова. Трапнае і такое патрэбнае людзям.

На Гарадоччыне ў некаторых вёсках “Тараса...” чытаюць на памяць амаль ці не ў кожнай хаце. Паэт Уладзімір Скарынкін, прыехаўшы на радзіму, наладзіўшую чытанні, успамінаў, як сляпы конюх дзядзька Вася, яго айчым, любіў гаварыць вершамі з “Тараса...”

На Гарадоччыне ўжо не сумняваюцца, што паэма магла з'явіцца толькі ў іх краі, і толькі іх зямляк Канстанцін Вераніцын мог напісаць пра чалавека з Пуцявішча. Адкрываючы чытанні па паэме: Анатоль Дарафееў, прафесар-эколаг, першы прарэктар Віцебскага дзяржуніверсітэта, адзначыў:

— Сёння ў нас падзея неардынарная. Мы шануем твор, на якім выхоўвалася не адно пакаленне беларускай інтэлігенцыі. І разам з ім шануем ідэю беларускасці, якая набірала моц у мінулым стагоддзі і якую сёння мы павінны несці ў народ.

На чытанні прыехалі выкладчыкі кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ на чале з загадчыцай яе Вольгай Русілкай. Сабраліся вучні-старшакласнікі і настаўнікі з Гарадка, Вархоў, Езярышч.

Старшыня Гарадоцкай рады таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, дырэктар Вархоўскай школы Леанід Гаравы лічыць, што чытанні па паэме ў Гарадку павінны стаць традыцыйнымі і, магчыма, такое паглыбленае звяртанне да класікі на перыферыі дапаможа не толькі прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы адраджэння беларускай культуры, але і канчаткова вырашыць праблему аўтарства гэтага шэдэўра.

Леанід Гаравы нарадзіўся ў Гарадку і гаворыць, што ў яго радні ўсе да пятага калена гарадоцкія. Чатыры гады таму ён, настаўнік фізікі і матэматыкі, прачытаў артыкул у часопісе “Нёман” Генадзя Кісялёва пра свайго земляка К. Вераніцына, і з таго часу палічыў справай свайго гонару паставіць апошнюю кропку ў доказах прыналежнасці паэмы пяру Вераніцына.

На літаратурна-краязнаўчых чытаннях асабліва адметным было выступленне настаўніцы беларускай мовы з Гарадка Марыі Верціхоўскай, прысвечанае ўплыву паэмы “Тарас на Парнасе” на выхаванне нацыянальнай годнасці беларуса. Па паэме можна меркаваць пра ментальнасць беларуса. “Мая мэта, — гаворыць Марыя Іванаўна, — прывесці вучняў да ўсведамлення паэмы як шэдэўра мастацтва”. І тое, што сучасная школа мае ў гэтым накірунку свае дасягненні, пацвердзілі вучні М. Верціхоўскай, расказаўшы прысутным і пра мову “Тараса” і пра вобраз Тараса.

Літаратурна-краязнаўчыя чытанні ў Гарадку, безумоўна, нарадзілі шмат пытанняў на будучыню. Ёсць над чым папрацаваць і літаратарам, і гісторыкам, і мастакам, і мясцовым уладам. Па-першае, удзельнікі чытанняў выказаліся за ўнясенне звестак пра аўтарства Вераніцына ў праграму школьных падручнікаў. Па-другое, у Гарадку павінен з'явіцца помнік Тарасу — беларускаму селяніну, герою паэмы. Па-трэцяе, вельмі добра было б, каб з'явіўся нарэшце мастацкі нарыс біяграфіі Вераніцына, найбольш верагоднага аўтара шэдэўра беларускай літаратуры.

**Святлана ДЗЯДЗІНКІНА-ГУК**
*г. Віцебск*

## Сабрала ў госці кніга

Афіцыйна гэтае мерапрыемства, якое ў мінулую пятніцу ў памяшканні Беларускай дзяржаўнай філармоніі ладзілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная бібліятэка Беларусі, называлася ўрачыстым сходам, прысвечаным 75-годдзю апошняй. А калі прасцей, дык гэта была шчырая сустрэча людзей, аб'яднаных любоўю да кнігі. А там, дзе шчырасць, сяброўства, там знаходзіцца месца ўсмешцы, жарту, там пануе радасны і святочны настрой. І зусім не афіцыйны, а па-хатняму просты, нават у чымсьці сямейны. Ды і як інакш, калі ў зале сабралася столькі жанчын, пераважна тыя, хто звязаў лёс з гэтай бібліятэкай. Сёння ў ёй працуе ажно 520 чалавек, у большасці — жанчыны.

У цэнтры ўвагі ў гэты вечар была дырэктарка Галіна Мікалаеўна Алейнік. Віншавалі ж калектыў з юбілеем, гэтак, пэўна, заўсёды бывае, пераважна мужчыны. Заняты рознымі, у тым ліку і дзяржаўнымі, клопатамі, ім часта не хапае часу, каб сказаць цёплае, прыязнае слова жанчыне. А тут якраз выпаў момант, калі можна і дзяржаўныя, грамадскія абавязкі выканаць, і застацца... лірыкам. Таму і гаварылі Галіне Мікалаеўне добрыя словы і нашы прадстаўнікі міністэрскага ўзроўню, і шматлікія госці, якія прыехалі з Расіі, Украіны, Літвы. І што цікавае — нават тыя, хто на сваёй пасадзе карыстаецца другой дзяржаўнай мовай, зразумелі, што каб знайсці шлях да сэрца жанчыны, лепей перайсці на сваю родную, беларускую. Прынамсі, у намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. Пашкевіча гэта атрымалася не горш, чым у іншых. Ён зачытаў і віншаванне Аляксандра Рыгоравіча, ён жа сказаў і колькі сваіх слоў — такіх, якія пераканалі, што і людзі дзяржаўныя — гэткія ж, як мы, улюбёныя ў родную Беларусь. Хіба што з-за той жа сціпласці саромеюцца і ў гэтым прызнацца. Але, трэба спадзявацца, да пары да часу...

А выступоўцаў было шмат: міністр культуры Рэспублікі Беларусь А. Сасноўскі, пасол Беларусі ў Літве Я. Вайтовіч, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку З. Прыгодзіч, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Г. Марчук, дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, старшыня праўлення БФК У. Гілеп і многія іншыя. Жадаючых прамовіць свае слова пра галоўную бібліятэку краіны і пра яе дырэктара было столькі, што вядучая вечарыны, усім добра вядомая па праграме "Панарама" Л. Грынько (яна зачытала і вытрымкі са шматлікіх тэлеграм, якія паступілі на адрас юбіляра з усіх куткоў не толькі СНД, а і нават з далёкага замежжа, у прыватнасці, са Злучаных Штатаў Амерыкі), вымушана была нагадаць, што сама час, як кажуць, закругляцца, бо наперадзе чакаецца вялікі святочны канцэрт з удзелам вядомых выканаўцаў Беларусі і Расіі.

А. М.

## "Роднае слова", N 10

Часопіс шырока адзначае 40-годдзе Л. Дранько-Майсюка. Нумар адкрываецца падборкай яго "вершаў для А." пад назвай "...Дзе ўспомню пра тваё каханне, там і пачынаецца вясна". Штрыхі да творчага партрэта юбіляра "Арфей, распяты на струнах ліры" прапануе Г. Кісліцына. Змешчаны таксама творы са зборніка Л. Дранько-Майсюка "Вандроўнік", некалькі песень на яго вершы з нотамі — "...У маёй душы начуюць кветкі і сады". Гэтаксама шырока адзначана і 60-годдзе Я. Куліка, слова пра якога гавораць А. Марачкін, А. Разанаў, У. Сулкоўскі, В. Дубінка, Т. Гаранская, В. Маркавец. А вось "крэскі на юбілейным подыуме Юркі Голуба", якому споўнілася паўвека, пазначыў М. Скобла — "Пад сэрцам у Радзімы..." Тут жа публікуецца шэраг вершаў з кніг юбіляра.

Друкуюцца артыкулы Ж. Шаладонавай "К вясне б маёй хацеў вярнуцца..." (вобраз дзяцінства ў ідэйна-эстэтычнай канцэпцыі паэмы Я. Коласа "Новая зямля"), В. Максімовіча "Незабыўныя цені жыцця" (п'еса Ф. Аляхновіча "Цені" ў ракурсе "новай драмы"), П. Шубы "Польскі ўплыў на мову беларускіх сродкаў масавай інфармацыі", Л. Касцючэнкі "З родных крыніц" (успамін пра земляка Р. Сабаленку), Л. Скібіцкай "Чэхаву я абавязаны вельмі многім..." (Я. Брыль пра жыццё і творчасць А. Чэхава)...

У нумары — прэм'ера рубрыкі "Нам засталася спадчына". Вядучы яе А. Лакотка выступае з артыкулам "Палацы і маёнткі ў гісторыі беларускай культуры".

ПАЭЗІЯ

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# "Над ісцінай такая таўкатня..."

### Прызнанне калегі

*Гаруем з весялосцю,*
*Гарэлку прагна п'ем*
*І з вечнаю мілосцю*
*Клянем палітгарэм.*
*Народ наш арганічна*
*Прымае лад любы*
*На ўзроўні на касмічным*
*З часоў "Мы — не рабы..."*
*І я, не адшчапенец,*
*За генетычны рух!*
*Купаю ў слоўнай пене*
*Усенародных слуг.*
*І пяцярню на грудзі*
*Знаёма ўжо кладу —*
*Ад вас усіх я, людзі,*
*Любоў яму краду...*
*Адны за гэта ўхваляць,*
*Другія — праклянуць,*
*Ды на адной жа лаве*
*Суда нам не мінуць...*
*І, хто з нас больш прарочы,*
*Не ўведаць нам ніяк,*
*Бо ведаць і не хочам:*
*Мы ўсе гразі камяк.*
*Таму і пэцканіны*
*Цяпер больш, чым калі.*
*Чысцюляў імяніны*
*Даўно ў нас не былі.*

### У гасцях у Расіі

Рэгіне КАБАКОВАЙ

*Акно выходзіць не на сад,*
*А на чырвоны ў небе комін,*
*З яго бягуць сівыя коні*
*Штораніцы, як на парад.*
*Я з Беларусі не на іх*
*Прымчаўся ў хворую Расію,*
*Дзе ні чырвоных, белых, сініх —*
*Зноў у дзяржавы перадых...*
*"Умом Россию не понять"*
*Як то адліжна, то марозна,*
*Ды розум трэба мець і... можна,*
*Каб на суседзяў не пеняць.*
*Акцэнт сястры Рэгіны тут*
*Ужо даўно не беларускі*
*І бляск чырвона-белай блузкі*
*Не сцяг нагадвае, не кут...*
*Дзе пачаліся карані*
*І да Масквы ажно дамчалі*
*І нават гены адкрычалі*
*Айчынністы ў ліхія дні.*
*Сястра, вяртайся лепш дамоў,*
*Русь Белая твая Айчына!*
*Бацькоў магілы там...*
*— Тут — сына...*
*Адказ... І ясна ўсё без слоў...*

### Упартасць

*Не будзем кепска гаварыць пра ўпаўшых*
*Не па сваёй... і па сваёй віне.*
*Надыхаліся, скажам, дэманашы,*
*Наваяваліся не на вайне.*
*Дзялілі непадзельнае заўчасна*
*І раздзіраліся між дзвюх сістэм,*
*Як паміж дубам і бярозкай яснай,*
*А ён унізе рай зямны — Эдэм.*
*У ім патрэбна і араць і сеяць,*
*Каб хоць жа падабенства шчасця мець.*
*А мы гуляем толькі ў адысеі*
*І не баімся ў пекле мы гарэць.*
*Мы душы выстаўляем*
*экстрасенсам,*
*Далоні варажбіткам... Па зямлі*
*Мы крочым полем і блукаем лесам.*
*Аседласць жа на купінах знайшлі.*
*На іх і пабудуем небаскробы —*
*На купіну мы ўзвысімся ажно...*
*Каго-каго, а ўпартацвердалобых*
*З запасам нараджалі мы даўно.*

### Народ і блазан

*Чаго, панове, несусветны гвалт,*
*Якія дзеляцца ізноў падковы?*
*Пры светласці ўсё тых жа вольт і ват*
*Не можаце вы ўсе быць нечым новым.*
*Нашто бакам дарэмна мяць бакі...*
*Пры нашай развясёленькай свабодзе*
*Тасуюцца не карты — ігракі*
*У замусоленай даўно калодзе.*
*Ну а шасцёрка выйдзе ў казыры*
*Ці туз даўно партрэтна надаелы —*
*Дык і яны, урэшце, да пары,*
*Бо кожны ў перспектыве задубелы...*
*Народам не кляніцеся адно,*
*Не абяцайце многа масла масам:*
*Народ, як шматсерыйнае кіно,*
*Глядзебельны да пэўнага да часу.*
*З народа выкраіць няцяжка сход,*
*Прыгнаць і да карыта і да урнаў,*
*Народ, як трэба, стане на катурны*
*Каб сатварыць чарговы анекдот...*
*Ва ўсе вякі яго пільнуе грэх —*
*І на сябе самога слінай цыркнуць,*
*Як блазну, памачыцца зверху ў цырку:*
*Няхай іх разбірае ўнізе смех...*

### І трагедыя смяецца з драмы

*Як усё ўжо спалена ўнутры,*
*І трагедыя смяецца з драмы,*
*Цягнемся з апошніх сіл да храма:*
*Хоць прад Богам свечкай пагарым.*

*І грахі не большыя, чым свет,*
*Ён адпусціць... Мы яму адпусцім...*
*Мо і Бог сам насаліў камусьці!*
*На балансе ж гэтулькі планет...*

*Каралёў бязгрэшных не было,*
*А яны ж памазаныя Богам.*
*Колькі ж недамазаных... Ой многа...*
*Хто жывы, разлічвай на святло*
*І распарадзіся ім як лепш,*
*Штучкі не прыдумвай светлавыя,*
*Ведаем (таму і не святыя)*
*Німб найлепей прыкрывае плеш.*

*З тых, хто за Ісусам пахадзіў,*
*Бог не даў і валасочку ўпасці,*
*З першых крокаў толькі Юду пасвіў:*
*Вылюдак тады ўсё ж быў адзін.*
*З той пары як многа стала іх,*
*Аж да смерці і непакараных,*
*Пры жыцці для прыкладу абраных.*
*Бог на іх мо робіць перадых?..*
*Спачывае ад спрадвечных спраў —*
*Паратунку ўсіх зямных няўмекаў.*
*Хто ж як стаў — застаўся Чалавекам,*
*Той і ў Бога літасці не браў.*

### Няўлоўнасць ісціны

*Над ісцінай такая таўкатня*
*І грэшнікаў нас і бязгрэшных,*
*Што нават выглядае смешнай*
*Навідавоку сонечнага дня.*

*Ці не таму філосаф і мудрэц*
*Бяжыць у чарапныя лабірынты —*
*Над ісцінай чаруе паўзабыты,*
*Як над святымі кнігамі чарнец.*

*Каб перад смерцю выйсці да людзей*
*З павіннай галавою і прызнацца,*
*Што свята ісціны*
*ён не знайшоў у святцах,*
*Яна мяняецца як божы дзень...*

### Амаль фізіялагічнае

*"Цяпер каханне мімаходзь..." —*
*Заводзіла хлапца жанчына*
*І ў жар кідала яго плоць,*
*Лавіла бляск вачэй ваўчыны,*
*Калі ж над ёю ён адвыў*
*І ледзь не спруцянеў ад прагі,*
*Ухвалены ціхмана быў:*
*"О-о-о... Колькі сілы і адвагі..."*
*Блішчэў ад поту, нібы смоўж,*
*Але пасля такой ацэнкі*
*Адвагі стала яшчэ больш*
*І ўранні салаўём заценькаў...*
*Хвала табе, жаночы цуд,*
*Мо большы, чым сама Айчына,*
*З якою з'еў ён солі пуд*
*І "баязліўца" меў прысуд,*
*І стаў за ноч адну... мужчынам.*
*Ён пройдзе тысячы дарог,*
*Тры тысячы раз спатыкнецца,*
*Яшчэ больш — на жанчыну азірнецца*
*Як найгалоўнейшую з перамог...*

### Без цябе...

*Родная, не пакідай мяне*
*На нядоўга і на недалёка...*
*Без цябе больш цемені ля вокан,*
*Без цябе і сон як на вайне.*
*За сцяной варожасць галасоў*
*І нароўнасць за дзвярыма крокаў,*
*Часу доўга сыплецца пясок,*
*Без цябе і ў гурце адзінока.*
*Я не баязлівец... Гэты факт*
*Колькі раз ужо табе засведчыў.*
*Не сардэчны страшны — чалавечы*
*Непрадбачлівы душы інфаркт.*
*Гэта неканкрэціна яго*
*Водзіць лабірынтам, як наркоцік,*
*Можа альбо ўзняць альбо аскоціць*
*Без цябе... Без позірка твайго...*
*Вось і ў вершы, бачыш, без цябе*
*Наварочаў прывідаў і жахаў,*
*Хоць у бездань за табой з размаху*
*Я гатовы кожны міг цяпер.*
*Тупат ножак... Праліўны званок...*
*Як ты ўспела да канцоўкі верша?*
*Што ж, яго мы разам і завершым.*
*І разгонім у кватэры змрок.*

### Паходжанне

*Тры дні і ночы вецер мяне гнаў*
*Ад Белае Русі віхурна ўпрочкі*
*Туды, дзе я ўжо некалі канаў*
*Як самы чыстакроўны скандынаў —*
*Заснежана, салодка, моўчкі.*
*Дзе прозвішчу майму прытулку больш*
*І разумення, чымся на Міранцы:*
*Ад бохана, што ў зорны клаўся кош,*
*Мы ўсе, Тармолы, хлебныя акрайцы.*
*Я зразумеў за час блукання ў сне,*
*Што край любы —*
*гіпербала з гіпербал,*
*Як летам ты правальваешся ў снег,*
*Зямля валяецца на снежным дне*
*І толькі... мама застаецца небам.*
*Яна сама — зацішны самы кут.*
*З яе вачэй праменяцца сцяжынкі,*
*Якімі ўвесь сусветны крочыць люд*
*Ад геніяў і да прыблуд,*
*Як нават спраўлены па ёй памінкі...*
*...Чаго ж мяне на поўнач валакло,*
*Калі мы парадніцца з ім паспелі...*
*Марозам замураванае шкло*
*Сваяцтвам нашым толькі і было?*
*Мяцеліца мяце па белым целе.*

### Размова, якой магло не быць

*Неміласэрны вечар.*
*Нялітасцівы час.*
*Расфасавана вечнасць —*
*Да нас і... пасля нас,*
*Зашустрылі гадочкі,*
*Замітусіўся след —*
*Па тонкаму лядочку*
*Пабеглі неўпрыкмет.*
*І хочацца, Рэгіна,*
*Даруй за прамату,*
*Не рэквіема — гімна,*
*Пакуль яшчэ мы тут.*
*Вунь зорачка-заколка*
*Міргае з валасоў,*
*Што будуць пасядзёлкі*
*У нас сярод лясоў.*
*Яшчэ мы крышталёва*
*З табою пазвінім,*
*Пачуем тыя словы,*
*Што пабылі ў агні*
*Кастра альбо гарэлкі,*
*Само сабой любві,*
*З цяплом, што не ад грэлкі —*
*Ад маладой крыві.*
*І голас захмялелы*
*Разбудзіць уначы:*
*"Чытай мне вершык белы.*
*Год Новы! Не маўчы..."*

ПРОЗА

Усе кніжкі, як і людзі, і формай і зместам падобныя адна да адной. Але чым больш чытаеш кніг, тым менш пазнаеш людзей, і — наадварот...

●

Закалыхваем сваю мову і свой нацыянальны дух рыфмаванкамі, плачамі, замовамі, калыханкамі...

Спіць мова ў народзе і дух дрэмле: "Ехаў Бай па сцяне у чырвоным каптане. Баяць ці не?" *Не*!

●

Напрыканцы лютага сяджу ноччу на кухні пры адкрытай фортцы. Чытаю кніжку Клімовіча, выдадзеную ім за ўласны кошт. Выдатная паліграфія...

За акном з віскатам і галашэннем марцуюць каты...

ды ствараюць вакол нас непраўдзівы свет. І паступова гэты свет пачынае здавацца несправядлівым. Зразумела, у дачыненні да нас саміх...

І — нараджаецца зло... Яно жыве пакуль жывуць людзі. З адным чалавекам яно не памірае. Зло памрэ разам з усімі...

●

Прачытаў у "ЛіМе" вершы ўжо нябожчыка Міколы Федзюковіча. Даўно так не спачуваў самоце іншага чалавека... Той самоце, якая адных — прызямляе, другіх — узвышае...

На жаль, Федзюковіч быў з першых.

●

Даю Акудовічу пачытаць свае новыя вершы. Каб ужо не так бэсціў, як заззычай бывае, няўзнак дадаю: "Лічы, што крывёю пісаныя..."

Таму не трэба здзіўляцца, заўважаючы іх як тут, так і там...

●

Адчуванне ўласнай бязгрэшнасці — ужо ёсць вялікі грэх...

●

Усё самае-самае ў чалавеку *абрываецца напачатку* разам з мацярынскай пупавінай і *ўзнаўляецца напрыканцы* зямлёй на могілках продкаў...

●

Хворая і састарэлая бабуля ўсю ноч на Хрыстовае ўваскрашэнне малілася ў ложку... Не спаў і слухаў — уражанне як пабыў на ўсяночнай... Таемна — без папа і паствы...

●

Ідзём з Пятром Васючэнкам з рэдак-

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ



Жонка даўно спіць... Наскрозь адольвае шчымлівы сум...

●

Прысніўся сон на "тарашкевіцы"... Прахапіўся. На жаль, "тарашкевіца" — гэта прамінулы сон...

●

Замкнутае кола... Няма чым дыхаць, няма з кім гаварыць, няма каго слухаць...

Усё бясконца паўтараецца... і аніяк не канчаецца эпоха Ірада, Пілата, Юды...

Але ж гэта й эпоха Хрыста, эпоха ўваскрашэння...

●

Што зробіць сапраўдная жанчына ў апошнюю хвіліну перад адыходам?

— *Паглядзіцца* ў люстэрка.

Што ў падобным выпадку зробіць сапраўдны мужчына? — *Паглядзіць* у вакно...

●

На тэлебачанні ў нас працуюць *"кісельныя барышні"*, а на радыё — *"ядроныя"*...

●

Пра літаратуру нічога канчатковапэўнага нельга сказаць, бо яна ёсць бясконцым і няўТОМНЫМ выказваннем чалавецтва...

●

Тры выхадныя дні — кату пад хвост. Пагартаў некалькі кніжак, палыпаў перад тэлевізарам, думаў, піў каву, спаліў тры пачкі цыгарэт...

І толькі ў нядзелю вечарам, лежачы ў гарачай ванне, я зразумеў, што — стагэю, што пражыў дарма, што ўсё маё пісанне — гэта нездаровы, ненармальны вобраз лянотнага жыцця, абломаўшчына... што пасля сябе я не пакіну ў гэтым свеце радасці і аптымізму людзям, а толькі бездакзаннае, нямое пытанне — ? — да гэтага ж свету і гэтых людзей...

●

На свет трэба глядзець, як на асобнага чалавека ў шматлюдстве. Свет — *адзіны*, але *не адзін*, ён — шматмільярдны...

●

Гавораць, што на зямлі пакуль яшчэ больш добрых людзей, што дабро ўсё яшчэ перамагае зло...

Аднак людзі чамусьці хлусяць часцей, чым гавораць праўду. Няхай часам і ў імя дабра. Ды і сам я, каго знаёмыя лічаць дастаткова шчырым, хлушу часцей, чым гэта *неабходна*.

Найперш мы хлусім сабе пра сябе, пасля — сабе пра іншых і ўрэшце — іншым пра сябе...

Хлусня гэтая як бы дробная, непрыкметная, невызначальная, ні на што не прэтэндуючая, нібы гульня з праўдай у хованкі...

Але па часе, незаўважна для нас саміх, маленькія нашы паўсядзённыя няпраў-

Назаўтра, прабачальна-інтэлігентна кажучы пра абсурднасць паэзіі ўвогуле, і шкадуючы мяне, выдыхае клінічнае: "Гемаглабіну ўсё ж малавата..."

●

На пад'ездзе да Севастопальскага парку тралейбус раптоўна спыняецца... Маладая дзяўчына-кіроўца вылазіць у лютаўскую ветраную хлюпату, зазірае пад днішча машыны, стукае па абшыўцы, ляпае далонямі, пакрыквае... Усе глядзяць у вокны, заўважна нервуюцца. Вядома, вечар, непагадзь, стома — хочацца хутчэй у жытло...

А дзяўчына заходзіць з другога боку тралейбуса — і ўсё паўтараецца...

— Ну, что же это такое!? — нястрымлівацца мажны пажылы пасажыр.

— Ды кошку ці сабаку, мабыць, з-пад колаў вытурвае... развялося, даў Бог... — спрабуе тлумачыць яму дабрадзейная цётка.

Нарэшце дзяўчына залазіць у салон, чырванашчокая, разветраная, прабачальна пасміхаючыся... А ўжо да кабінкі ўсёй сваёй мяшкаватай, непаваротнай тушай сунецца, распіхваючы старых і малых, той самы, нервова-гарачы...

— Ты, милашка, на работе или где?! Тебе людей доверили перевозить или в бирюльки играться?!

Пасажыры яго астуджваюць, мауляў, не душыцць жа коламі хатнюю жывёліну... А ён агрызаецца ўжо на ўсіх і прэ на кіроўцу — нахабна і злобна: "Я опаздываю, например! Я с работы еду! А тут — кто во что горазд! Я тебя вот, милашка, спрашиваю — ты людей взялась перевозить или собак?!"

"Ну, что вы так раскричались... Кто сядет, того и везу..." — ціха, але не без дзёрзкасці, кажа яму дзяўчына, адчуваючы сімпатыю большасці пасажыраў, і кранае тралейбус з месца...

●

Недзе ў Грэцыі ці на Кіпры забілі бандзюгу-кілера, былога міліцыянта Салоніка. Некалькі дзён запар мусоляць гэты сюжэт з ранку да вечара па ўсіх каналах...

Памёр у Балгарыі выдатны рускі лірык Уладзімір Сакалоў — ...

Ну каму гэта ў Расіі цікава?!

●

Я ніколі не змагу напісаць аб'ёмную прозу — аповесць ці, крый Божа, раман.

Я — чалавек самотны і гультаяваты, а проза патрабуе здароўя і працаздольнасці...

Я люблю дэталь, метафару і — сябе... Мне лягчэй апісаць нязначную дробязь, якую толькі што змахнула з майго стала мая дачка па-за маімі вачыма...

●

Найбольш невыноснае — гэта жаночы холад у цёплай начной пасцелі...

●

Чалавечы розум і чалавечая дурнота не маюць межаў...

цыі "Крыніцы" да плошчы Перамогі... У падземным пераходзе — вясельная працэсія да помніка...

Пытаюся ў Пятра, чаму гэта маладыя абралі неадпаведны іх урачыстасці сімвал для шлюбнай цырымоніі. Васючэнка падымае вочы на вышыню стэлы вядомага помніка і пытаецца ў мяне замест адказу: "А ты, што, не разбіраешся ў фалічных сімвалах?.."

●

Ноччу ўсчаўся моцны вецер. Якраз глядзеў па НТБ французскі фільм "Пад сонцам сатаны".

Гэты вераломны вецер і гэты багашукальны фільм стварылі самотную атмасферу пакінутасці чалавечай душы — страцілівасць зямнога чалавека пад небам...

Кладучыся спаць, зірнуў на гадзіннік. Як мітуслівя круцілася ў замкнутым крузе секундная стрэлка! Ашаломлены яе безвыходнасцю, я нават не звярнуў увагі на дзве другія — застылыя, быццам сам час мяне ўвогуле не цікавіў...

●

Літаратура, асабліва паэзія, — гэта хвароба. Паталогія...

Здаровы літаратар — графаман. Як творца, ён канае раней уласнай смерці: яго *здароўе* нікога не хвалюе, а пра *хваробу* ён нічога не ведае...

●

Леў Талстой запісвае ў дзённіку пасля блізкасці з жанчынай: "Это *было* так прекрасно, что *не может кончиться* смертью..."

Шэдэўральна! Хоць бы ўжо тым, што мінулы і будучы час пакінутыя класікам без дапасавання. Спешка. Эмоцыі! Імгненне жыцця! Што — час, што — вечнасць?!

●

Не магу трываць пустой дзяжурнай кампліментаршчыны. Асабліва, калі нутром адчуваеш, што пахвальба ў твой адрас зроблена з "прыцэлам у адказ"...

— Лявон, віншую... — файная рэч...

— Міхайлавіч, ну, няма слоў!..

— Лёнечка, які ж у вас светлы і самабытны талент!..

Прыкладна на гэтых словах я заўжды перапыняю гэты "хваласпеў" з чыіх бы ён вуснаў не сыходзіў і пераводжу размову на другое...

Гэта, як іншым разам касірка на тваёй новай рабоце "выпрабоўвае" цябе з першай зарплаты на "вшивость" — перадае табе трошкі большую суму грошай, чым тую, за якую ты распісаўся ў ведамасці... І — чакае ці вернеш... А ты, не маючы звычкі пералічваць тое, што табе даюць, жывеш пэўны час несумленным чалавекам сярод усёй бухгалтарскай "кампаніі"...

Затое наступным разам табе ўжо выдаюць на рукі тыя грошы, якія ты сапраўды зарабіў, а то й "сумленная" касірка тады-сяды, звучыўшы тваю даверлівасць, можа і недадаць такую-сякую

дробязь...

Ніхто з нас ад тых дробязяў не бяднее, не багацее...

Таму не кажыце мне пустаслоўных кампліментаў. Усё адно будучых кантралёры ў архіўнай бухгалтэрыі часу дакладна выявяць колькі я каштаваў і каштую насамрэч...

●

У мяне вясковая культура. На іншую і не прэтэндую.

Бывае, што ахопіць хваля цёплых пачуццяў да якога чалавека — і я доўга стаўлюся да яго вельмі паважліва... аж да таго часу, пакуль...

І тады — я зноў жа ў прыліве адваротных пачуццяў магу агаломшыць яго сваёй сярмяжнай, вясковай нетактоўнасцю...

Гэта як добра помнае з дзяцінства. Сунешся пашпарэйкам, калупаючыся ў носе, па пыльнай вясковай вуліцы, а з-за плота цябе раптам аклікае стары дзед і працягвае мяккую сакавітую бэру...

Ты хвацка і без разважанняў бярэш яе і, сараматліва патупіўшыся, ніяк не дасі рады выціснуць з сябе тое "дзякуйце"...

А калі дзед тупае назад ад плота, ты зазіраеш праз частакол яму ўслед... і скмецімшы дзірку ў дзедавых уношаных портках, здаля, не баючыся і ўжо не саромеючыся, крычыш старому наўздагон на ўсю вуліцу: дзеда, а ў вас порткі на срацы парваліся!..

Хоць стой, хоць падай... Ну, не памірацы жа мне з-за гэтай вясковай, неадшліфаванай на праспекце Леніна-Скарыны, культуры...

Я ўсяго толькі хачу быць шчырым, хоць і ведаю, што *"тая дзірка"* так і застанецца, пакуль не зносяцца *ўсе штаны*...

●

Ужо дзевяць гадоў вісіць над маёй бяссоннай начной галавою карціна Алены Каравай, назову якой я не ведаю. Па няпэўных акварэльных мазках мастачкі, пільна ўглядзеўшыся, можна выявіць там туманны сілуэт старажытнай Каложскай царквы ў Гародні... Прынамсі, я так і лічу, і даводжу да тых, хто не пагаджаецца і шукае сваё разуменне ўбачанага, і тым, хто ўвогуле не хоча ці не можа нічога, апроч цьмянай плямы там, бачыць...

Няхай... Не так усё тое важна, як істотна іншае...

Сама карціна вельмі важкая — дабротная масіўная рама, шкло, аб'ём... Да таго ж, вісіць яна на адным не зусім надзейным цвіку...

Пад гэтай карцінай і стаіць раскладная канапа, на якой спім мы з жонкай. Я, на жаль, якраз ля самай сцяны — пад карцінай...

Супакойвае (вельмі на тое спадзяюся!), што там намаляваная менавіта Каложская царква (Сыс падараваў на ўлазіны — адсюль і гэтае маё спадзяванне, а не канкрэтная ўпэўненасць).

Царква — значыць, нейкім чынам ляжу пад Богам...

Жонка ўсё просіць зняць карціну з небяспечнага месца і перавесіць. Але тут — найшла каса на камень: ад лёсу не ўцячэш...

І лепш ужо *быць пахаваным* пад рэшткамі старажытнай Каложы, чым *сканаць* пад друзам сучаснай рэпрадукцыі...

Жыву пакуль, дзякаваць Богу, хоць сплю ўсё больш коратка і трывожна...

●

Я задаволены сваім жыццём і сваім лёсам. Ідыёт...

●

Літаратура — гэта фікцыя, якой нельга даваць веры, але можна даверыцца...

●

Пасля Вялікадня, прыехаўшы ад мамы з вёскі, — адразу з дарогі ў ванну...

Ужо абдаваўся душам, як наступіў нагой на абмылак —і паехаў...

Адчуваю, усведамляю, нават бачу, што падаю, а зрабіць нічога не магу, — ногі паўзуць-едуць самі па сабе... і — аб край ванны скроняй!..

На кароткі час страціў прытомнасць... Калі расплюшчыў акрываўленае вока, ачомаўся, пасядзеў, раптам, безбалюча падумалася: забіўся б, дык памыты, чысты, усё менш клопату блізкім людзям...

Што ж, па ўсім відаць, абмыюць, як і ўсіх...

●

Пачуў па радыё "Рокс", што ў амерыканскім штаце Агаё на шоу-канцэрце аднаго папулярнага спевака адбылося наступнае: у самы разгар шумнага выступлення, разгарачаны ад бязмежнай

*(Працяг на стар. 14—15)*

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## Узорныя гульні

**Тэатр пантамімы "Спадарожнік" быў заснаваны яшчэ ў 1979 годзе на базе школы-інтэрната N 13 г. Мінска. І тады, і цяпер у калектыве вучні ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў. Час ідзе. Мяняюцца пакаленні маленькіх акцёраў. Кіраўнік нязменны — Тадэвуш Генрыхавіч Бекіш. Індывідуальнасць, творчая асоба. Імкнецца да новага, найноўшага. За гады існавання тэатра для дзяцей з недахопамі слыху сп. Бекішам было пастаўлена восем спектакляў і 44 слынныя асобныя нумары. Гэта "Курган" паводле Я. Купалы, "Маўглі" паводле Р. Кіплінга, "Бэмбі" паводле Ф. Зальтэна, "Беларускія сувеніры", "Люстэрка", "Залатая птушка", "Маленькі прынц" паводле А. Сент-Экзюперы. Вучні любяць свайго кіраўніка, паважаюць яго, давяраюць яму. Калектыў тэатра неаднаразова выступаў са сваімі праграмамі на раённых, гарадскіх, рэспубліканскіх аглядах, выязджаў на гастролі ў Польшчу, Літву, Расію.**

**У 1994 годзе тэатр пантамімы "Спадарожнік" прыняў удзел у сусветным фестывалі мімаў у Брно, дзе таксама стаў лаўрэатам. Акрамя спектакляў,тэатр цікавы і разнастайнымі клаунадамі: "Саперніцтва", "На пляжы", "Дэпартамент цэн".**

**Тэатр і сёння, нароўні з забаўляльнай, паспяхова спраўджвае гуманістычную функцыю. Па запрашэнні дабрачыннага фонду "Дзеці Чарнобыля" маленькія акцёры са школы-інтэрната N 13 выступалі ў дабрачынных канцэртах у 1994 і 1995 гадах.**

**Тадэвуш Генрыхавіч да справы сваёй ставіцца добрасумленна, любіць яе, шукае новыя формы і метады работы з людзьмі. Між іншым, чалавек гэты з нялёгкім лёсам, інвалід. Дзякуючы ягонаму шматграннаму таленту (Тадэвуш Бекіш — акцёр і рэжысёр, фатограф і педагог) Гран-пры на сусветных фестывалях мімаў у г. Брно быў заваяваны аж но тройчы — у 1991, 1992, 1994 гадах.**

**Велізарная заслуга ў тым, што такі калектыў у нашы цяжкія часы дзейнічае, належыць Ларысе Бандарэвіч — дырэктару школы-інтэрната N 13 для дзяцей з недахопам слыху. У працу ўключыўся і новы завуч Васіль Новік (культуролаг па адукацыі).**

**Год таму калектыву было нададзена званне ўзорнага.**

**А. ШАЛАХОЎСКІ**

## З песняй — весялей...



**Дзіцячы фальклорны ансамбль у Крычаве створаны з вучняў музычнай школы горада. У яго праграме — беларускія і рускія песні.**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

## Не губляюць папулярнасці



**Фальклорны калектыў "Радзімічы" Урыцкага Дома культуры Гомельскага раёна — часты госць на сельскіх святах. З'яўляючыся адным з старэйшых у раёне, ён не губляе сваёй папулярнасці.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Птушка танцуе ў Гомелі

### ЗГАДКІ ПРА ПЕРШЫ "СОЖСКІ КАРАГОД"

АДГРЫМЕЎ, адшумеў, адтаньчыў грандыёзны па цяперашніх часах Першы Міжнародны харэаграфічны фестываль у Гомелі. Названы яго арганізатарамі, Гомельскім гарадскім выканаўчым камітэтам і шматлікімі спонсарамі, "Сожскім карагодам" (мастацкі кіраўнік В. Кірылава, галоўны рэжысёр А. Коваль), ён увабраў у сябе некалькі тысяч танцораў з больш чым пятнаццаці краін і разліўся па ўсім горадзе. Не часта мне даводзілася бачыць, каб дзеля харэаграфічнага свята амаль на два дні перакрываўся рух транспарту і ўсе жыхары, якія высыпалі на вуліцы, аказваліся на велізарнай сцэне, у розных частках якой выступалі лепшыя сцэнічныя і этнаграфічныя калектывы з Беларусі ды замежжа.

Правядзенне фестывалю было прымеркавана да дзвюх знамянальных дат у жыцці горада — 855-годдзю Гомеля і 200-годдзю з дня заснавання яго архітэктурнай жамчужыны, знакамітага палацава-паркавага ансамбля. Адсюль — адчуванне татальнасці свята, яго грунтоўнасці.

Арганізатары фестывалю ўсяляк падкрэслівалі, што ён — першы. І сапраўды, гэта першы ў нашай рэспубліцы такі маштабны фестываль у постперабудовачны час. Таму не дзіўна, што ён пераняў пэўныя рысы сваіх савецкіх папярэднікаў і, перш за ўсё, імкненне да пышнай парадннасці, схільнасць да доўгіх наменклатурных прамоў. Забягаючы наперад, не магу не заўважыць, што афіцыйным, пратакольным мерапрыемствам, дзе прысутных размяшчалі ў строгай адпаведнасці з іерархіяй, аказаўся нават сціплы банкет, на якім арганізатары і ўдзельнікі маглі б, здаецца, нефармальна парадавацца шчасліваму заканчэнню вялізнай працы. Але затое па-чалавечы цёплым было ўшанаванне "заслужаных дзеячаў харэаграфіі", майстроў танца Л. Ляшэнка ды І. Серыкава. Іх цалавалі, віншавалі, ім дзякавалі. Шмат добрых слоў было сказана і на адрас адсутнага па хваробе пачынальніка гомельскай харэаграфіі А. Рыбальчанкі.

Арганізатары фестывалю задумалі так альбо інакш прадэманстраваць літаральна ўсё, што толькі ёсць у харэаграфіі, ахапіць усе яе асноўныя жанры. Дзіўна, што гэтую фантастычную задуму шмат у чым удалося рэалізаваць. І ўсё ж — "нельзя объять необъятное", як справядліва заўважыў Казьма Пруткоў. Адсюль — відавочныя арганізацыйныя хібы.

Найбольш яны праявіліся ў адкрыцці свята на стадыёне, дзе было занята больш за тры тысячы чалавек. Тут былі і дзіцячыя танцы да пасінення (прычым у літаральным сэнсе, бо ў той дзень рэзка ўпала тэмпература паветра і лёгкія сукенкі не абаранялі дзяцей ад холаду ў іх шматгадзінным знаходжанні на стадыёне), і тэатралізаванае шэсце, і выступленне майстроў спорту, і шматлікія танцы ў духу мінулых харэаграфічных уяўленняў пра непарушную дружбу народаў, і феерверк, і віртуозныя прызямленні парашутыстаў у цэнтр стадыёна.

Пастаноўшчык свята на стадыёне В. Байкоў яўна не шкадаваў ні часу, ні грошай, калі перагрузіў і расцягнуў прадстаўленне да таго, што трыбуны пакінула "большая палова" гледачоў. Не ведаю, як у іншых, але ў мяне з'явіліся сумненні наконт неабходнасці пашыву такіх дарагіх, але аднаразовых касцюмаў, адпаведных менавіта толькі гэтай задуме рэжысёра, а фраза пра грошы, літаральна "выкінутыя на вецер", міжволі прыгадалася, калі ў фінале магутныя гірлянды з соцень і тысяч рознакаляровых шарыкаў узняліся над стадыёнам і паляцелі па ветры ў бяскрайнія далячыні, каб абрынуцца недзе "гумавым снегападам".

З другога боку, пасля таго, як мы мелі магчымасць назіраць па ТБ, як на святкаванні 850-годдзя Масквы шматтысячадаларавы дракон змагаецца з рускім людам, а на юбілеі Мінска бачылі тэатралізаванае шэсце раёнаў і раскошны феерверк над Свіслаччу, я не ўпэўненая, што маю права папракаць гаспадароў гомельскага фестывалю за марнатраўства. Можа, маюць рацыю тыя, хто лічыць, што менавіта ў нашы цяжкія і шэрыя будні людзям патрэбна свята. Зверху, гэта, напэўна, больш зразумела, чым знізу. "Жираф большой, ему видней", — гаворыцца ў вядомай песеньцы У. Высоцкага. Будзем спадзявацца, што, паклапаціўшыся пра відовішчы, паклапоцяцца і пра хлеб.

Падчас фестывалю можна было ўбачыць нямала арганізацыйных пралікаў. І ўсё ж яны не заступілі галоўнага: свята Танца адбылося, Першы Міжнародны фестываль у Гомелі паказаў адметнае аблічча і засведчыў, што харэаграфія ў нашай краіне жыве і ўсе яе пяць жанраў, прадстаўленыя на фестывалі, маюць рэзервы для руху наперад.

Пра поспехі першага з іх — класічнага балета ў Беларусі — не мае сэнсу шмат гаварыць. Усім вядомыя спектаклі і дасягненні трупы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета пад кіраўніцтвам Валянціна Елізар'ева. З поспехам прайшоў і балет "Жызель", паказаны на фестывалі. Гамяльчане шкадавалі толькі, што яго не змаглі паглядзець усе жадаючыя. Увогуле, праблема білетаў на спектаклі і канцэрты была для арганізатараў адной з самых вострых. Гамяльчане выкарыстоўвалі тут усе свае знаёмствы і сувязі, ішлі на ўсемагчымыя хітрыкі, спасылаліся на прыезд каханай дзяўчыны і замежнай бабулі, каб расчуліць сэрцы тых, хто хоць неяк мог ім памагчы. Перапоўненыя залы і плошчы, удзячная публіка — адметная і вельмі прыемная рыса фестывалю. Гэтае свята доўга не забудзе той, хто на ім пабываў.

Другі жанр харэаграфіі, прадстаўлены ў Гомелі, — спартыўны, у мінулым бальны танец — зіхацеў як еўрапейскім узроўнем судзейства, так і высокім класам выканаўцаў, сярод якіх былі прызёры і фіналісты чэмпіянатаў свету і Еўропы. Турнір гэты таксама меў тытул Першага Міжнароднага і ўключаў у сябе спаборніцтвы розных узроставых груп. Дарослыя выканаўцы з Беларусі пакуль яшчэ не занялі ганаровых першых месцаў, але мяркуючы па колькасці юных танцораў, якія прадстаўлялі шматлікія школы і студыі, а таксама па колькасці іх балельшчыкаў, — галоўныя перамогі яшчэ наперадзе. Прынамсі, праблемы спартыўнай бальнай харэаграфіі на Беларусі, вядома ж, заслугоўваюць асобнай гаворкі.

Шырока быў прадстаўлены на фестывалі трэці жанр танцавальнага мастацтва — аўтэнтычны фальклор у выкананні шматлікіх этнаграфічных калектываў, у асноўным з Гомельскай вобласці. Як заўсёды, шчыра жыццярадасныя, непасрэдныя, захопленыя танцоры ды спевакі з навакольных паселішчаў і вёсак прывабілі шмат гледачоў. Прысутныя не маглі не паддацца зачараванню той асаблівай "фальклорнай аўры", якая ствараецца заўсёды вакол выканаўцаў з народа. Яны нібы ўзнавілі старажытныя вітальныя дух і ўнеслі сваю непаўторную фарбу ў шматколерную палітру фестывалю.

Цэнтральнай жа яго падзеяй стаўся конкурс сцэнічнай харэаграфіі, у якім удзельнічала больш за дваццаць лепшых харэаграфічных калектываў Беларусі, а таксама ансамблі з Расіі, Украіны, Шатландыі. Выразнай асаблівасцю гэтага конкурсу было тое, што асноўным крытэрыем ацэнкі служыла не выканаўчае майстэрства ўдзельнікаў, як гэта часцей за ўсё было ў мінулым, а ўзровень мастацкага мыслення балетмайстра, пастаноўшчыка прадстаўленага на конкурс твора.

Такая арыентацыя конкурсу зыходзіла з надзённай неабходнасці. Вось ужо шмат гадоў усе, хто мае дачыненне да народнасцэнічнай харэаграфіі, ад практыкаў да тэарэтыкаў, наракалі на аднастайнасць фарбаў, паўтор прыёмаў, стандартызацыю выяўленчых сродкаў, увогуле, на відавочны застой у гэтай сферы. Раней калектывы, якія ўтрымліваліся багатымі прадпрыемствамі, заводамі, фабрыкамі, неяк маглі прыхаваць беднасць фантазіі сваіх кіраўнікоў багатымі касцюмамі, што шмат разоў мяняліся (мне не раз даводзілася шкадаваць пра нерацыянальнае выкарыстанне вялікіх сродкаў па прыхамаці пастаноўшчыкаў нумара, задума якога часта была немастацкай і ніяк не апраўдвала выдаткаў) ці віртуознымі трукамі выканаўцаў, аўтарства якіх даўно ўжо растварылася ў калектыўнай творчасці многіх пакаленняў танцораў і балетмайстраў. Неабходнасць акцэнтаваць увагу менавіта на аўтарскай аснове твора, на здольнасці яго пастаноўшчыка ствараць цэласны мастацкі вобраз, шукаць і знаходзіць новае, свежа інтэрпрэтаваць традыцыі, лішні раз даказаў сам конкурс.

Многія з яго ўдзельнікаў паспрабавалі пакарыстацца старымі схемамі. Паказальнае ў гэтым сэнсе выступленне танцавальнага калектыву з Бабруйска, прыстойна апранутага, дастаткова падрыхтаванага ў тэхнічных адносінах, які паказаў нумар пад гучнай назвай "Квітней, Беларусь", але атрымаў пры ўсім гэтым аднадушную самую нізкую ацэнку журы. Кампазіцыя ўяўляла сабой стандартную сюіту з трафарэтных танцаў, падобных да тых, што выконваліся на сцэне амаль усе 70 гадоў савецкай улады і, да таго ж, мелі мала агульнага з назвай пастаноўкі. Аўтар яе зрабіла ўсё, здавалася б, паводле праверанных старых рэцэптаў, не заўважыўшы, аднак, што жыццё вакол змянілася і на двары ўжо канец другога тысячагоддзя.

І гэты выпадак не адзінкавы. Як і шмат дзесяцігоддзяў таму сутаргава тузаючы лейцы, прадаўжаюць скакаць па харэаграфічнай сцэне зухаватыя конніцы Будзённага, паранейшаму высякаюць іскры сваімі шашкамі



крутыя рубакі з нікому ўжо невядомага роду войска, шалёнымі вачкамі круцяцца аднолькава застылыя ўсмешкі рускіх, украінцаў і беларусаў, і, жадаючы поспеху ў што б там ні было, у фінале кіраўнікі калектываў "выстаўляюць на продаж" усіх сваіх трукачоў.

Пасля такіх клішыраваных відовішчаў у мяне міжволі ўзнікла асацыяцыя з іншай шматразова тыражаванай традыцыяй, пры фармальных адносінах да якой з яе выхалошчваецца ўвесь сэнс. У час урачыстага адкрыцця фестывалю на вышытым ручніку мне паднеслі прыгожы каравай хлеба. Наважыўшыся, як мае быць, адламаць ад яго кавалачак, я раптам са здзіўленнем выявіла пад яго скарынкай вялікую дзірку. Каравай аказаўся кардонным, бутафорскім! Такое ж уражанне выклікаюць і некаторыя танцы: за фасадам з паказнога аптымізму, казённай бадзёрасці, штучнай патэтыкі нярэдка хаваецца пустата, як тая дзірка ў караваі.

І ўсё ж "лёд крануўся"! Цэлы шэраг беларускіх харэографаў паказаў арыгінальныя задумы і свежыя па фарбах творы. Першай сярод іх я назвала б В. Ямпольскую, кіраўніка майстэрні абрадавай творчасці "Спас", створанай у Мінскім вучылішчы мастацтваў у 1993 г. Балетмайстар, вельмі дакладна ўлавіўшы магчымасць сінтэзу паміж аўтэнтычнымі, фальклорнымі формамі і мадэрн-харэаграфіяй, стварыла на аснове старажытных паганскіх абрадаў досыць сучасную па стылі і духу сцэнічную кампазіцыю. Яе рэдкая і пазітыўная асаблівасць — спецыяльна напісаная Л. Бебікам музыка, дзе фальклорныя напевы арганічна спалучыліся з сучаснымі сродкамі. У выніку пастаноўка гэтая заслужана атрымала спецыяльны прыз журы "За цэласнасць і арыгінальнасць музычна-харэаграфічнага вырашэння".

Творча паставіцца да традыцый і непасрэдна, з гумарам інтэрпрэтаваць вядомую кадрылю "Гультая" здолеў і ансамбль "Крыніца" са Жлобіна, які таксама атрымаў спе-

цыяльны прыз "За вернасць традыцыям".

Сярод іншых прызёраў — гомельскі калектыў "Палескія зоры" (3-я прэмія), кіраўнік якога А. Коваль з'явіўся галоўным ініцыятарам правядзення фестывалю, ансамбль Беларускага універсітэта культуры (2-я прэмія), нумар якога ў пастаноўцы А. Волкавай не ўтрымліваў ніводнага трука, але — шматлікія знаходкі ў малюнку, лексіцы, вобразнасці.

Цудоўна паказаў сябе магілёўскі калектыў "Рунь", якім кіруе В. Папоў. Створаны каля 15 гадоў таму і выступіўшы ўжо ў многіх краінах Еўропы, ён здолеў адкрыць новыя фарбы ў традыцыйным фальклоры, паказаў свежую па вырашэнні харэаграфічную кампазіцыю "Люляшы", якую журы палічыла вартай першага месца.

Гран-пры заваявала яркая і бясконца вынаходлівая "Путанка-распутанка", пастаўленая кіраўніком вядомага далёка за межамі рэспублікі калектыву "Белая Русь" А. Карповічам, выпускніком Беларускага універсітэта культуры.

Што ж датычыць апошняга, пятага жанру харэаграфіі — сучаснага, ці як яго часта называюць мадэрн-танца, — то ён быў прадстаўлены на фестывалі ў невялікай колькасці (гэта адлюстроўвае, між іншым, узровень развіцця яго ў нашай рэспубліцы). Прысутнасць сучаснага танца на фестывалі, які паводле задумы яго ініцыятараў мусіў ахапіць усе жанры, была натуральная. Сучасны танец практычна вылучалі ў асобны жанр. Ён уваходзіў у агульны раздзел сцэнічнай харэаграфіі не толькі з прычыны сваёй малалікасці, але і таму, што яўна пачаўся працэс інтэграцыі народна-сцэнічных формаў з сучасным танцам і ў цэлым шэрагу выпадкаў было б цяжка вызначыць, да якога жанру аднесці тую ці іншую пастаноўку (напрыклад, кампазіцыю калектыву з Шатландыі, нумар "Спаса" і інш.). Гэты адносна юны жанр харэаграфіі мае пільную патрэбу ў афіцыйнай падтрымцы. Усё тое новае і цікавае, што ствараецца ім (а новага, цікавага ўсё больш і больш), робіцца часцей за ўсё на голым энтузіязме нешматлікімі фанатыкамі, якія не маюць, як правіла, ні трывалай матэрыяльнай базы, ні сістэмы навучання, ні пляцовак для выступленняў.

Сцэну для сучаснай харэаграфіі ва ўсім СНД рэгулярна прадстаўляе толькі знаны Віцебскі фестываль (таму і шырока вядомы па ўсім СНД). Цудоўна, што цяпер гэта зрабіў і Гомель, тым больш, што тут ярка зазіхацела зорка аднаго з самых таленавітых маладых харэографаў, якія працуюць у гэтай сферы на Беларусі, — Дзмітрыя Куракулава. Зрэшты, малады кіраўнік гродзенскага калектыву "Тад" заявіў пра сябе яшчэ гады 2-3 таму на фестывалі сучаснай харэграфіі ў Віцебску. Выступленні яго былі запамінальнымі, але няроўнымі: ён то заваёўваў прызы, то здзіўляў юнацкімі празмернасцямі сваіх пластычных фантазій. У Гомелі ж ён прадстаў раптам маладым Майстрам, здольным спаборнічаць з высокімі прафесіяналамі.

Прызнацца, калі я даведалася, што маленькі, нядаўна створаны пры Гродзенскай філармоніі калектыў сучаснага танца пад кіраўніцтвам Д. Куракулава будзе выступаць у адным канцэрце з балетнай трупай Малога опернага тэатра Санкт-Пецярбурга, я пашкадавала гродзенцаў і падумала, што іх жорстка "падставіў" лёс. Якое ж было маё здзіўленне, калі ўбачыла, што нумары, пастаўленыя Д. Куракулавым і выкананыя ім ды ягонымі артыстамі, вытрымалі параўнанне з пастаноўкамі знакамітых Р. Пеці, Л. Якабсона і іншых вядомых харэографаў! Варыяцыя з гітарай з яго кампазіцыі "Сустрэчы з танга", дзе парадаксальна спалучаліся непасрэдная шчырасць і вытанчаная выдумка, дзівосная касцюмна-пластычная фантазія ў "Малітве", мяккі гумар у сцэнцы "У стаматолага" прадэманстравалі самабытны і яркі талент Д. Куракулава, харэографа і выканаўцы. Вядома ж, гэтую рэдкую каштоўнасць трэба берагчы, цаніць, песціць, але адначасова страшна захваліць, сурочыць. Увогуле, дай Бог расквітнець ягонаму таленту на поўную сілу, а нам — убачыць гэты росквіт.

Вынік гэтых нататак аптымістычны, як і вынік усяго фестывалю. Нягледзячы на арганізацыйныя недахопы, увогуле даравальныя для нованароджанага, Першы Міжнародны харэаграфічны фестываль у Гомелі адбыўся. Ён стаўся доўгачаканым святам для шматпакутнай зямлі, ён даў багатую інфармацыю для роздуму і вызначыў перспектывы для далейшага развіцця сцэнічнай харэаграфіі.

Цудоўным сімвалам фестывалю зрабілася птушка, якая танцуе. Няхай яна прылятае і танцуе ў Гомелі яшчэ не раз!

**Юлія ЧУРКО**

*На здымку: ансамбль "Спас"*

ТЭАТР

# Гуры БАРЫШАЎ: "Акцёрам зацесна ў шырмах"

***Тэатральны фестываль "Белая вежа" (2—5 кастрычніка 1997) раскашаваўся дзвюма паралельнымі праграмамі — тэатраў драматычных ды лялечных. Іхняе перасячэнне, аб'яднанне й зліццё не прадугледжваецца і надалей. А дарэмна. Так мяркуе і прафесар доктар мастацтвазнаўства Гуры БАРЫШАЎ:***



— "Белая вежа" набывае ўсё большую й большую самастойнасць аблічча якраз праз лялечную праграму. Яе вобразную разнастайнасць, высокі ўзровень, акцёрскія ўдачы адзначылі ўсе мае калегі. Можна казаць, што Беларусь набыла яшчэ адзін міжнародны лялечны фестываль. Лялечнікі ўвайшлі ў сферу тэатра жывога акцёра і пачынаюць з ім канкурыраваць. З паказанага нібыта вынікае новая галіна — тэатра малых формаў, у якім самая лялька адышла, адсунулася на другі план. Яна — або парафраз спектакля, або іранічны рэквізіт, або лялька-сімвал ці знак вобразу, а часам і проста спадарожнік героя-лялечніка... З сямі лялечных спектакляў на фестывалі шэсць належалі якраз да такога кірунку.

Такая спецыфіка: добра гэта ці нядобра? Другая палова нашага стагоддзя дакляруе пашырэнне рамак відаў ды жанраў, выкарыстанне мовы ды прыёмаў адно аднаго, — прыёмаў, якія нарадзіліся ў розных краінах, у розных мастацкіх цывілізацыях. Рэч у меры суадносінаў! Лялька не павінна знікаць альбо ператварацца ў статыста з дапаможнага складу!

...Мы ўбачылі марыянетак Карын Шэфер (Фігурэнтэатр, Вена): буйных, аб'ёмных; убачылі лялек Ольштынскага тэатра (Польшча); свет рэчаў, якія на вачах мянялі сваю прыроду паводле лялечных фокуснікаў з Луцка. Гэтыя апошнія нязмушана стварылі інакшую рэчавую прыроду (!) у вясёлай казцы-гульні, "Казцы-ланцужку". Праўда, падвяла музыка, не арыгінальная, а зборная, з кавалкаў, але яднанне тэатра, цырка, я б сказаў нават, нейкага кафэшантана было высокамастацкім. У дзеянне шчыра ўцягвалі дзяцей, — тыя выходзілі на сцэну з вершыкамі, атрымлівалі на памяць ад фокуснікаў кветачкі, цукеркачкі... У чыстым выглядзе — варты дзіцячы тэатр! Але, строга кажучы, гэта ўсё-такі тэатр жывога акцёра, аздоблены лялькамі. Напраўду, гэткае відовішча — вымога часу, акцёрам, відаць, цесна зрабілася за кулісамі, зацесна — у шырмах, звыклых спадарожніках лялечных прадстаўленняў. У спектаклі Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі "Гэта ты... Моцарт?!" — спраўны акцёрскі ансамбль; я б вылучыў Папагена ў выкананні А. Васько і Д. Тэтруашвілі ў ролі Зарастра: яны запамінаюцца, хоць, паводле гульні выпадку, прызы за лепшыя мужчынскія ролі атрымалі іншыя акцёры. Але я б параіў нікому з лялечнікаў не забывацца, што вакал, якім насычана дзеянне спектакля, вымагае штодзённай трэніроўкі! Што да опернага боку, дык ён пераконвае (арыі, героі Моцарта нібы матэрыялізуюцца, складаюцца, ствараюцца ў нас на вачах), але са структуры спектакля амаль зніклі дэталі, якія б давалі зразумець, што перад намі — усё-такі лялечны спектакль! Мала было так званага ажыўлення прадметаў. А вось у "Часе нітак" Карын Шэфер (яе марыянеткі выразныя, пластычныя, Карын — майстар!) залішне традыцыйна падаецца матэрыял, шмат зацягнутасці, эпізоды блага звязаны адзін з адным. Пры ўсёй сваёй адмысловай лялечнай фактуры спектакль проста не дапасоўваўся да характару самога фестывалю!

Калектыў з Івана-Франкоўска я ўспрыняў як рамантычна-паэтычны, дзівіла ягоная пластычная налаўчонасць, але спектакль "Мікіта-Кажамяка" выклікаў супярэчлівае стаўленне. З аднаго боку ён — дакладны, выверены паводле стылістыкі ды пластыкі — пантаміма! Чаравала музычнасць тэксту п'есы Алэся, эмацыйнасць выканання, дзяўчат у танцы ўспрымаеш як паганскіх танцорак (віліс), як жанчын-птушак, як дахрысціянскіх вайдэлотак. А сярод іх — стоўпападобныя лялькі, дробныя паводле маштабу, хутчэй значкі, а не вобразы. Тамсама — наіўныя палітычныя спасылкі (скокі-змаганне чырвонага і жоўта-блакітнага сцяжкоў). Але ж у цэлым сцэнаграфія, вырашэнне, апрактыі лялек выразныя: бачыш, дзе героі Кіеўскай Русі, а дзе палаўцы з аблічамі каменных бабаў. Паводле кірунку — гэта тэатр жывога акцёра з лялькамі-знакамі, у ім толькі Цмок традыцыйны, пераканаўчы і такі фактурны, што, здаецца, заляцеў з іншае оперы...

Адметнымі характарамі, выяўленчымі знаходкамі ўразіў мяне спектакль з Омска "Русалачка" (рэжысёр Барыс Саламчаў, тэатр "Арлекін"). Любая нацыя ўспрымае і перапрацоўвае культурныя каштоўнасці іншых народаў паводле сваіх нацыянальных законаў. Спектакль — матэрыяльнае, мастацкае, вобразнае пацвярджэнне гэтага культуралагічнага закона. Андэрсен са сцэны загаварыў па-руску адметна, шматфарбна, нацыянальна! Актрысы-апавядальніцы не лубочныя, не кічавыя, а каларытныя, з пачуццём меры. Сцэнаграфія сваёй стылізацыяй чымсьці нагадала прыёмы "мирискусников", Аляксандра Галавіна, крыху — манеру Кустодзіева (мастак спектакля — Вольга Вяроўкіна).

Запомніўся і гродзенскі "Прыхадзень" у рэжысуры М. Андрэева, але выконвацца ён мусіў быў бы не на сцэне лялечнага тэатра, а ў коле драматычных спектакляў фестывалю. Моц акцёрскага дару Шалкевіча, Андрэева заступае маленькіх, пляскатых, папляжаных лялек, сам лялечны бок спектакля нібыта й зусім без патрэбы... Спектаклі падобнага кірунку, паўтараю, вымога часу. Але чаму б не напружыцца, не зрабіць намаганне пашукаць як мага дакладныя суадносіны чалавека і ягонага лялечнага вобразу ў адным асяродку? І гэтага вымагае час, эстэтыка...

Кірунак, які пераканаўча вымаляваўся на другім фестывалі "Белая вежа" — не Піліп з канапель, не цяперака ўзнік. Згадаем намаганні Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі, асабліва і асабіста — Аляксея Ляляўскага (як і ягонай спадкаемніцы Ірэны Мацкевіч): "Дзед і жораў", "Майстар і Маргарыта", "Бура", "Цар Ірад", "Снежная каралева", "Гэта ты... Моцарт?!"... Злучэнне, спалучэнне жанраў і відаў мастацтва! Тэатр заўжды будзе супраціўляцца, калі арэал ягонага існавання штучна звужаецца. Вынікае новы кірунак, дзе жывы акцёр апанаваў лялечныя падмосткі!

...Сур'ёзна: каб спраўдзіць тэатр на ўзроўні лепшых сусветных узораў, у нашых умовах толькі лялькі трэба выштукоўваць, кшталціць, дасканаліць гадамі! Лялька — яна іранічная. Яна нібы паўтарае чалавека ў перабольшанай, завостранай, часам шаржаванай манеры. Лялька вымагае віртуоза-механіка, нарэшце! Магчыма, тэатры лялек цяпер прастуюць, выбіраюцца самым прымальным, самым зручным шляхам, але не заганным, не! Відаць, у нашых лялечных тэатрах узгадавалася цэлая плеяда дыхтоўных драматычных артыстаў, нездарма і выхад акцёраў з лялькамі на вялікую драматычную сцэну прымальны, мастацкі! Калі лялечнік — удалы драматычны выканаўца, дык ягоная лялька размаўляе чалавечай моваю, а далей — справа тэхнікі. Прызнаюся, часам так раздражняе нетэхнічнасць, неахайнасць акцёра-лялечніка...

"Белая вежа" выявіла і гэтую праблему, так бы мовіць, тэхналагічную. Многія мастакі — з тых, што цудоўна ўяўляюць ды выяўляюць вобраз праз ляльку — не валодаюць... рамяством разлікаў: не могуць разлічыць велічыню лялькі суадносна з целам акцёра, з люстрам таго міні-тэатрыка, які асталёўваецца ці выгароджваецца на сцэне, нарэшце, з люстрам сцэны ўвогуле! Прафесійніку зразумела, што на фестывальную (не ідэальную) сцэну спектаклі звозяцца з розных, значыць, іншых сцэнаў, але як можна, напрыклад, здрабніць тварык у лялькі, не давесці, не разлічыць тулава, фігуру, — гэта непісьменна!

Узнагароджваць трэба з'явы на сцэне. Каб заахвочваць іх. Трэба, каб "Белая вежа" перагледзела свае лялечныя прэміі, скажам, не за лепшую мужчынскую або жаночую ролю, бо лялечнік можа іграць і сабаку, і якога-небудзь павучка. Трэба ўвесці прэміі за сцэнаграфію: у класічным лялечным тэатры мастак — палова поспеху, але яго складаюць і буйныя, і дробязныя рэчы. Што з таго, што мы не пабачылі ў Брэсце класічны лялечны тэатр... Вось Карын Шэфер, анімуючы сваіх марыянетак, не надзела пальчаткі (рацыя, бо нязручна), не затанавала рукі нейтральным тонам грыму. Колеразнаўства эфект неахайнасці на сцэне тлумачыць проста: рукі актрысы — блізка да лялькі, твар лялечніцы — таксама светлы. І ўсе тры плямы, ды яшчэ ўзмоцненыя адбіткамі святла — над лялькай. Натуральна, глядач пільнуецца ярчэйшых плямаў на тле задніку, замест каб сачыць за самой лялькай. У розных тэатрах надта аднолькавыя памылкі...

Паказаны былі самыя розныя спектаклі на розных узроўнях. Між тым лялечная праграма была арганізавана вельмі й вельмі дыхтоўна (яе дырэктар — М. Шавель), хоць і бракуе досведу, хоць і не прынялі пад увагу таго, што няможна перагружаць першы дзень (прыезд, дарога, стомленасць). Нефармальныя сустрэчы мецьмуць "фармальны", прадугледжаны час. Выступоўцы-тэарэтыкі — колькі гадзін, каб сабраць свае думкі перад абмеркаваннем, каб адцягнуцца ад уражанняў. Фестываль — не толькі гарадское свята й пільнаванне тэндэнцый мастацкага развіцця. Гэта яшчэ і спатканне калег! І яно, спатканне, не менш важнае для культуры, і няхай калегі грамадуюць без перашкодаў, без замінак. У мастацтве тэатра ёсць дзве звышважныя рэчы: дзеля чаго я гэта стаўлю і якім спосабам я гэта раблю. Спосабы якраз і няможна абмяжоўваць, няможна заціскаць лялечнікаў у шырмы дзеля карысці й развіцця мастацтва. А зносіны мастакоў — тыя самыя спосабы жыцця й паразумення ў мастацтве...

**Гурыя БАРЫШАВА слухала і натавала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

*Брэст—Мінск*

МУЗЫКА

# ... І ягоныя сыны

На куртачку ў гардэроб збегаць, на пальцы пахукаць — гэта маглі сабе дазволіць у той вечар нават самыя цырымонныя слухачы. Музыканты ж мусілі трымаць гонар артыстаў: белая кашуля, лёгкі фрак, паважная пастава... У неацепленай камернай зале, што на Залатой Горцы, выступаў добра вядомы сталічнай публіцы дуэт: скрыпач Вячаслаў Зяленін ды клавесініст Аляксандр Мільто. Музыку, з якой складалася іх новая праграма, не назавеш эмацыянальна адкрытай: санаты Іягана Себасцьяна Баха ды трох ягоных сыноў. Але ўсё ж атмасфера канцэрта нібыта сагрэла стылыя касцельныя муры, холад восеньскага вечара адступіў перад цеплынёй жывой музыкі, шчырага выканання, удзячных слухацкіх сэрцаў.

Канцэрт "І. С. Бах і ягоныя сыны" прайшоў з аншлагам. Гэта здзіўляла нават заўсёднікаў філармоніі (тым болей, што адначасова ў Вялікай зале адбываўся, таксама пры рэдкасным наплыве публікі, адметны сімфанічны канцэрт). Думалі-пыталіся: няўжо "цяжкі" кананічны Бах прымусіў мінчукоў раскупіць білеты, павабіў іх сюды нават з малымі дзецьмі? Няўжо строгі голас скрыпкі ці прыглушаны тэмбр клавесіна — прычына зачараванасці ў дзіцячых вачах (ніводнае малое, як гэта часцяком бывае, не памкнулася парушыць гармонію ў зале)? Няўжо гэткую цікавасць выклікаюць не спешчаныя сусветнай славай нашы выканаўцы? Ім давялося граць і на "біс"...

Хтосьці заўважыў: людзі прыйшлі старога Баха паслухаць. Бо з гастралёраў яго, лічы, ніхто не грае — надта цяжкі кампазітар для выканання. А тут — суквецце музычных прэм'ер за адзін вечар!

Пяшчотныя ды рухавыя вобразы Сі мінорнай санаты Карла Філіпа Эмануэля; рамантычныя матывы Мі-бемоль мажорнай санаты Іягана Крысціяна ўзнаўляў дуэт скрыпкі ды клавесіна. Дзівоснай прыгажосці кантылена ў атачэнні высакародных гармоній, нечаканы эфект "саліста з аркестрам" уразілі ў 3-й частцы Мі мажорнай санаты для скрыпкі і чэмбала Іягана Себасцьяна. "Зорнымі хвілінамі" артыста падалася Соль мінорная саната Іягана Себасьяна для скрыпкі сола...

Вячаслаў Зяленін, Аляксандр Мільто. Вялікі Бах і яго таленавітыя сыны. А яшчэ — таленавітая і добрая мінская публіка (перапрашаю, у зале былі і немецкі "дэсант", мяркуючы па мове). Вось яны, складнікі аншлагу. І не трэба пытанняў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Паэт і настаўнік

УЛАДЗІМІРУ ВЕРАМЕЙЧЫКУ — 60



**Нарадзіўся Уладзімір Міхайлавіч у вёсцы Петрыцкае Брагінскага раёна 1 лістапада 1937 года ў сям'і настаўнікаў, што і прадвызначыла выбар ім жыццёвага шляху. У 1955 годзе скончыў Рэчыцкае педагагічнае вучылішча. 3 год папрацаваў старшым піянерважатым Міхалкаўскай сярэдняй школы Мазырскага раёна, а потым быў прызваны ў армію. Пасля звальнення ў запас паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1964 годзе. Працаваў завучам, дырэктарам Ведрыцкай васьмігадовай школы Рэчыцкага раёна, а пасля рэарганізацыі яе ў 1966 годзе ў сярэднюю ўзначаліў калектыў дзесяцігодкі.**

**Свой першы верш У. Верамейчык апублікаваў у 1955 годзе на старонках Рэчыцкай раённай газеты. Выдаў кнігі паэзіі "Прыпяць", "Яснасць", "Люблю!", "Клянуся Прыпяццю", зборнік публіцыстыкі "Гарызонты сельскіх педагогаў. Запіскі дырэктара школы"... Выступае таксама ў галіне сатыры і гумару.**

**З днём нараджэння, шаноўны Уладзімір Міхайлавіч! Здароўя Вам і новых творчых поспехаў!**

## З пазіцыі патрабавальнасці

**Свой даследчыцкі шлях Юльян Пшыркоў пачаў у 1940 годзе, выступіўшы з артыкулам пра "Новую зямлю" Я. Коласа і дарэвалюцыйныя паэмы Я. Купалы. Дагэтуль ён скончыў двухгадовыя педагагічныя курсы ў Рагачове, настаўнічаў у Клічаўскім і Рагачоўскім раёнах, скончыў філалагічны факультэт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта і працаваў выкладчыкам у Магілёўскім педагагічным інстытуце. У тым жа 1940 годзе Ю. Пшыркова прызвалі ў армію. У гады вайны ўдзельнічаў у баях пад Ленінградам і Кёнігсбергам, быў тройчы паранены. З 1945 года працаваў навуковым супрацоўнікам, а з 1954-га загадчыкам сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР.**

**На творчым рахунку Юльяна Сяргеевіча — даследаванні "Якуб Колас. Жыццё і творчасць", "Трылогія Якуба Коласа "На ростанях", "Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)", "А. Е. Богдановіч", "Эпас рэвалюцыі. Паэмы Я. Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка", "Летапісец свайго народа. Жыццёвы і творчы шлях Я. Коласа"... Склаў Ю. Пшыркоў альбом "Якуб Колас. Жыццё і творчасць". За ўдзел у двухтомным даследаванні "История белорусской доктябрьской литературы" і "История белорусской советской литературы" Ю. Пшыркову было нададзена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.**

**Памёр Юльян Сяргеевіч у 1980 годзе. 31 кастрычніка сёлетняга года яму споўнілася б 85.**

## Давяраць — давярай, ды...

**Праходзяць мерапрыемствы, прысвечаныя 75-годдзю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У шэрагу іх і выстава, што адчынілася ў сераду. А экспазіцыя — унікальная. Як паведамлялі мы раней, у фондах буйнейшага кнігасховішча краіны знаходзіцца 58 тысяч адзінак захоўвання рукапісаў, старадрукаў і рэдкіх выданняў. Канечне ж, многімі з іх карыстаюцца ў сваёй працы толькі спецыялісты. Кіраўніцтва бібліятэкі і вырашыла пазнаёміць з асобнымі з іх усіх жадаючых, а таксама з кнігамі, што маюць аўтографы знакамітых людзей. Паколькі гэтыя экземпляры унікальныя, прыняты меры перасцярогі. Днём яны экспануюцца, а на ноч старанна перазахоўваюцца. У бібліятэку, як бачым, ходзяць толькі свядомыя людзі, але нездарма кажуць: "Беражонага і Бог беражэ".**

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Годнасць і сумленне

ДА 60-ГОДДЗЯ МАСТАКА ЯЎГЕНА КУЛІКА

Аўтарытэтны сёння ў асяроддзі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, Яўген Кулік пачынаецца з таго часу, калі ён, студэнт кафедры жывапісу, аднаго дня перайшоў на... родную мову. З'ява на пачатку 60-х — надзвычайная, успрынятая як дзівацтва. Цяпер разумееш: гэта быў першы-званок. Падавала свой голас пакаленне, якое з'явілася праз чвэрць стагоддзя пасля страшных бальшавіцкіх пагромаў 30-х гадоў, пакаленне, якому трэба было пачынаць у пэўным сэнсе з нуля. Зразумець, што "трэба пачынаць з нуля", здаецца, было самае цяжкае. Гэта значыла ўсвядоміць сябе крэўна прыналежным да паняволенага, амаль асіміляванага народа, адчуць свой абавязак перад ім. Спачатку цяжкі і невядомы шлях выбіралі адзінкі... Уладзімір Караткевіч, Лявон Баразна, што загінуў на гэтым шляху, рэпрэсаваныя студэнты універсітэта, якія патрабавалі адно беларускамоўнага выкладання, разгромленая група маладых навукоўцаў у акадэміі...

Творчае жыццё маладога мастака Я. Куліка знешне складалася спрыяльна: праз два гады пасля сканчэння інстытута прыняты ў Саюз мастакоў, неўзабаве атрымаў майстэрню, уключаны ў выставачныя камісіі — прамая дарога да казённых дагавораў, дабрабыту, да "карыта" Мастацкага фонду. Але ж з першых крокаў мастак зрабіў для сябе правілам — ніводнай работы, якая не адпавядае ідэалам творчасці, ніводнай работы выключна дзеля грошай. Творчы максімалізм, маральна-этычная бескампраміснасць, радыкалізм у грамадска-палітычных пытаннях, а галоўнае, нацыянальная арыентацыя ў хуткім часе прывялі яго да няміласці начальства, адчужэння ды ізаляцыі ў Саюзе мастакоў.

Адначасова вакол Я. Куліка, вакол яго майстэрні з унікальнай бібліятэкай фарміруецца асяроддзе маладых інтэлігентаў. Мастакі, мастацтвазнаўцы, гісторыкі, археолагі, літаратуразнаўцы, літаратары. Абмен думкамі, дыскусіі, пошукі адказаў на спрадвечныя пытанні... Нелегальныя святкаванні Купалля, вернісажы з нагоды юбілеяў афіцыйна забароненых папярэднікаў-адраджэнцаў, дзеячаў культуры Івана Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Міхася Забэйды-Суміцкага... Паездкі ў Вільню да Зоські Верас і Пётры Сергіевіча, у Зэльву да Ларысы Геніюш... Ішла напружаная творчая ды інтэлектуальная праца. Усё гэта давала пачуццё пераемнасці часу, лучыла мінулае з будучыняй, мацавала волю і надзею. Пройдуць два дзесяцігоддзі, і шмат хто з таго асяроддзя ўвойдзе ў Арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту "Адраджэнне".



Выпускнік кафедры жывапісу, Я. Кулік пасля інстытута цалкам пераходзіць на графіку. Яго творы выкананы ў розных тэхніках, але перавага аддаецца "жывому" маляванню, акварэлі. Выразна акрэсленыя мэты: пошукі нацыянальнага характару выяўленчай мовы, народнага тыпажу, адметнасцей матэрыяльнай культуры, дойлідства, стварэнне сістэматызаванага шэрагу славутых гістарычных постацяў, подступы да нацыянальнага эпасу. Многае з гэтага ўжо здзейснена, непараўнальна больш знаходзіцца ў эскізах, у напрацоўках.

Пазначым некаторыя вызначальныя моманты творчай працы мастака. Пасляінстытуцкае дзесяцігоддзе — ілюстраванне дзіцячых выданняў (выпрацоўка ўласнага стылю, эксперыментаванне з калажам, набыццё вопыту макетавання). Шчаслівая сустрэча з паэзіяй Максіма Багдановіча — афармленне зборніка "Маладзік". Пошук выяўленчых сродкаў, сугучных творчасці "паэта паўтонаў". Пазней — плённая праца над ілюстрацыямі да паэмы "Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык".

Вынік вандровак і вывучэння спадчыны — серыі мінілінарытаў "Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны" (1974) і каляровых малюнкаў рэканструкцый "Замкі Беларусі" (1977). 1979 год — год напружанай працы над паэмай "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага (грунтоўнае вывучэнне эпохі, гістарычнага матэрыялу, еўрапейскай гравюры).

Канец 70-х — 80-ыя гады — станковая графіка гістарычнай, культурна-этнаграфічнай тэматыкі. Працы выкананы ў розных стылявых манерах, але з характэрнай для мастака выяўленчай пластыкай, колераваи стрыманасцю, пэўнай манументалізацыяй вобразаў.

Паралельна з творчаю працаю Я. Кулік разам з аднадумцамі распрацоўвае перспектыўны план выставачнай дзейнасці і рэалізуе яго ў 70—80-я гады. Гэта экспазіцыя твораў народнага разьбяра Апалінара Пупкі, мастакоў Міхася Станюты, Міхася Сеўрука, Язэпа Драздовіча, Пётры Сергіевіча, выставы да юбілеяў Цёткі (Алаізы Пашкевіч), Міколы Гусоўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага і паўстання 1863 года ды інш. Яны мелі значны грамадскі рэзананс, адыгралі немалую асветна-выхаваўчую ролю, далі беларускаму мастацтву шэраг твораў бясспрэчнай мастацкай і культурна-гістарычнай каштоўнасці. Яны засведчылі, што наша мастацкае жыццё распачынае новую фазу развіцця, якой потым, ужо у канцы 80-х, дадуць назву "Адраджэнне". Цяпер традыцыю плённа



працягваюць выставы суполкі "Пагоня" ў Мінску, Вільні, Гайнаўцы (Беласточчына).

Удзел Я. Куліка ў падрыхтоўцы гэтых выстаў надзвычай шырокі. Як правіла, ён (разам з калегамі) распрацоўвае тэматыку ("тэмнікі"), стварае зыходную іканаграфію, калі не захаваліся гістарычныя выявы (так адбылося з партрэтам Міколы Гусоўскага), выступае дарадцам, кансультантам, крытыкам. І, натуральна, фарміруе экспазіцыю з прапанаваных твораў. Тут ён сябе сцвердзіў як выдатны майстар.

Дзякуючы сваёй эрудыцыі, глыбокаму веданню і разуменню гісторыі, мастацтва, літаратуры, бездакорнай сумленнасці і абвостранаму пачуццю годнасці Я. Кулік надзвычайна моцна і вынікова ўплываў на сваіх калег, адкрываючы ім вочы на беларускі свет. Можна назваць дзеячаў беларускага мастацтва першай велічыні, якія і сёння лічаць яго сваім настаўнікам, прыслухоўваюцца да парад і заўваг.

Я. Кулік актыўна спрычыніўся да прыняцця герба "Пагоня" дзяржаўным сімвалам Рэспублікі Беларусь. Менавіта ён разам з мастаком Уладзімірам Крукоўскім і маладымі калегамі рабіў экспазіцыю па гісторыі беларускіх герба і сцяга напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета. Выстава моцна паўплывала на рашэнне сесіі 19 верасня 1991 года. Яны ж выканалі пазней эталон дзяржаўнага герба.

Я. Кулік захоўвае зайздросную жыццёвую энергію, творчы імпэт. Багацеюць яго графічныя серыі. Тэмы — вядомыя: гістарычныя постаці, замкі Беларусі, паўстанне 1863 года ды іншыя. Многа новых задум, эскізаў. І па-ранейшаму шмат займаецца ён няўдзячным "руцінным" асветніцтвам: шчодра дзеліцца назапашанымі ведамі, скрупулёзна сабраным выяўленчым, даведаным матэрыялам.

Яўген Кулік працуе на Будучыню, на незалежную Беларусь.

**Генадзь СОКАЛАЎ-КУБАЙ**

# Наменклатурная міфалогія і рэальнасць

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

## МІФ ШОСТЫ

цяжкасці з набыццём розных тавараў. У краіне з'явілася грашовая маса, не забяспечаная таварамі. Каб выправіць становішча і стварыць бачнасць стабільнасці рубля, пачалося масавае спойванне насельніцтва. Літаральна ўсе харчовыя крамы ў застойныя часы былі завалены танным віном, якое ў народзе называлі "чарнілам".

Паколькі п'янства набыло масавы характар, а тэхналагічная база гаспадаркі не ўдасканальвалася з-за адсутнасці сродкаў, тэмпы вытворчасці паўсюдна пачалі хутка падаць. У такіх умовах кіраўніцтва краіны вымушана было даць "адбой" масаваму спойванню і ўвяло ў дзеянне "сухі закон". Вядома ж, мера гэта была вымушанай. Але яна не магла даць станоўчых вынікаў у тых умовах, на якія крамлёўскія "правадыры" разлічвалі.

Гэты міф закранае цяперашняе становішча спраў у сельскай гаспадарцы Беларусі. Нам настойліва ўкладваецца ў вушы, што без калгасаў сялянам і гараджанам не будзе чаго есці, што ў застойныя часы па вытворчасці прадуктаў харчавання мы нібыта знаходзіліся на ўзроўні перадавых краін Еўропы. Праўда, пры гэтым замоўчваецца, што ў нас на душу насельніцтва ў два разы больш прыходзіцца ворнай зямлі, чым у большасці краін з рынкавай эканомікай. Замоўчваецца і тое, што чвэрць неабходнага збожжа ў той час у рэспубліку імпартавалася. Калі ўлічыць усё гэта, дык робіцца відавочным, што вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі з адзінкі плошчы на Беларусі была амаль у тры разы ніжэйшай, чым у краінах еўрапейскай супольнасці. Між тым, кліматычныя ўмовы для сельскай гаспадаркі ў нас куды лепшыя, чым, напрыклад, у Фінляндыі ці Нарвегіі.

Часта ў якасці доказаў "высокіх дасягненняў сацыялістычнай калгасна-саўгаснай сістэмы" называліся такія гаспадаркі, як "Рассвет" імя Арлоўскага ці "Аснежыцы". Але ж такіх гаспадарак ва ўсёй рэспубліцы — адзінкі. Яны аніяк не характарызуюць агульны стан беларускай сельскай гаспадаркі. Не выклікае сумненняў і тое, што створаны яны былі з адзінай мэтай: дэманстраваць ілюзію пераваг калгасна-саўгаснага ладу. Рэальныя, а не міфічныя "дасягненні" калгасаў большасць з нас кожны дзень бачыць на паліцах крамаў, адчувае па сваіх кішэнях пасля іх наведвання.

**Анісім РОЛІК**

*г. Мінск*

І ПРА НАС

# Чынгіз АЙТМАТАЎ: "Масавая літаратура не робіць чалавека лепшым"

**Ларыса ДОКТАРАВА. Вы адзін з самых вядомых рускіх пісьменнікаў, з моманту вашай першай публікацыі мінула амаль сорак гадоў. Як вы ацэньваеце тое, што зараз адбываецца ў рускай літаратуры, і ці ўплывае ўзніклая ў Расіі сітуацыя на вашу творчасць?**

**Чынгіз АЙТМАТАЎ.** Так, цяпер адбылася змена эпох, змена сістэм, і мы, пісьменнікі, апынуліся ў новай грамадскай і творчай сітуацыі.

Савецкая Атлантыда з усёй сваёй культурнай і духоўнай маёмасцю, з усімі сваімі супярэчнасцямі і заганамі апусцілася на дно акіяна. І пісьменнікі пайшлі ў небыццё разам з Атлантыдай. Мы ґэтага самі хацелі, шмат чаму спрыялі. Але як заўсёды бывае: чакаеш аднаго, а атрымліваеш іншае. Увогуле я павінен сказаць, што ў чалавеку ёсць адна невынішчальная рыса: ён заўжды чакае, што рух жыцця суправаджаецца пераменамі да лепшага. І штораз мы пераконваемся, што гэта далёка не заўсёды спраўджваецца, і кожны раз мы крыўдуем, як быццам гэта для нас адкрыццё.

**— Вы памятаеце, што ў пачатку стагоддзя рускія пісьменнікі і паэты пісалі пра будучую рэвалюцыю, пра яе непазбежнасць, спадзеючыся, што яна прынясе радыкальныя паляпшэнні?**

— Гэта тычыцца не толькі Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ўсіх рэвалюцый. Змены эпох заўсёды суправаджаліся вялікімі крушэннямі. Якраз гэты перыяд мы цяпер і пражываем.

Вось вы цікавіцеся маёй творчасцю, а я сам не ведаю, што мне рабіць. Я перажываю цяпер у маёй творчасці вельмі цяжкі крытычны момант.

**— Ці не сталася ваша згода прыняць дыпламатычную пасаду спробай уцячы ад сябе, ад вырашэння творчага тупіка?**

— Не. Да гэтага цяпер трэба ставіцца зусім інакш. У гэтым пытанні я бачу комплекс нашай савецкай псіхалогіі. Раней гэтак было, што калі хтосьці кудысьці ад'язджаў, дык гэта было цэлай падзеяй, якая абмяркоўвалася, ацэньвалася. У цяперашні час камунікацыі ахопліваюць увесь свет, ён адзіны, і надаваць зараз значэнне таму, куды хто паехаў, дзе атабарыўся, залішне.

**— Але я маю на ўвазе вашу працу...**

— Не, я хачу, каб гэта было адзначана. Хопіць нам гаварыць пра тое, хто дзе жыве, ды яшчэ не проста так, а з асуджэннем. Мы дамагліся поўнай свабоды перамяшчэння, мы гэтага хацелі. Калі ў вас ёсць для гэтага падставы, калі вы можаце дзесьці ў іншым месцы жыць, едзьце туды. Напрыклад, у Амерыку. Цяпер там шмат народу жыве, вучоныя, дзеячы культуры. Чаму не? Кожны павінен знайсці, так бы мовіць, месца сваёй рэалізацыі. Таму тое, што я сюды прыехаў, неістотна.

Дарэчы, невядома, у якой краіне я больш знаходжуся. За год я разоў дзесяць бываю ў Цэнтральнай Азіі, у нашым Кіргізстане і ў Маскве. Гэта нялёгка, але гэта таксама лад жыцця. Прычына майго творчага крызісу не ў гэтым. Для мяне галоўнае пытанне заключаецца ў тым, пра што цяпер мы, пісьменнікі, хочам сказаць сабе. Літаратура — гэта аповед чалавека пра чалавека. Гэты аповед бясконцы. Пакуль будзе існаваць чалавек, увесь час ён будзе пра сябе гаварыць.

І вось у гэтым плане многія пісьменнікі, і я ў тым ліку, якія знайшлі свой шлях, сваё месца ў літаратуры ў савецкую эпоху, апынуліся ў цяжкім становішчы. Нам ніхто не замінае. Мне асабіста ніхто не перашкаджае. Наадварот: мне дадзена поўная свабода. Але ў адначассе гэтая свабода абярнулася пустэчай. Пра што нам зараз гаварыць?

Акрамя ўнутраных прычын крызісу, існуюць і вонкавыя.

Напрыклад, узнік шэраг выдавецтваў, якія шукаюць не тыя творы, якія маглі б стаць з'явай вялікай літаратуры, якія спрыялі б спазнанню чалавекам самога сябе, а творы забаўляльныя.

Калі вы зірнеце на прылаўкі магазінаў, дык убачыце, што ўсё тое, што завецца масавай літаратурай, займае на іх пануючае становішча.

Цяпер нават паявілася цэлая паласа ў "Литературной газете" — "Масавая літаратура". Там прыводзяцца літаральна дзесяткі рэцэнзій з фотаздымкамі вокладак гэтых кніг. Усе яны пабудаваны па адной і той жа схеме і ставяць сабе задачу — прывабіць чытача.

Я спрабую зразумець і прааналізаваць гэтую з'яву. У гэтых творах гаворка ідзе пра тры рэчы: страх, голад і каханне, больш дакладна — размнажэнне. Такія тры пачаткі, якія зноў і зноў пераплятаюцца ў любых сюжэтных варыянтах. Але, гэта так, чалавек існуе дзеля гэтага. Але культура існавала і існуе дзеля таго, каб адысці ад гэтага як мага далей і наблізіцца да таго, што ў рэлігіі называецца Боскім пачаткам. Я гэта разумею як набліжэнне да культурных і духоўных каштоўнасцяў, якія б рабілі чалавека лепшым. Масавая літаратура не робіць яго лепшым. Забаўляючы яго, пацяшаючы яго, яна яго пакідае такім, які ён ёсць.

А вялікая літаратура, напрыклад, руская класіка, у тым ліку і савецкага перыяду, ставіла сабе іншую задачу.

Як жа можна цяпер выйсці з прапановаю сур'ёзнай рэчы? Добра, што ў Расіі яшчэ існуюць тоўстыя часопісы, якія трымаюць статус сур'ёзнай літаратуры. Без іх наогул бы нічога не было.

Зусім нядаўна на Маскоўскім кінафестывалі ўдзельнічаў я ў многіх дыскусіях: у тым ліку і пра лёс кіно. У часе адной з дыскусій мы ўсе, людзі майго пакалення, наракалі, што камерцыйнае кіно выганяе ўсялякія спробы вялікага, сур'ёзнага мастацтва. У камерцыйным кіно існуе канвеерны спосаб падачы гледачу забаўляльных фільмаў, гэта значыць мастацтва, аналагічнага масавай літаратуры.

А што рабіць сур'ёзнаму кіно?

Аказалася, што сярод нас быў адзін амерыканец. Ён пасля ўзяў слова. І ён нас агаломшыў, заявіўшы: "Вось вы ўсе наракаеце на камерцыйнае кіно. А я вам скажу, што без камерцыйнага кіно ніякага іншага у вас не будзе. Бо камерцыйнае кіно масавае, яно сябе апраўдвае. І толькі праз масавае кіно паявяцца нейкія сродкі для стварэння вялікага сур'ёзнага мастацтва".

Вядома, для нас яго заява было адкрыццём, і мы спачатку разгубіліся. Але пасля мы задумаліся, і я таксама. Гэта толькі на словах здаецца, што за ім праўда, а на справе ўсё аказваецца не так. Таму што рынкавая эканоміка не падпарадкоўваецца нашым добрым намерам. Мы многіх ведалі, якія, адыходзячы ў камерцыйнае кіно, гаварылі: я зраблю адну-дзве касавыя карціны, а пасля гэтага займуся сапраўдным мастацтвам. Гэтыя людзі ўжо не вярталіся. Таму што грошы моцныя тым, што чым больш нарастае грашовая маса, тым больш яна вымагае далейшага нарастання.

**— Вы бачыце выйсце з узнікшай сітуацыі ў літаратуры?**

— Не, непасрэднага выйсця я не бачу. Але нейкія фонды на падтрымку культуры, на маю думку, павінны быць створаны.

**— Нядаўна Барыс Ельцын аб'явіў аб стварэнні тэлевізійнага канала "Культура", падобна на тое, што гэта крок у бок звароту да некамерцыйнай культуры?**

— Гэта першы крок. Пабачым. Разумееце, ёсць агульная заканамернасць. Усё адмоўнае ў чалавеку валодае такой сілай распаўсюджання, што дай Бог яго запыніць. І наадварот, усялякая дабрадзейнасць, усялякія жаданыя намі праявы, у прыватнасці, у паводзінах, вымагаюць заўсёднай працы, заўсёдных высілкаў. Пачынаючы з дзіцячага малюнка.

Тое, што адбываецца ў рускім грамадстве, усё нарастае і нарастае, як стыхія.

**— Значыць, літаратура і мастацтва апынуліся ў той жа сітуацыі, што і само грамадства?**

— Безумоўна.

**— "Таўро Касандры" — гэта ваш адказ на становішча ў рускім грамадстве пісьменнікаў, ваша асабістае выйсце з творчага тупіка?**

— Але, гэта так. Мне здавалася, што ў гэтым рамане я знайшоў нейкі шлях, і мяркую прадоўжыць у гэтым плане. Хоць гэта не тое чытанне, якое будзе ісці нарасхват, я веру, што дзесьці ў нетрах чалавечай душы яно павінна знайсці свой рэзананс. Праўда, цяпер я галоўным чынам атрымліваю водгукі ад еўрапейскіх чытачоў — нямецкіх, італьянскіх, французскіх.

Я чакаў, што руская літаратурная крытыка мой раман падтрымае ці, прынамсі, прапануе чытачу звярнуць на яго ўвагу. Гэтага не здарылася.

**— А для вас мае значэнне літаратурная крытыка?**

— Вядома. Цяпер літаратурная крытыка — вялікая сіла. Тут таксама адбылася метамарфоза. Я разумею, што сёння іншае мысленне, што ў крытыкі іншыя мэты і іншыя задачы. Але нацэльваць літаратуру на тыя творы, якія пад выглядам псіхалагізму заводзяць чытача ў нетры падсвядомасці, як цяпер стала модна, неяк дзіўна. Вядома, гэтых крытыкаў ніхто не спыніць, ніхто нічога не забароніць...

**— Вы маеце на ўвазе рускую крытыку ці еўрапейскую?**

— Рускую. З заходняй я недастаткова знаёмы. Але руская крытыка адлюстроўвае тое, што адбываецца на Захадзе. Мне здаецца, што пры ўсёй свабодзе і дэмакратыі кожны чалавек павінен гаварыць сабе: я свабодны, але я ў адказе за гэтую свабоду. Хіба можа чалавек рабіць усё што заўгодна? Хіба можа пісьменнік адлюстроўваць жыццё як заўгодна, ва ўсякім разе, не ўпрыгожваць яго? Водгукі тых крытыкаў, з якімі я адчуваю ўзаемаразуменне, вельмі важныя, бо абмен думкамі з імі нас як бы ўзаемадапаўняе.

**— У "Таўры Касандры" я звярнула ўвагу на тое, што грамадства, натоўп паказаны ў вас не ў самым прывабным выглядзе.**

— А калі натоўп быў прывабны?

**— І другое — героем рамана, у адрозненне ад герояў вашых ранейшых твораў, з'яўляецца не просты працаўнік, а інтэлектуал?**

— Так. Інтэлектуалы павінны цяпер усведамляць, што галоўная адказнасць за будучыню ляжыць на іх. У нашай краіне яны могуць заклікаць натоўп адрынуць тое, што нас душыць, не дае жыць, нашу мінулую, што вычарпала сябе, сістэму. А герой-працаўнік — гэта было ўласціва сацыялістычнаму рэалізму. Я не магу сказаць, што я быў па-за ўплывам сацыялістычнага рэалізму з яго культам простага чалавека. Я літаральна ўсё гэта ўспрымаў, і таму найбольш моцныя вобразы ў маіх творах былі вобразамі простых людзей. Але зараз усё больш складана, таму што я не магу маляваць "чаўнака", чалавека, якога падманваюць, які падманвае. У "Таўры Касандры" я паспрабаваў падняцца над будзённым жыццём, над палітыкай, над нацыянальнасцю.

**— Што вы думаеце пра метад сацыялістычнага рэалізму? Ён яшчэ існуе?**

— Як метад, прадвызначаны і гэтак далей, калі літаратура падпарадкоўвалася ідэалагічным задачам, ён ужо не існуе. Адбылося поўнае распрыгоньванне. Але адначасова з'явіліся іншыя складанасці. Як кажуць, з адной крайнасці кінуліся ў другую. Цяпер паказ чалавека ў самым бессаромным выглядзе лічыцца нармальным, цудоўным.

Нягледзячы на ягоныя цяжкія ношкі, адмаўляць начыста сацыялістычны рэалізм я не хацеў бы. Гэты метад меў свае дасягненні, напрыклад, у рэалістычным паказе народнага жыцця. Па-другое, ён адыграў станоўчую ролю ў развіцці многіх нацыянальных літаратур. Цяпер гэтыя літаратуры пакінуты на волю лёсу, ім даводзіцца жыць у агульных умовах сусветнага развіцця. Але ў іх ужо назапашаны пэўны вопыт.

**— І якім вы бачыце развіццё нацыянальных літаратур, у прыватнасці — кіргізскай?**

— Ім трэба зразумець мінулае, але ў новым аспекце, гэта значыць паказваць чалавека не толькі як сацыяльную з'яву. Розніца ў тым, што мы падкрэсліваем калектывізм чалавека, а заходняя літаратура — ягоныя індывідуалізм і эгаізм. Літаратура павінна навучыцца ўсё спалучаць.

**— Я чула, што вы збіраецеся пісаць твор на ваенную тэматыку?**

— Не, наўрад ці. Я наогул да ваеннай тэматыкі стаўлюся вельмі асцярожна.

**— Але вашы героі ідуць на вайну, вяртаюцца з вайны.**

— Гэта ўсё так. Мне саму вайну нялёгка паказаць.

**— Чаму?**

— Магчыма, таму, што я не хачу, каб такія падзеі наогул адбываліся.

**— Гэта значыць, вам трывожна за будучыню свету, чалавецтва?**

— Мне вельмі боязна за будучыню чалавецтва. Асабліва цяпер, калі гонка ўзбраенняў знайшла сабе новае апраўданне. Цяпер усе краіны кінуліся выпускаць зброю і гандляваць ёю. Аб руху супраць гонкі ўзбраенняў ніхто цяпер і не ўзгадвае. І тыя краіны, якія раней гаварылі аб тым, каб спыніць вытворчасць зброі, цяпер спаборнічаюць у тым, хто яе больш выпусціць. Я нядаўна прачытаў на першай паласе "Известий", што створаны аўтамат, які ў шмат разоў пераўзыходзіць аўтамат Калашнікава. Я не буду гаварыць аб тым, якую пагрозу нясе гэтае вынаходніцтва, не лічачы таго, што яно забірае сродкі, якія можна было б выкарыстаць на іншае. Калі я змагу нешта сказаць пра вайну, дык толькі з гэтага пункту гледзішча. Чалавецтва аказалася заложнікам у самога сябе. Я разумею гэтую псіхалогію — мы вымушаны гэта рабіць, Кітай выпускае зброю, і мы павінны. Атрымліваецца, што гэта непазбежна, і ў гэтым трагедыя. Ніякія ж усявышнія сілы нас не прымушаюць гэта рабіць.

Вось таму тэма вайны мяне не прываблівае. Захапляцца подзвігамі, доблесцю і іншым?

**— У сваіх творах вы часта выкарыстоўваеце філасофію прытчы, легенды. Што гэта вам дае?**

— Для нас легенды моцныя тым, што іх заўсёды можна ўбачыць у новым ракурсе. У перабудовачны час у мяне паявілася аповесць "Белае воблака Чынгісхана", яна ўся цалкам заснавана на легендзе. Але я яе інтэрпрэтаваў такім чынам, каб сучасны чытач у ёй убачыў сваё, яму блізкае.

Калі ў мяне бываюць сустрэчы з чытачамі, мне заўсёды задаюць пытанне: чаму вы гэтак заражаны міфалагічнасцю? Я адказваю, што для мяне міфалагічнасць не самамэта, што яна нам дасталася як культурная спадчына ад папярэдніх пакаленняў і я стараюся, каб яна не знікла. Я стараюся міфы сінтэзаваць, адаптаваць да сучаснага жыцця.

**— Для вас вялікае значэнне маюць сустрэчы з чытачамі, іх думка?**

— Сустрэчы з чытачамі для мяне вельмі важныя. Калі сотні людзей збіраюцца цябе паслухаць, калі пісьменнік раскрывае сваю душу і чуе зваротнае рэха, гэта надзвычай заражае. У гэтым плане я ўдзячны еўрапейскаму чытачу, асабліва нямецкаму. Яны мяне ўратавалі, бо ў самы цяжкі перыяд крушэння я адчуваў увагу чытачоў.

**— Калі вы пачалі сустракацца з еўрапейскімі чытачамі, у апошнія гады?**

— Не, раней, але з 1991 года такія стрэчы сталі пастаяннымі. На гэтыя сустрэчы збіраецца велізарная колькасць людзей, часам да тысячы. У сваёй айчыне я столькі за раз не збяру.

**— І чым вы тлумачыце поспех гэтых сустрэч? Цягай да літаратуры? Да рускай літаратуры?**

— Я лічу, што стабільнасць дае чалавеку магчымасць аддаваць больш увагі чытанню, культуры. У Расіі цяпер іншыя турботы.

**— Дык, выходзіць, вы цяпер перажываеце тое, што было ў Расіі ў 1960-гадах, у перыяд пакланення літаратуры, паэзіі. Вы быццам перажываеце другую маладосць?**

— Другое дыханне, і галоўным чынам дзякуючы нямецкім чытачам. Цяпер у лістападзе ў мяне будзе серыя сустрэч у Германіі, ва універсітэтах, клубах, цэрквах. Нямецкія чытачы сваёй непасрэднасцю, зацікаўленасцю падобныя на нашых рускіх таго перыяду.

**— Скажыце, што змянілася ў Кіргізіі пасля таго, як яна стала незалежнай?**

— Гэта асобнае пытанне. Мы набылі сваю нацыянальную дзяржаўнасць. Вядома, для нас гэта вялікая дзея, хоць з гэтым звязана нямала праблем, складанасцей.

**— У вашай дзейнасці пасла вы імкняцеся спрыяць прызнанню Кіргізіі ў свеце?**

— Вядома. Мы павінны наладжваць узаемасувязі з іншымі дзяржавамі. А Брусель — гэта цэнтр, тут уся Еўропа сканцэнтравана.

**— Як вы спалучаеце пасольскую працу з творчасцю?**

— Я спрабую гэта рабіць, але з часам вельмі цяжка. У мяне ёсць рэчы прадуманыя, гатовыя ў душы, думках. Яны павінны занатавацца адразу ж. А пакуль я разварушваюся, яны знікаюць. Я вельмі засмучаюся, абяцаю сабе, што з заўтрашняга дня гэтак не будзе.

**— А няма той пагрозы, што вы наогул нічога больш не зможаце напісаць?**

— Такой пагрозы няма. Я стараюся знаходзіць час для творчай работы. Хоць я меркаваў, што спалучаць літаратурную работу з дыпламатычнай будзе лягчэй, чым аказалася ў сапраўднасці.

**Гутарку вяла Ларыса ДОКТАРАВА**
*Брусель*

*("Литературная газета", 8.X.97, N 41/5673)*

## Урок літаратуры ў Акадэміі кіравання

**Намеснік галоўнага рэдактара "Полымя" Алесь Пісьмянкоў і рэдактар аддзела часопіса Анатоль Клышка днямі былі гасцямі старшынь гарадскіх Саветаў дэпутатаў, якія прыехалі на вучобу ў Акадэмію кіравання. Адбылася зацікаўленая гаворка не толькі аб сучаснай беларускай літаратуры, а і аб нацыянальнай культуры ў цэлым, развіццё якой, безумоўна, залежыць і ад увагі да яе з боку мясцовых уладаў. Асабліва цяпер, калі ўзнікаюць рознага кшталту цяжкасці — не ў апошнюю чаргу, фінансавага характару.**

## І якасна, і надзейна



**Мечыслаў Станіслававіч Галец па прафесіі трактарыст-машыніст. Прапрацаваў ім 24 гады ў Шчучынскім раёне. Але так склаліся абставіны, што пяць гадоў назад пераехаў у Масты, уладкаваўся рабочым на дрэваапрацоўчы камбінат.**

**Ёсць у яго адно захапленне з маленства — рабіць бочкі і кадушкі, прытым на зайздрасць якасна і надзейна. Робіць М. Галец бандарку не толькі для сваіх патрэб, але і родным, знаёмым, прадае на рынку. Трывалыя бочкі і кадушкі служаць для засолкі агуркоў, капусты, замочкі яблык і захоўвання іншых прадуктаў.**

**Мечыслава Станіслававіча многія называюць майстрам "залатыя рукі". Навучыўся ж ёй майстэрству ад старэйшых братоў, а яны — ад бацькі, якога не стала, калі Мечыславу было ўсяго пяць гадкоў.**

**Ільля БАРЫСАЎ**

## Запрашае Дом літаратара

**Лістападаўская афіша "ДЛ" па колькасці мерапрыемстваў быццам і не такая багатая, ды кожнае з іх вартае ўвагі. Напрыклад, прэзентацыя кнігі В. Ластоўскага "Выбраныя творы", што выйшла ў серыі "Беларускі кнігазбор". Гэта першае выданне спадчыны выдатнага адраджэнца, палітычнага і грамадскага дзеяча. Хочацца спадзявацца, што ў вялікай зале 4 лістапада будзе людна.**

**Няма асаблівай патрэбы рэкламаваць тэатр "Зніч". Кожная ягоная работа — адкрыццё чагосьці новага, адметнага. 14 лістапада "Зніч" пакажа ў "ДЛ" абанементны спектакль "Цудоўная краіна" (аўтар — паэт В. Жуковіч) з удзелам вядомага акцёра В. Манаева.**

**20 лістапада — нагода добрым словам успомніць народнага паэта Беларусі М. Танка і перагарнуць старонкі яго творчасці. Вечарына прымеркавана да 85-годдзя з дня нараджэння паэта і называецца "З якіх крыніцаў чысціня такая..."**

**Дом літаратара 25 лістапада адзначае і 115-я ўгодкі народнага песняра Я. Коласа. "І песня водгулле спаткае..." — на вечарыне з такою назваю можна будзе акунуцца ў неабсяжны свет таго, чыёй творчасці наканавана вечнасць, даведацца шмат цікавага пра Я. Коласа-чалавека, грамадзяніна, шчырага рупліўца і абаронцу роднай мовы.**

**УСЕ ГЭТЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАЧЫНАЮЦЦА Ў 18 ГАДЗІН.**

**Адбудуцца чарговыя пасяджэнні творчых секцый: паэзіі — 20-га, літаратуры для дзяцей і юнацтва — 25-га, перакладу — 27 лістапада. Пачатак — у 15 гадзін, пройдуць яны ў канферэнц-зале.**

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

любові натоўпу, спявак скокнуў з высокай сцэны проста ў публіку, ніколькі не сумняваючыся, што тая пpыме яго ў свае абдоймы... Аднак здарылася неспадзяванае — прыхільнікі папулярнай рок-зоркі расступіліся, і абагаўлёны маэстра бухнуўся з вышыні на шэры бетонны пляц...

Разбіўся так, што не скончыў выступленне...

Вось як бывае шуткуюць з любімцамі іх прыхільнікі.

●

Пацюпа любіць слова... Учэпіцца — не аддасць. Ну, і насіся з ім, гадуй сабе...

Бедная нацыя. І *словы* — сіроты, і *сіроты* — бясслоўныя...

●

Ямічэ, здаецца, не так даўно чакаў у вёсцы лістоў-рэцэнзій альбо адпісак са сталічных рэдакцый. Вучыўся жыць і пісаць...

А во ўжо — сяджу і праўлю тэксты іншых людзей у салідная рэдакцыі.

Божа, сам сябе лаўлю на думцы, ды цябе самога яшчэ правіць ды правіць — і ў тэкстах, і ў жыцці... Але ўжо, апроч лёсу, няма каму гэтым займацца...

Шкада, што будзеш на той свет *выпраўлены* такім недасканалым і дарэшты *нявыпраўленым*...

●

*Увесь* чалавечы *сэнс* хаваецца ў поцемках падсвядомасці. І *няма* аніякага *сэнсу* шукаць яго пры святле абачлівага розуму...

●

Нават калі сённяшнія дзяржаўныя ідэолагі *пакладуць усю сваю душу* на чорную справу спусташэння нацыянальнага беларускага духу — у іх нічога не атрымаецца.

Хутчэй, як заўжды было ў гісторыі, яны ўсё-ткі задарма *пакладуць сваю душу*...

●

У кожнага народа ёсць носьбіты нацыянальнай ідэі і носьбіты дзяржаўных сімвалаў — сцягоў, гербаў, партрэтаў...

Першыя *носяць сваё* — непахіснаспрадвечнае — у душы і ў сэрцы. Другія *трымаюць казённае* — трапятліва-хісткае — у самлелых руках...

●

Спартыўны каментатар Гомельскі падчас баскетбольнага матча на першынстве Еўропы: "Если игрок *в движении* — он всегда *на месте*."

!!! Без каментарыя.

●

Чытаў успаміны пра Юрыя Дамброўскага...

Згадалася не раз чутае калісьці і за ўласнай спіною: "Таленавіты, алкаш, сука..."

Праўда, Дамброўскі быў нашмат буйнейшы ва ўсіх адносінах...

●

Бог не даў мне вонкавай мужчынскай прыгажосці. Затое надзяліў разуменнем яе. Таму ўся прыгажосць ува мне ўнутры... Не мая асабістая — *чалавечая*...

Але гэта ўжо — глыбока інтымнае...

●

Рэдагаваць самабытную зямную прозу Купрэева, як акультурваць прыроду: гэтае дрэўца — сюды, гэты бераг рэчкі — туды, гэты пагорак — у нізінку, гэтыя блёвіны — выцерці...

Прыгожы краявід атрымліваецца, але — штучны і нежылы. Сюды самога Купрэева і на вяроўцы не зацягнеш...

А рэдагаваць трэба. Літаратура, як і прырода, павінна задавольваць не толькі творцу, але і самую сябе...

●

У маладосці жыў *дробязямі*, а час цягнуўся *марудна*...

Цяпер жыву *падрабязна*, а час пралятае *імгненна*...

●

Плявацъ мне, у рэшце рэшт, на гэтую літаратуру!

Калі б не ўнутраны пажад — зразумець самога сябе, я не сіхіліўся б у рабскім паклоне ні перад адным яе словам...

●

Ніякі гадзіннік не пакажа колькі *ёсць* часу на белым свеце...

●

У старых вясковых баб (а іншых па сутнасці і няма) — перадсмяротная нэнда...

Большасць мужыкоў даўно параць на могілках косткі, а тут — хоць парвіся... А летам яшчэ дзеці ды ўнукі наедуць... Гарадскія, дапамогі, як з казла малака, а ўсім — дагадзі...

Хоць бы пахавалі па-людску...

Збяруцца надвячоркам па-суседску ды й нэндзяць... Ужо й не да тэлевізараў ім, не да Лукашэнкі... Сваёй зямной мудрасцю дапялі й яны да сутнага: *жыццё*, хоць і тваё, але аднаму табе як бы й не прыналежыць — разыходзіцца па людзях, а *смерць* — пэўная, твая, ні з кім ёю не падзелішся, ні на чые плечы не ўзваліш — ну, хіба ўжо калі з хаты выносіцьмуць...

Як тая Каця кажа: "А што мне той *ваш* (ужо — нашу, а быў жа — іх і яе) Лукашэнка?! У мяне — свой сын у Мінску, пра яго дбаць трэба... А ў *яго* свая матка жывая, яна хай і перажывае... У мяне — сваё гора, у яе — сваё".

Хто і калі паставіць *помнік* вялікай, гарапашнай, гарбатай *беларускай бабе* — прамаці нашай балотнай гісторыі?..

●

Ніколі ні ў кога нічога не клянчыў і не выпрошваў... Быў упэўнены, што неададуць?

Не, ведаў, што прапануюць *чужое*...

●

У лесе каля мамінай вёскі адкрылі пясчаны кар'ер. Машына за машынай — запылілі ўсю вёску... Няма чым дыхаць старым людзям...

Бабы скрушна шуткуюць: "Цяпер хоць дусту купляць не трэба..."

●

Зося — з лесу, як ад калодзежа, — з двума поўнымі вёдрамі грыбоў...

Людзі — ад расы да аваднёў — лес той на здор стопчуць, а дахаты — хоць вачэй не паказвай...

Ужо і высочвалі тую Зосю — марная справа: толькі зойдзе ў прылесак — згіне, як прывід...

І дзяцей у Зосі, як грыбоў... "Старшы перне — вугал зверне, а малодшы ў порткі верне".

Мы ў лес — за насалодай, яна — за патрэбай, мы — шукаем, яна — знаходзіць... Мы цешымся *грыбамі*, а яна — *дзецьмі*, якіх тымі грыбамі корміць...

Ідзеш паўз Зосіну хату, як паўз грыбны бор... Пахне...

●

Блукаючы па ваколіцы, неўпрыкмет зайшоў на свінаферму, дзе калісьці доўгі час працаваў электрыкам. Многае адразу ж прыпомнілася — і добрае і не вельмі... І чаго тут толькі не здаралася?!

...Свінча нагу ў механічны транспарцёр усуне — выкруціць, тут яму і шыла ў бок... Ураз асвяжуем — ды ў хвойнічак, што побач... Павяндлічка, пячоначка, трохлітровік...

Кампанія была ганаровая. Далёка вядомая. Квартэт — віртуозы Вароніна...

Цяпер тут ціха. Даўно ўжо... Адзін на вяроўчыне з-за жонкі ачапіўся (яна яго і мезенца не каштавала), другі пад хмелем на матацыкле разбіўся (прычым упершыню едучы не за рулём, а ззаду), трэці, халасцяк-аднагодак мой, адсвяткаваўшы жаночае свята 8 Сакавіка, на раніцу ўжо не прачнуўся... Я вось у пісарчукі (як яны шуткавалі) падаўся...

Няма тут цяпер каму жаль жыцця любіць, рэдкую радасць па чарках разліваць, песняй лёсу навакольны лес агалошваць...

Адтуль, непадалёку — на могілкі пацягнула: спярша — бацьку, а пасля ім тром — Антону, Івану ды Пецю пакланіўся...

Сеў на прыгорку, запаліў... Ні слязы, ні жалю, ні камяка ў горле... адна *светлая памяць*...

●

Як мне абрыдзелі гэтыя літаратары-пісьменнікі-паэты і ўсе іншыя інтэлігентныя хлюпікі! Сваім нездаровым апломбам і меланхоліяй! Мабыць, і сам такі побач з імі (з боку лепш відаць)...

Толькі ў вёсцы сярод простых людзей і адчуваеш сябе паўнакроўным — *зямным* і *грэшным* — чалавекам...

●

Бабы ў сяле ўсё жывуць, а мужыкі мруць, як мухі...

Цётка Маня на гэта зазначае: "Жылі б жа й яны, каб не *паскурваліся*..." Глыбокі ўздых — і вінаватая паўза... І ў ёй — увесь нявыказаны падтэкст — ад *курыва* да *курвы*...

●

"О, якая сёні ўласць! Дзісціпліну дзяржаць, пымаш, пэнсю плоцюць... Цяжко, калі начысто казаць, але як падумаеш, што пры пазняках яшчэ паганей было б, то яно нічого — лямку цягнуць можно... Шкада, во, стары ўжо — жыццё на нет збегла, на павуціне ліпіць..." — распавядае мне каля вясковай крамы ўтравелы дзядзька гадоў сямідзесяціпяці...

— Купілі што?

— Хлеба, во... Што я куплю? Мякіш выядаю, бо зубоў адно на патраўку і засталося...

— А дзеці дзе?

— У *"саюзе"* ўсе, дзякуй празідэнту... А то за кардонам былі б... Сын — у Салехардзе, дачка — у Хабараўску...

— На лета прыязджаюць?

— А чаго ім цяперака ў такую даль ехаць-траціцца... Вайны нямашака пакуль і я жывы яшчэ...

Разыходзімся... Магчыма, што на наступнае лета й не ўбачымся. І што зменіцца? Анічога. Быў чалавек і згіне... Добра, што дзеці застануцца... У *"саюзе"*... Шкада, што не з бацькам...

●

Нядаўна памерла ў нашай вёсцы кабета. Гаўрушыха (мужыка Гаўрушам звалі).

Вот ужо на язык порсткая была, хоць гіру вешай. Усё пра ўсё ведала, усё пра ўсіх баяла. Пойдзе па ваду, а прынясе плётак. Сустрэнешся з ёй на ранку — у абед разыдзешся. Гудзе над вухам, што камар балотны, не адгонішся...

"Што я табе, Лёнік, скажу, ты толькі выслухай — ездзіла я ў Клецак да свайго Вані: у аўтобус не ўбіцца, ля шафёра стаю ды кажу яму, як во табе, — у аўтобус жа не ўбіцца, старая баба, а стаю, за што грошы браць; а шафёр малады, пад вусамі, не выспаны з нядзелі, мо на танцах усю ноч швэндаў — крый Божа, выверне ў каляіне ці ў якую аварыю ўстрэме, каб на сон не хіліла, я яму пра Васіля майго, малодшага, што трактарыстам у нас, расказваю: кажу, мой па танцах не швэндае, гарэлкі не цукліць, а не жэніцца, ліха яго бядзе, а сама грошы на білет у рукэ заціснула ды й камечу, й забыла пра іх, як на духу табе кажу, злезла ў Клецку, адышлася, чую нешта ў рукэ ў мяне шамаціць — грошы тыя на білет, вот чыста табе кажу, думаю, буду вечарам назад ехаць — аддам, ды галава, во, усім на свеце забітая, упомніш хіба, то, слухай, Лёнічак мой, прыйшла ж я да Вані — а ў яго на дзвярах замок, ой, я — туды, я — сюды, слухай..."

Памерла Гаўрушыха, пухам ёй зямля, але Гаўрылаў яшчэ хапае, толькі вушы падстаўляй... Баюць і баюць, а людзі ж, скажы ты, слухаюць...

●

Збор грыбоў — гэта своеасаблівая зрокавая чытка партытуры лясной сімфоніі, якую піша сама прырода...

Вочы твае *слухаюць* колер і фарбы перапрэлай лістоты, іржавай ігліцы, рудой травы, зеленівага імху, шэра-чорнага ламачча — ад высокай ноты ўзрушэння да самай нізкай ноты расчаравання, ад мінору да мажору, ад грыба да грыба...

●

Мужык за сваім плотам дровы коле. А ў яго на дрыботні тых дроў — кастры незлічоныя...

Кажу яму: "У вас столькі дроў назапашана, а вы ўсё яшчэ колеце."

А ён, не мігнуўшы вокам, з усмешкай адказвае: "Ты паглядзі, сынок, ува ўсіх маіх суседзяў ужо *ўсё* ёсць, а ў мяне, лічы, *нічога*.. Няхай хоць дровы будуць..."

●

Прыгажосць жанчыны — не ў мілым тварыку, цупкіх грудках, круглых клубах ды стройных ножках...

Гэта ўсяго толькі пажадная (спакушальная) вабнасць самкі.

Прыгажосць жанчыны месціцца ў яе сэрцы і ў яе адносінах да мацярынства.

Каханая твая — табе прыгожая.

Жонка, маці тваіх дзяцей, — таксама прыгожая.

І твая маці — як боская, несумненна найпрыгажэйшая.

Мера жаночай прыгажосці — у тваёй уласнай прыналежнасці да гэтай жанчыны...

●

Вечарам мама доіць карову. Слухаем з дачкою звон даёнкі. Кожны струмень мае сваё гукавое адценне, рытміку, меладычную незавершанасць...

*Белая музыка* малака... Як у паэзіі — *белыя вершы*...

●

Я так многа і спантанна думаю, што ўжо не заўсёды магу лагічна занатаваць тое, што думаю...

•

Людзі са слабым зрокам і слыхам больш уважлівыя і паважлівыя. На пачатку гэтага ад іх патрабуюць іх фізічныя недахопы: яны больш пільна ўглядваюцца і больш чуйна прыслухоўваюцца да акружаючых...

Паступова тое робіцца звычкай.

У большасці ж людзей зрок і слых добрыя, затое недахопы ўвагі і чуйнасці відавочныя...

•

У нядзелю, спякотай, пайшоў на могілкі. Да бацькі ў адведкі. Але, незаўважна для сябе, самотна-агаломшаны хадзіў там ад магілы да магілы гадзіны дзве...

Колькі блізкіх, родных, знаёмых і сяброў маіх ужо тут!

Стаю ля агароджаў, ды ўспамінаю-думаю... Чаму — яны, а не я? Чаму так рана? Разбіўся, залыгаўся, гарэлка звяла... Мала хто па хваробе...

Чые магілы дагледжаныя, чые — забытыя-зарослыя...

Векавыя дубы над усімі шумяць... Такімі магутнымі, неабдымнымі, дуплістымі я іх памятаю яшчэ з маленства. А ўсё шумяць... І выпала ж ім стаяць-жалобіцца над нябожчыкамі, іх сокі п'ючы... Дзе-небудзь у лесе ці пры дарозе — спілавалі б даўно...

Што чалавечае жыццё? Каму? Навошта?

Можа, менавіта для жалобы ды жалю?

Я таксама пamру. І хачу, каб над галавою самотнай дачкі шумелі, напітыя маёй зялёнай крывёю, гэтыя ж векавыя дубы-волаты...

Сеў пад іх шатамі — запаліў... Прыхінуўся спіной да ўкарэлага ствала — і чую, як гудзе ў шырокім цёмным дупле бессмяротны чалавечы дух...

•

Усё, што я пішу, настолькі суб'ектыўнае, што прымерваць *тое* да сябе можа толькі негідлівы і хамаваты эгаіст...

•

На вясковай канюшні, дзякаваць Богу і добрым людзям, яшчэ вядуцца коні. Не так многа, як у часы майго маленства, але з дзесятак ёсць. І на вяроўках у стойлах не вісяць, а на выгане на добрай пашы выбрыкваюць ды ад аваднёў адганяюцца...

А не так даўно ажарабілася чорная кабыла. Вяду туды дзевяцігадовую дачку, часова вызваліўшы яе ад вывучэння табліцы множання, каб паказаць жарабя. А яно на тонкіх хісткіх ножках усё цягнецца пысай да цёплага кабылячага вымя...

"І колькі ж яму ўжо, гэтаму малышку харошанькаму?.." — пытае дачка. "*Месяц...*" — добразычліва адказвае конюх.

— То праз *восем месяцаў* яго ўжо й запрагаць можна будзе?..

Дзіўная арыфметыка ў гэтых *дзяўчатак-акселератак*...

•

Чым даўжэй жывеш, тым больш аддаляешся ад усяго таго, з чым быў блізка звязаны на працягу свайго жыцця...

З гадамі ўсё меншае на тваіх вачах... І гэты лес раней, здаецца, быў гусцейшым і больш грыбным, і рэчка Лань была шырэйшай і больш паўнаводнай, і яблыкі — смачнейшымі, і людзі — здаравейшымі і маладзейшымі...

І ўвогуле, здаецца, што ўсяго было больш і ўсё было большым...

Мы адыходзім, і ўсё, што аддаляецца — большае ў памяці...

•

Багданкевіч быў "дрэнным" банкірам, але ў турму *нізашто* не сеў.

А Віннікава была добрай — і села...

•

Цётка-пенсіянерка расказвае мне пра сваю маскоўскую трыццаціпяцігадовую пляменніцу-халасцячку.

— Лёнічак, яна ж такая культурная, але ж занадта пераборлівая. На добры лад, ужо б гадоў дзесяць як замужам была б... Такі файны хлопец хадзіў... Дружылі... І ён — ёй і яна — яму даспадобы былі... Аж прыйшоў ён неяк, а яна — глядзь! — у яго шнурок на адным туфлі *развязаны*... І — усё! Дала ў хамут... Расхадзэўс — і ніякіх табе апраўданняў і перапрашэнняў...

А сёння, во, ужо якую пару галавой пакутуе... Круціць-ціcне ў скронях і ўсё, да нельга... А маладая ж яшчэ... І што ў той галаве *завязалася*?..

Дадам хіба тое, што і сама цётка, маючы шэсцьдзесят гадоў, таксама дзеўка-векавуха... Людзі кажуць, што ўсё перабірала кавалераў у маладосці: то боты парваныя, то кашуля з латкаю — так і пражыла не з мужам, а са старою маткаю...

•

Вярнуўся ў Менск з летняга адпачынку. Ад мамы з вёскі прыехаў. Цела, асабліва рукі ад вясковай работы прыемна адгукаюцца сэрцу — чуйна...

Ну, што...

Ну, у гарачай ванне паляжаў выцягнуўшыся, ну, кіпу свежых свабодных газет прагледзеў упоперак, ну, НТБ паглядзеў, ну...

Выйшаў на сонечны балкон, сеў і самотна, да ўзвыву душы, як загнаны воўк, гляджу настальгічна на блізкі грэбень зялёнага лесу, *туды* — за Уручча...

•

Падчас майго летняга адпачынку ў вёсцы, у кватэру, бліжэй да вечара, патэлефанавалі. Жонка ўзяла трубку.

— Скажыце, калі ласка, ці няма часам побач з вамі Уладзі Арлова?

— ?!.

•

Могілкі таксама маюць сваю *гісторыю жыцця*: нараджэнне (першае пахаванне), росквіт і смерць (апошняе пахаванне, запусценне, забыццё...)

•

Заўтра — сорак сем гадоў *як буду жыць*...

•

У жонкі пачынаецца нервовы цік, як толькі я апраўдваю што-небудзь у палітыцы Лукашэнкі...

Да чаго ён давёў людзей! Нармальна не паспіш з жонкай, прагледзеўшы чарговы выпуск "Панарамы"...

Мабыць, толькі застарэлыя бальшавікі ды такія людзі, як я, што ўспрымаюць жыццё са здаровай іроніяй, могуць адчуваць сябе пры такой уладзе больш-менш нармальна: *жыць па-за* Лукашэнкам... Хто — у мінулым... Хто — у будучым...

•

Сяджу над разгорнутым нататнікам, сілюся нешта напісаць... Душная ноч... Думкі стомленыя, словы цяжкія...

Але ж вось гэтыя словы запісваю...

Для чаго, навошта, каму?

Зрэшты, ці не такім чынам і пісалася і пішацца пераважная большасць літаратурных тэкстаў?..

•

Прачытаў інтэрв'ю Шамякіна ў "ЛіМе". Непахісны дзед!

Як кажуць, на разведку пайшоў бы менавіта з ім, а не з Барадуліным. Рыгора Іванавіча ўсялякія ворагі тыпу Сораса *падкупіць могуць*...

А Іван Пятровіч, калі й *прадасца*, то *сваім*...

•

Нават клецкая раённая газета "Да новых перамог" друкуе пра свайго земляка, ураджэнца калгаса "Шлях да камунізму", панегірыкі ажно на ўсю трэцюю старонку, а Марчук яго выдаваць не хоча...

Не хорошо это, *товарищи*, не по государственному...

•

Кахаць жанчыну — як мроіць пра вечнае...

•

Калі табе забалела — значыць, некаму перастала...

•

...і ўсё ж — атупенне: ад сонца, ад дажджу, ад чужой палітыкі, ад сваёй нямогласці, ад бяздарнасці, ад... Пекла...

Яшчэ не позна ўладкавацца якім-небудзь падвозчыкам смалы... Але — не.. Лепш ужо *цяпер* згарэць тут, чым *пасля* смажыцца там...

•

Дні робяцца ўсё больш падобнымі адзін да аднаго...

Іх ужо немагчыма адрозніваць і лічыць...

Уся арыфметыка зводзіцца да ўчора і заўтра — да тых дзён, дзе мяне *ўжо* няма ці *яшчэ* не было...

•

У мяне часта ўзнікаюць думкі, за якія няёмка перад самім сабою. Зрабі іх публічнымі і цябе асудзяць за амаральнасць...

Але, цікава, што падобныя патаемныя думкі круцяцца ў галаве, бадай, кожнага чалавека. Хто ведае, стаў бы людскі свет горшым ці лепшым, калі б усё наша патаемнае раптам адкрылася, нераўнуючы як скрынка Пандоры...

І ці не *адтуль* — вялікія чалавечыя адкрыцці, вынаходніцтвы, шэдэўры мастацтва і літаратуры?!

Нездарма вырваўся з вуснаў эпілептыка Дастаеўскага гэты спалох перад людской *"непостижимостью"*: "Широк человек! Я бы сузил".

*Вароніна—Менск—Вароніна*
*1997 г.*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Бляск і багацце жабракоў

Гэты спектакль, падпарадкуючыся класікам тэатразнаўства, можна толькі апяваць: "Шчаслівых жабракоў" паводле Карла Гоццы у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. 17, 18 кастрычніка віншаванні з прэм'ерай і поспехам прымаў рэжысёр тюгаўскае трупы — цяпер рэжысёр МХАТ Мікалай Шыйко. Напэўна, тюгаўцы свята верылі ў тое, што з ім іх чакае ўдача. І ўдача іх прычакала.

"Музычная трагікамедыя, разыграная сучаснымі акцёрамі на даўнейшы лад у манеры перабольшанай пародыі", — дакладней за пастаноўшчыка жанр і не вызначыш. Супрацоўніцтва з рэжысёрам Шыйко і драматургам Гоццы прадстаўляе (каторы раз!) паэта Рыгора Барадуліна як спанатранага тэатральнага дзеяча. Як прафесара тэатральных навук. Як вольнага ў думках і вобразах сатворцу-перакладчыка. Побач з ім пра вобразныя якасці дбаў і Артур Вольскі, "безумоўны аўтарытэт", як пазначана нават у праграмцы. Мяркую, што імёны кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча, мастачкі Ларысы Рулёвай, рэжысёра па пластыцы Вячаслава Іназемцава, балетмайстра Наталлі Фурман, капельмайстра і хормайстра Рыгора Уласюка залатымі літарамі напішуцца не толькі на афішах, але і на мемарыяльнай дошцы спектакля "Шчаслівыя жабракі". Каб жа толькі ёй з'явіцца на святое ніколі, — няхай жыве спектакль!

Няхай жыве і будзе здаровы Алег Сідорчык, які асіставаў пастаноўшчыку, які сыграў ролю Узбека, цара Самарканда, прымаючы самыя неверагодныя выгляды ды пастаўы, выконваючы самыя рызыкоўныя, але па-мастацку выбітныя сцэны. Няхай ва ўсіх іншых ролях шчасціць Наталлі Гарбаценцы, Кацярыне Макеевай, Таццяне Ждане вай, Святлане Навуменцы ды Вікторыі Баранскай. Няхай увесь мужчынскі склад трупы запомніць, з якою годнасцю, з якім азартам, з якою ўлюбёнасцю яны пачуваліся на сцэне, — Андрэй Кізіно, Леанід Улашчанка, Міхась Пятроў, Аляксандр Палазкоў, Анатоль Жук. Перапрашаю ва ўсіх, каго не ведаю па імёнах, бо кожны заслугоўвае ўвагі. Такога ўзнёслага тэатра прадстаўлення, такіх насоў, такіх лахманоў, такіх гаманцоў, такіх пантофляў з крутымі мысамі, такіх празрыстых апратак і не менш празрыстых, вытанчаных і эратычных сцэн... такога акцёрскага паразумення ды ўзаемадзеяння даўно не бачылі дарослыя наведнікі ТЮГа. Цяпер — гледачы, не наведнікі. Гледачы, хоць і з самотным досведам колішняй тюгаўскай шараговасці. Цяпер — з радаснай упэўненасцю ў тым, што разумнаму рэжысёру заўсёды патрапляецца разумны артыст, а разумнаму артысту — разумны глядач. Зрэшты, гэта ўжо плагіят, калі я не згадаю пра Меерхольда, якому належыць гэтая выснова. І пра пачуццё меры, якое надзіва ўраўнаважвае і жарты ў стылі камедыі дэль артэ, і вольнасці ў тэкстах і мізансцэнах, і спасылкі на дзень сённяшні. Мушу скончыць, каб знакамітага пачуцця не забракавала маёй нататцы. Але — хіба да наступнага разу. Да іншае рэцэнзійнае — нагоды.

**Ж. Л.**



*На здымках: момант рэпетыцыі з Мікалаем Шыйко.*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

АБ'ЯВЫ



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Казіміру КАМЕЙШУ з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерцю бацькі Вікенція Антонавіча.**

**Супрацоўнікі часопіса "Маладосць" выказваюць паэту, намесніку галоўнага рэдактара КАМЕЙШУ Казіміру Вікенцьевічу глыбокае спачуванне ў сувязі з яго вялікім горам — смерцю бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Міколу ЧАРНЯЎСКАМУ з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці брата Уладзіміра Мікалаевіча**

ЗГАДКІ

# Твая мова — твая душа

НА ВОСЬМЫМ дзесятку свайго веку я не раз задумваўся над тым, што робіцца ў нас з роднай мовай. Проста дзіву даешся, калі слухаеш выступленні нашых кіраўнікоў ва ўсіх структурах улады, якія амаль усе без выключэння імкнуцца гаварыць на рускай мове, але ў кожнага з іх у вымаўленні процьма памылак. Хіба можна так адракацца ад роднага, свайго, што дадзена з матчыным малаком?

Прыгадваюцца гады маленства, юнацтва, калі вучыўся ў пачатковай, затым у сярэдняй школах, у тэхнікуме, інстытуце. З першага класа, з буквара мы старанна вывучалі родную мову, чыталі на ёй мастацкія творы, завучвалі вершы на памяць і чыталі іх уголас на ўроку перад усім класам. Гэта нельга забыць.

Першай маёй настаўніцай у Альшоўскай пачатковай школе Хоцімскага раёна была Кацярына Фамінічна Ратабыльская — маці вядомага цяпер усім народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Мы ганарыліся, што яе сын-паэт — наш зямляк. Самым памятным днём для нас быў той, калі ён прыехаў у нашу вёску да маці на пабыўку, на летнія канікулы з Мсціслава, дзе вучыўся ў педагагічным тэхнікуме. У яго тады ўжо была першая кніга "Росквіт зямлі", з якой ён чытаў нам свае вершы. Некаторыя з вучняў, у тым ліку і я, пад уражаннем першай сустрэчы з паэтам самі пачалі складаць вершы на роднай мове, чыталі іх сваёй настаўніцы, і яна была радая нашым памкненням, падтрымлівала нашу любоў да матычнага слова, да роднай культуры і мовы. Пазней, у сярэдняй школе маімі настаўнікамі былі Андрэй Рыгоравіч Дольнікаў, Леанід Антонавіч Царанкоў, Фёдар Львовіч Яўменаў, іншыя выкладчыкі розных прадметаў. Усіх іх з удзячнасцю помню і сёння.

На працягу ўсёй вучобы ў школьныя і студэнцкія гады мы вывучалі родную мову побач з рускай і замежнай. Але на роднай мове былі нашы падручнікі па ўсіх прадметах — не толькі па літаратуры, але і па фізіцы, хіміі, матэматыцы, гісторыі, прыродазнаўстве. Сам Бог наказаў нам усім — і вучням і настаўнікам — рабіць гэта.

Зычліва адносіліся да вывучэння і ўзбагачэння мовы народа не толькі дзеці, але і бацькі, дзяды нашы, якія былі раней непісьменнымі, вымушаны былі наведваць заняткі ў гуртках па ліквідацыі непісьменнасці, вучыліся чытаць і пісаць па-беларуску. Помніцца, мой бацька Фёдар Савельевіч, навучыўшыся грамаце ў гуртку па ліквідацыі непісьменнасці, стаў брыгадзірам у калгасе, затым намеснікам старшыні, праводзіў пасяджэнні праўлення на роднай мове, нават пісаў сам розныя аб'явы, абвесткі.

Гаворачы пра сваю малую радзіму, хачу звярнуць увагу чытачоў на моўную асаблівасць нашага рэгіёна. Там, у прыбесядскім краі, у самым крайнім, усходнім кутку Беларусі, на мяжы з Бранскай і Смаленскай абласцямі, адчуваўся рускамоўны ўплыў. Аднак жа мова была беларуская, прытым з адметнай лексікай. Там гучалі (і гучаць) такія словы, якіх не сустрэнеш, бадай, нідзе больш на ўсёй тэрыторыі Беларусі. З вуснаў мясцовых жыхароў можна пачуць: "сянні", "тутацькі", "тамацькі", "рахі", "дос", "двору", "няго ж", чаго не пачуеш на Случчыне ці Уздзеншчыне. У нас маці не скажа сыну "ідзі дамоў", а пакліча: "Скарэй бяжы двору!". Маладая кабета ў размове з сяброўкай шчыра прызнаецца: "А мая ж ты таечка, што я ўчула".

Гэтыя адметнасці зафіксаваны ў "Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны" Івана Бялькевіча — былога дырэктара Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Слоўнік дае добрае ўяўленне пра своеасаблівасць тутэйшай народнай мовы, якая з даўніх часоў існуе на ўсходняй частцы Беларусі — на зямлі далёкіх нашых продкаў-радзімічаў.

Найбольш ярка, на мой погляд, адлюстроўваўся гэты мясцовы моўны каларыт у творах выдатнага беларускага празаіка, нашага земляка з Мсціслаўшчыны Максіма Гарэцкага. Зараз чытаеш, перачытваеш яго аповесці, раманы, апавяданні і пазнаеш у іх сваю малую радзіму, чуеш подых яе зямлі, прыроды, тыя самыя словы, якія чуў з маленства з вуснаў вясковых дзядзькоў і цётак, блізкіх родзічаў. Вось толькі некалькі прыкладаў з яго выдатнай аповесці "Дзве душы", упершыню апублікаванай у 1919 годзе ў Вільні: "усё цішэй скрыпае люлечка", "іногды чакаў бясплодна", "адылі сўпакоіў сябе", "за бярозавую хлабасціну з панскага лесу пагналі ў турму", "гаспадыня сянні высакасардэчна падставіла Абдзіраловічу руку", "першы раз сёлета паліў пад асеццю", "на яе багацце галяцца", "адзін дзень аджалейце ўжо", "ён ішоў злы з непрыхільнасцю і дайжа пагардай"...

Гэтыя прыклады сведчаць, якая багатая і сакавітая наша родная мова. І гэта можна сказаць пра кожны куток беларускай зямлі. У творах Кузьмы Чорнага, Янкі Скрыгана, Максіма Лужаніна, Васіля Віткі мы пазнаём Случчыну, Капыльшчыну, а ў вершах і паэмах Аркадзя Куляшова адчуваецца водар берагоў Бесядзі. Кожны пісьменнік прадстаўляе свой раён, сваю мясцовасць, узбагачае нашу літаратурную мову лексікай сваіх родных мясцін.

Я не спыняюся на гістарычных аспектах, якія вызначалі развіццё культуры і побыту кожнага асобнага рэгіёна нашай зямлі, не кажу пра тыя ці іншыя канкрэтныя абставіны. Але ўсюды аднолькава адчувалася беларускасць — у Панямонні, у Падняпроўі, у Падзвінні.

Зноў і зноў вяртаюся на сваю малую радзіму — у прыбесядскі край. На яго зямлі нарадзілася і ўзрасло шмат пісьменнікаў, дзеячаў культуры — Бялыніцкі-Біруля, Аркадзь Куляшоў, Змітрок Астапенка, Іван Чыгрынаў, Аляксей Пысін, Аляксей Русецкі, многія іншыя творцы старэйшага і маладзейшага пакаленняў. У нашым Забялышане, што за некалькі кіламетраў ад Хоцімска, у канцы мінулага і на пачатку нашага веку жыў і працаваў пісьменнік Брайцаў, які яшчэ пры царскім рэжыме пісаў і друкаваў свае творы на роднай мове. На вялікі жаль, яны да нас не дайшлі.

Роднае слова прыходзіць да нас з песень, якія спявалі матулі, бабулі, цёткі. Ніколі не забуду, як цётка Аксеня, жнучы жытнёвую палоску, спявала цудоўным, высокім голасам: "Павей, павей, вецярочак, па той бок лясочак..." Ад яе на ўсё жыццё запомніў я "Песню пра цыганёнка", пра "Дубову клёпку, саснова дзенца" і шмат іншых, якіх, на жаль, не ведае сённяшняя наша моладзь.

Нас захаплялі не толькі песні. Мы шмат чыталі мастацкай літаратуры — і рускай, і беларускай, і замежнай (у перакладах на родную мову). Найбольш блізкімі і зразумелымі былі нам творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса, Міхася Чарота, Андрэя Александровіча, Платона Галавача, Цішкі Гартнага, іншых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, творчасць якіх уключалася ў хрэстаматыі па літаратуры. Мы вывучалі сваю мову і літаратуру не толькі на ўроках, але і на пазакласных занятках. У нас былі гурткі мастацкай самадзейнасці, у тым ліку і літаратурны гурток, якімі кіравалі вопытныя настаўнікі. Гэта спрыяла нашаму творчаму развіццю. Я, напрыклад, яшчэ будучы ў сёмым класе, напісаў п'есу па аповесці Янкі Маўра "Аповесць будучых дзён", і яе паставілі на самадзейнай сцэне — спачатку ў нашай школе, затым у раённым клубе ў Хоцімску. Мае настаўнікі — выкладчыкі роднай мовы і літаратуры — параілі мне і надалей займацца літаратурнай творчасцю. Я захапляўся беларускай паэзіяй. Па памяці чытаў паэму Міхася Чарота "Босыя на вогнішчы" і "Дзесяты падмурак" Паўлюка Труса. "Босых на вогнішчы" апошні раз чытаў са сцэны ў 1937 годзе, калі вучыўся ўжо ў Магілёўскім газетным тэхнікуме. У нас яшчэ ніхто не ведаў, што аўтар паэмы быў арыштаваны і асуджаны на смерць беззаконным самаўладдзем. Мы, маладыя людзі, шмат чаго не ведалі. Для нас было галоўнае — веды, якія мы набывалі не толькі для сябе, але каб і несці іх, як гаварылі тады, у масы. У тэхнікуме (потым яго назавуць Магілёўскай газетнай партыйнай школай) мы ставілі на сцэне драму Аляксандра Карнейчука "Платон Крэчат", паэму Аляксандра Пушкіна "Цыганы" — я выконваў ролю вядучага, чытаў тэкст ад аўтара. А ставіў спектаклі студэнт-старшакурснік Томчын (імя запамятаў).

Гэтае наша захапленне літаратурай, роднай мовай можа пацвердзіць мой былы аднакурснік, пасля галоўны рэдактар "Звязды", прафесар Васіль Андрэевіч Пыжкоў.

Ці ведалі мы, у якім часе жывём, якія страшныя віхуры на нас насоўваюцца? Ведалі, вядома. Памятаю, як у 1936 годзе ўляцела за прыпеўку ў насценнай газеце пра Гікалу і Галадзеда, якія аказаліся... "ворагамі народа". Тым не менш мы працягвалі сваю вучобу, працу, авалоданне здабыткамі нацыянальнай культуры.

Пасля заканчэння Магілёўскай газетнай школы ў 1938 годзе я вярнуўся ў свае родныя мясціны, працаваў адказным сакратаром Хоцімскай раённай газеты "Калгасная звязда". Рэдактарам яе быў вельмі адукаваны і вопытны журналіст Дзям'ян Трахімавіч Лебедзеў. У рэдакцыі працавалі маладыя журналісты Васіль Курзаў, Мікола Хайноўскі, Сцяпан Рашатнёў, Максім Галабурда, разам з імі завіхаўся і я, пісаў і друкаваў свае нарысы, артыкулы, замалёўкі. Вершы мае ўжо друкаваліся ў "Чырвонай змене" і ў абласной газеце "Камунар Магілёўшчыны". Але гэта — між іншым. Галоўнае, што ўсіх нас трывожыла ў тым годзе — здзекі з роднай беларускай мовы, якія пачаліся зверху. (Пачалі пісаць "вучыцель" замест настаўнік, "комсомолец", "комуніст", "большэвік", "Москва"... Каму была патрэбна такая русіфікацыя ў беларускай мове — мы маглі толькі здагадвацца. Ніхто з нас не мог сказаць супраць гэтага ні слова, бо той, хто выказваў адкрыта свае думкі, адразу апынаўся ў іншых месцах...

Няма патрэбы спыняцца на тым, што робіцца ў нашай рэспубліцы з вывучэннем, удасканаленнем роднай мовы, ужываннем яе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Гэта ўсім вядома. Мне хочацца падкрэсліць толькі адно: мова народа ніколі не можа загінуць, ні пры якіх абставінах. Яна можа панесці страты ад непрадуманых, а то і злачынных дзеянняў асобных людзей, але ў цэлым народ не павінен пазбавіцца сваёй векавой культуры, свайго аблічча. Інакш ён — не народ, не гаспадар сам сабе, а бездапаможная асоба, пазбаўленая сілы волі, якая, як у той песні пяецца, "куды вецер вее — туды голле гнецца".

"Мова — гоман векавога бору, злітны ў адзіны, аднак кожнае слова, як і кожнае дрэва, мае свой голас і пошум, колер і смак, свой выгляд і лад", — пісаў Максім Лужанін Кандрату Крапіве ў сваім лісце ў маі 1979 года. Гэта гучыць моцна і сёння.

Твая мова — твая душа. Калі гэта добра ўцяміць кожны беларус і да канца сваіх дзён пранясе ў сваім сэрцы — Беларусь, як падкрэсліваў вялікі наш Янка Купала, зойме свой пачэсны пасад між народамі.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

— Чуў, на базары паявіліся ракі? — Дзіва што, ці не ўсе мы лавілі ракаў. — У нас ужо ракаў — кот наплакаў, а гэта імпартныя, ад палякаў, суседзі частуюць ракамі тымі. — А што ў іх — Вялікай не зналі Хіміі?

●

Наш вопыт карыстаецца попытам, бо ўсё ў нас без падману. За намі з вялізным клопатам сочыць таварыш Зюганаў. І няма тут нічога заганнага — празорлівы клопат у Зюганава.

●

— Чаму конь такі няўклюда? — спытала ўнучка, убачыўшы вярблюда. — А хто гэта іншы еў бы калючкі, — адказала бабуля на роспыт унучкі. — Усе мы, любая Люда, трошкі коні, а трошкі вярблюды.

●

За мітуснёй мурашынаю сочыць нядрэмнае вока... Асобы з аховай за спінаю, як ім парой адзінока. Баяцца кожнага шораху, подлага стрэлу з'падполля. Нават клятаму ворагу не пажадаеш такой долі.

●

Што ў дробных лічыць дасягненнем — узбуйненне ці здрабненне? Калі вымярэнне ў іх асобнае, дык ці ёсць там вялікія дробныя? І ці льга да іхняга ліку аднесці нашых дробных вялікіх? Спрабуеш падвесці агульную базу, а пытанняў больш, чым адказаў.

●

Юнацтва маё праляцела, як дым, і вось ужо старасць гудзе ў правады. А на гэтым свеце і, мабыць, на тым старасць да твару толькі святым. Злы перасмешнік, які я святы, мне б яшчэ неяк пажыць маладым, я б яшчэ, можа, смяяўся да слёз з гэтых старых, што драхлеюць усур'ёз.

●

Засядаюць у палатах спадары, быццам усё ад Бога, так і трэба. А над імі робяць страхары, і яны — што ні кажы — бліжэй да неба. Дык чаму не страхары — уладары, а тыя, што — скажам так — далей ад неба?

●

— Кінула, сяброўка, глядзець "Санта-Барбару", гэта не мастацтва, відовішча для варвараў. Чаго толькі набываюць прадукцыю танную. Слухай, а як там — знайшлі Адрыяну?

●

— Пастаўце мяне хоць раз перад Мак... — усё дабіваўся драматург, прозвішча якога пачыналася на Мам... І ці не дамогся свайго. Замест прозвішчаў у дакладах пачалі пералічваць назвы п'ес, але таксама па алфавіце. Зноў не пашэнціла: у Мам.., як назло, яны пачыналіся з канечных літар алфавіта. Апошні раз Мам... стрэўся мне радасна ўзбуджаны. — Назваў новую п'есу з прыназоўніка "Аб", пазмоўніцкі прашаптаў ён.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5647
Нумар падпісаны ў друк 30.10.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6394/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12